


Ірына Багдановіч

## Пазнаеце праўду…

На 108-ю гадавіну асвячэння
Чырвонага касцёла ў Мінску

*...пазнаеце праўду, а праўда вызваліць вас.*
(Ян 8, 32)

Ты, *homo viator**, у што́дні хлусні, пыхі, здрады,
Ў Чырвоным касцёле запаліш лампаду й якраз
Пачуеш, што кажа Адзіны Трымальнік улады:
*Пазнаеце праўду, а праўда вызваліць вас.*

Нявольнікі цемры, ярма і сваволяў грахоўных,
Не чуем, не бачым, але, каб ліхтар не пагас,
Чырвоны касцёл нас вітае абдымкам ахоўным:
*Пазнаеце праўду, а праўда вызваліць вас.*

Мая Беларусь, твой народ два стагоддзі няўмольна
З пустэльні Егіпецкай крочыць і крочыць; штораз
Гнятуць перашкоды, ды ў мудрасці чуем касцёльнай:
*Пазнаеце праўду, а праўда вызваліць вас.*

Так, праўда нас вызваліць толькі з граху і нядолі,
Зямлі абяцанай нам блісне акраса з акрас;
Любоў нам з Крыжа прамаўляе у кожным касцёле:
*Пазнаеце праўду, а праўда вызваліць вас.*

*25 лістапада 2018 г.,*
*у нядзелю Хрыста, Валадара Сусвету.*

* *Homo viator* (лац.) – чалавек-падарожнік.



**У нумары 4/2018**
**НАША ВЕРА**

## СВЯТЫ ЯН АД КРЫЖА

# УЗЫХОД НА ГАРУ КАРМЭЛЬ

ТРАКТАТ ПРА ТОЕ, ЯК ПАВІННА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДУША, КАБ ЗА КАРОТКІ ЧАС ДАСЯГНУЦЬ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. ПАРАДЫ І ПАВУЧЭННІ ЯК ДЛЯ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ, ГЭТАК І ДЛЯ ДАСВЕДЧАНЫХ, ВЕЛЬМІ КАРЫСНЫЯ, КАБ ВЫЗВАЛІЦЦА АД УСІХ РЭЧАЎ ДАЧАСНЫХ, НЕ АБЦЯЖАРВАЦЬ СЯБЕ ДУХОЎНЫМІ ПРЫВЯЗАНАСЦЯМІ І ЗАСТАЦЦА Ў НАЙВЫШЭЙШАЙ АГОЛЕНАСЦІ І СВАБОДЗЕ ДУХУ, НЕАБХОДНЫХ ДЛЯ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. НАПІСАНЫ АЙЦОМ КАРМЭЛІТАМ БОСЫМ, БРАТАМ ЯНАМ АД КРЫЖА.

## КНІГА ДРУГАЯ
## ДЗЕЙСНАЯ НОЧ ДУХУ

### Разуменне

**У якой ідзе гаворка пра веру як найпрасцейшы сродак, з дапамогаю якога можна ўзысці да злучэння з Богам. Маецца на ўвазе другая частка *Цёмнай ночы* — ночы духу, што апявае другая страфа песні.**

### Раздзел 10
### У якім гаворыцца пра тое, чым адрозніваюцца разумовыя веды і паняцці.

1. Перш чым падрабязна разабраць, калі разумовыя веды і паняцці з’яўляюцца карыснымі для душы, а калі яны наносяць ёй шкоду, з пункту гледжання веры, якая, як мы ўжо казалі, з’яўляецца сродкам для злучэння з Богам, неабходна растлумачыць, чым адрозніваюцца атрыманыя розумам натуральныя веды і паняцці ад звышнатуральных, для таго, каб далей, больш паслядоўна і з большаю дакладнасцю кіраваць розумам, які ўваходзіць у ноч і цемру веры. Паспрабуем зрабіць гэта па магчымасці сцісла.

2. Неабходна ведаць, што розум можа атрымліваць веды і паняцці двума спосабамі: натуральным і звышнатуральным. Натуральным чынам розум пазнае свет з дапамогаю цялесных пачуццяў ці праз сваю ўласную дзейнасць. Звышнатуральны чын пазнання — гэта той, калі розуму паведамляецца нешта звыш ягонай натуральнай здольнасці і навыкаў.

3. Таксама і духоўныя веды мы можам падзяліць на дзве групы: цялесныя і духоўныя. Цялесныя, у сваю чаргу, дзеляцца на тыя, што можна атрымаць праз вонкавыя цялесныя пачуцці, і тыя, што можна атрымаць праз унутраныя цялесныя пачуцці. Маецца на ўвазе ўсё тое, што можа зразумець, апрацаваць і ўбачыць уяўленне.

4. Духоўныя веды таксама падзяляюцца на зразумелыя і частковыя, і на няясныя, цёмныя, агульныя. Да першай групы належаць чатыры віды частковых ведаў, якія даюцца духу не праз нейкае цялеснае пачуццё, але праз бачанні, аб’яўленні, прамаўленні і духоўныя перажыванні. Веды цёмныя і агульныя з’яўляюцца толькі ў кантэмпляцыі, якая здзяйсняецца выключна ў веры. І мы павінны падрыхтаваць душу да гэтага і зрабіць так, каб яна прайшла праз усе тыпы ведаў. Мы пачнем тлумачыць першыя і скажам, як душа павінна пазбавіцца іх.

### Раздзел 11
### У якім ідзе гаворка пра тое, як могуць перашкодзіць ці нават нашкодзіць душы веды, якія розум атрымлівае звышнатуральным чынам праз вонкавыя цялесныя пачуцці, і што душа павінна рабіць у гэтым выпадку.

1. Як мы ўжо казалі ў папярэднім раздзеле, розум атрымлівае першыя веды натуральным чынам. Пра іх я ўжо гаварыў у першай кнізе, дзе

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2016 г.*

пазначыў для душы шлях праз *Ноч пачуццяў*. Таму я не буду нічога дадаваць, бо дастаткова таго, што мы ўжо выклалі. У гэтым жа раздзеле мы зоймемся выключна звышнатуральнымі ведамі, якія розум атрымлівае праз вонкавыя пачуцці: зрок, слых, нюх, густ і дотык, і праз якія духоўныя асобы могуць атрымаць звышнатуральным чынам духоўныя візіі. Праз зрок ім могуць з'явіцца персанажы з іншага жыцця, напрыклад, святыя, добрыя ці благія анёлы; гэта можа быць святло ці надзвычайнае ззянне. Слыхам можна пачуць дзіўныя словы, прамоўленыя з'явамі, нават нябачнымі. Нюхам часам успрымаюцца невядома адкуль узнікшыя найсаладзейшыя пахі. Тое ж здараецца з густам, калі нехта адчувае найпрыемнейшы смак; ці з дотыкам, калі адчуваецца такая прыемнасць, што працінае наскрозь, і калі ўсё ў нас квітнее і патанае ў задавальненні. Такі стан звычайна называецца духоўным намашчэннем, якое ўздзейнічае на ўсе часткі чыстай душы. Для духоўных асобаў такія духоўныя адчуванні звычайныя, бо яны паходзяць з прывязанасці і пачуццёвай пабожнасці духу ў большай ці меншай ступені, і кожнае перажываецца асаблівым чынам.

2. Неабходна ведаць, што нават калі ўсе гэтыя з'явы могуць здарыцца ў пачуццях пад уздзеяннем Бога, душа, аднак, ніколі не можа быць пэўнаю ў гэтым і таму не павінна іх прымаць. Больш за тое, яна павінна цалкам пазбягаць іх і нават не намагацца зразумець, добрыя яны ці благія, бо чым больш гэтыя з'явы вонкавыя і цялесныя, тым большая няпэўнасць, што яны паходзяць ад Бога, таму што Бог звычайна з большаю пэўнасцю яўляецца духу. Менавіта ў духу душа атрымлівае большую пэўнасць і карысць, чым праз пачуцці, у якіх звычайна тоіцца больш небяспекі і падману. Сапраўды, цялеснае пачуццё судзіць і мяркуе аб духоўных рэчах такім самым чынам, як іх адчувае, але яны настолькі адрозніваюцца ад духу, як цела ад душы і як пачуццёвасць ад розуму. І таму цялесныя пачуцці не ўсведамляюць рацыянальных рэчаў, а яшчэ больш яны не ўсведамляюць рэчаў духоўных, гэтаксама, як жывёліна не разумее рацыянальных рэчаў і нават больш за гэта.

3. Той, хто надае шмат значэння такім рэчам, вельмі памыляецца і трапляе ў небяспечнае становішча, бо можа быць уведзены ў зман ці, прынамсі, узвядзе ў сабе глухую сцяну, якая стане перашкодаю на яго духоўным шляху, бо ўсе гэтыя цялесныя рэчы, як ужо было сказана, абсалютна не адпавядаюць рэчам духоўным. І таму неабходна заўсёды мець на ўвазе, што, хутчэй за ўсё, такія адчуванні паходзяць не столькі ад Бога, колькі ад шатана, які мае большы ўплыў на ўсё вонкавае і цялеснае і з большаю лёгкасцю можа падмануць тут, чым ва ўнутраным і духоўным.

4. І гэтыя цялесныя прадметы і формы, чым больш яны вонкавыя, тым менш карысныя для ўнутранага і духоўнага, бо існуе вялікая адлегласць і вельмі малая адпаведнасць паміж цялесным і духоўным. І нават калі праз гэтыя з'явы паведамляецца нешта пра Бога, усё роўна гэта значна менш за тое, што магло паведаміцца, калі б гэтыя рэчы былі больш унутранымі і духоўнымі. Такім чынам, яны з'яўляюцца крыніцаю памылкі, пыхі і душэўнай марнасці. Прычына ў тым, што яны матэрыяльныя, а значыць да іх можна дакрануцца, і таму яны глыбока ўзрушаюць пачуцці. І менавіта таму, што яны пачуццёвыя, яны здаюцца душы больш значнымі, і яна крочыць за імі і забывае пра веру. Душы здаецца, што менавіта гэтыя адчуванні — яе святло і павадыр, сродак для дасягнення жаданай мэты — злучэння з Богам. На справе ж, чым больш душа звяртае ўвагу на гэтыя рэчы, тым больш яна аддаляецца ад сапраўднага шляху і сродку, якім ёсць вера.

5. І больш за тое, душа, як толькі яна пабачыць, што з ёю здараюцца надзвычайныя з'явы, вельмі часта пачынае патаемна песціць пэўнае задавальненне, мяркуючы, што яна з'яўляецца нечым асаблівым перад Богам. Гэта супярэчыць пакорлівасці. Са свайго боку таксама і д'ябал робіць усё, каб у душы ўзнікла прыхаванае пачуццё задавальнення сабою, якое часам бывае даволі яўным. І таму вельмі часта ён правакуе ў пачуццях гэтыя адчуванні, яўляючы вобразы святых і найпрыгажэйшыя ззянні ці падманныя словы, якія чуе слых, ці вельмі прыемныя водары, ці слодыч у роце, ці задавальненні ад дотыку. Усё гэта для таго, каб звесці такую душу і зацягнуць яе ў благое. Таму неабходна адкінуць усе гэтыя вобразы і адчуванні, нават калі ў некаторых выпадках яны могуць паходзіць і ад Бога. Гэтым душа не абражае Бога, і гэта не перашкаджае ёй дасягнуць выніку і плёну, якія Бог прагне для такой душы, нягледзячы на тое, што душа пагарджае гэтымі з'явамі і не шукае іх.

6. Прычына ў тым, што цялесныя бачанні ці адчуванні якога-небудзь з пачуццяў, ці якое іншае яўленне ўнутраных пачуццяў, калі яны паходзяць ад Бога, уздзейнічаюць на дух у той самы момант,

як толькі яны з'яўляюцца, і душа не мае ні магчымасці, ні часу, каб вырашыць, прымаць іх ці не. Бог адорвае гэтымі звышнатуральнымі з'явамі душу, якая па сутнасці не мае ні заслугі, ні здольнасці, і без усялякай заслугі ці асаблівай здольнасці душы Бог дзейнічае ў ёй па сваёй волі, адорваючы яе гэтымі рэчамі, паколькі яны здараюцца і ўспрымаюцца духам пасіўна. І таму, хоча таго душа ці не хоча, ад яе не залежыць з'яўленне гэтых рэчаў ці іх знікненне. Гэта як агонь, кінуты ў голага чалавека, абавязкова абпаліць яго, незалежна ад яго жадання, бо агонь мае сілу ўздзейнічаць такім чынам. Гэтаксама і бачанні, і добрыя яўленні, нават калі душа іх не прагне, перш за ўсё ўздзейнічаюць на яе, а не на цела. Бачанні ж і яўленні, якія паходзяць ад д'ябла, хоча гэтага душа ці не, выклікаюць у ёй замяшанне і абыякавасць, пыху і ганарлівасць духу. Але вынікі зла нельга нават параўнаць з вынікамі дабра, якое спараджаецца Божымі яўленнямі, бо д'ябал можа ўздзейнічаць толькі на першыя рухі волі, але далей, калі воля гэтага не хоча, ён не можа ёю кіраваць, і замяшанне будзе нядоўга панаваць у душы, калі толькі недахоп мужнасці і асцярожнасці не падоўжыць яго. І наадварот, Божыя бачанні і яўленні працінаюць душу і падштурхоўваюць волю да любові, нараджаючы ў душы вынікі, якім душа не можа супраціўляцца, гэтаксама, як вітраж не можа супраціўляцца сонечнаму промню.

7. Вось чаму неабходна, каб душа працівілася ўсім гэтым праявам, нават калі, як я казаў, яны могуць паходзіць ад Бога, бо калі яна захоча іх прыняць, яна сутыкнецца з шасцю перашкодамі. *Першая* заключаецца ў тым, што памяншаецца вера, бо тое, што спазнаецца пачуццямі, змяншае моц веры, таму што вера знаходзіцца па-над пачуццямі. І таму душа, якая не заплюшчвае вочы на ўсе гэтыя пачуццёвыя рэчы, аддаляецца ад адзінага сродка паяднання з Богам. *Другая* перашкода паўстае для духу, таму што, калі душа не адштурхоўвае ўсе гэтыя з'явы і затрымліваецца на іх, яе дух не ўзлятае на вышыні нябачнага. Менавіта таму Езус сказаў сваім вучням, што калі ён не адыдзе, Святы Дух не прыйдзе (Ян, 16,7). З гэтай самай прычыны Пан не дазволіў, каб Марыя Магдалена дакранулася да Ягоных ног пасля Яго Змёртвыхпаўстання, бо неабходна было, каб усё было заснавана на веры (Ян, 20,17). *Трэцяя* перашкода ўзнікае тады, калі душа прысвойвае ўсе гэтыя звышнатуральныя з'явы і перастае крочыць у напрамку да сапраўднага адрачэння і аголенасці духу. *Чацвёртая* перашкода заключаецца ў тым, што паступова душа губляе духоўныя набыткі, здзейсненыя ў ёй гэтымі з'явамі, а ўслед за гэтым — і духоўнае парыванне, якое яны выклікаюць унутры яе, таму што больш засяроджваецца на другасных, менш значных пачуццёвых аспектах і ўжо не атрымлівае ўсю шчодрасць духу, якія яны здзейсняюць у душы. Чым больш душа адмаўляецца ад усяго, што ёсць пачуццёвым, тым больш у ёй адбіваецца і захоўваецца чысты дух, вельмі адрозны ад усяго пачуццёвага. *Пятая* перашкода заключаецца ў тым, што паступова Божыя дары губляюцца, бо душа прымае іх як сваю ўласнасць, але не выкарыстоўвае іх. Прыўлашчваць Божыя дары і не выкарыстоўваць іх азначае, што душа хоча толькі іх, але Бог не адорвае яе імі толькі таму, што яна іх прагне. І больш за тое, душа ніколі не павінна быць пэўнаю, што гэтыя дары паходзяць ад Бога. *Шостая* перашкода ўзнікае тады, калі душа, прагнучы гэтых з'яваў, адчыняе дзверы д'яблу, які зводзіць яе іх падабенствам, бо ён ведае вельмі добра, як сімуляваць і закамуфляваць гэтыя з'явы такім чынам, каб яны падаліся добрымі, бо ён можа, як кажа Апостал, перамяніцца ў анёла святла (2 Кар 11, 14). З Божаю дапамогаю мы пагаворым аб гэтым у III кнізе ў раздзеле, прысвечаным духоўнай пажадлівасці.

8. І таму неабходна, каб душа з заплюшчанымі вачыма адкінула ўсе гэтыя з'явы, незалежна ад іх паходжання, бо калі яна гэтага не зробіць, яна дасць падставу д'яблу ашукаць яе і сама яму дапаможа ў гэтым, і разам з дарамі Божымі будзе атрымліваць і д'ябальскія падманы, пакуль яны не памножацца, а Божыя паступова знікнуць, і ўрэшце ўсё будзе толькі ад д'ябла і нічога ад Бога. Гэта здарылася з многімі неасцярожнымі і неразумнымі душамі, якія былі настолькі ўпэўненымі, атрымліваючы гэтыя рэчы, што пасля многія з іх павінны былі зрабіць неверагодныя высілкі, каб вярнуцца да Бога ў чысціні веры, а многія так і не здолелі вярнуцца да Яго, бо д'ябал ужо пусціў шмат каранёў у іх. Вось чаму неабходна зачыніць сваё сэрца для іх і адмовіцца ад іх цалкам. Адмовіўшыся ад благіх з'яваў, душа вызваліцца ад звадаў д'ябла, а адмовіўшыся ад добрых з'яваў, душа не будзе перашкаджаць веры, і дух атрымае свой плён ад іх. Апроч таго, Бог паступова змяншае колькасць добрых з'яваў, бо калі душа прывязваецца і робіць іх сваёю уласнасцю, яны не прыносяць ёй карысці, у той час як д'ябал сваімі намовамі, наадварот, павялічвае іх колькасць, таму што душа сама ства-

рае нагоду і становіцца дасяжнаю для іх. Калі ж душа ў пакорлівасці не прымае гэтыя дары, д'ябал адступае, бо бачыць, што не можа ёй нашкодзіць. Бог жа, наадварот, павялічвае і ўзвышае свае ласкі ў гэтай пакорлівай душы, вызваленай ад усяго, і *ставіць яе па-над многім*, як слугу, які *быў верным у малым* (Мц 25, 21).

9. Калі душа застанецца вернаю і адарванаю ад усіх гэтых дароў, Бог не спыніцца, пакуль не ўзнясе гэтую душу паступова, ступень за ступенню, да злучэння з Ім і да перамянення, таму што наш Пан такім чынам выпрабоўвае душу і ўздымае яе. Спачатку адорвае яе рэчамі вонкавымі і вельмі нізкімі ў тым сэнсе, што яны адпавядаюць яе пакуль малой здольнасці, і калі яна паводзіць сябе як трэба і прыме гэтыя першыя «прысмакі» са стрыманасцю, толькі каб узмацніцца і вытрываць, Бог узносіць яе да пасілку значна больш шчодрага. І такім чынам душа пераможа д'ябла на першым узроўні і пяройдзе на другі. І калі яна пераможа на другім, пяройдзе на трэці і гэтак да самага канца, праз усе сем узроўняў, якія адпавядаюць сямі ступеням любові, пакуль Суджаны не ўвядзе душу ў *келлю,* дзе яна знойдзе *віно* (Песня Песняў 2,4) дасканалай любові.

10. Благаслаўлёная душа, якая здолее перамагчы цмока Апакаліпсіса з сямю галовамі (Ап 13, 7), кожная з якіх працівіцца і ваюе з душою на сямі ступенях любові — сямі прыстанках, на кожным з якіх душа працуе для таго, каб асягнуць наступную ступень Божай любові. І калі душа на кожным узроўні любові будзе верна змагацца і перамагаць, безумоўна, яна заслужана будзе пераходзіць з аднаго ўзроўню на іншы, з адной ступені любові на іншую, да самай апошняй, пакідаючы за сабою сем адсечаных галоваў цмока, які змагаўся з ёю настолькі бязлітасна, што святы Ян сказаў, што дадзена яму было змагацца супраць святых і перамагчы іх, выкарыстоўваючы супраць кожнага дастаткова зброі і рыштунку (Ап 13, 7). І жалю вартыя тыя душы, уступіўшыя ў духоўную барацьбу з цмокам, якім не стае мужнасці, каб адсекчы першую галаву цмока, адмовіўшыся ад пачуццёвага дабра гэтага свету. Іншыя ж, якія адолелі першую галаву, марудзяць адсекчы другую, а значыць не могуць адмовіцца ад пачуццёвых з'яваў, пра якія мы гаворым. Але найбольш балюча тое, што некаторыя душы, адсекшы першую і другую галовы, і нават трэцюю, якая сімвалізуе ўнутраныя пачуццёвыя перажыванні і якія ўжо перайшлі са стану медытацыі ў стан больш прасунуты, у момант уваходу ў стан чыстага духу паддаюцца гэтаму духоўнаму цмоку, які іх перамагае і паўстае супраць іх, і ўваскрашае ў іх першую галаву. І тады ён «*ідзе і бярэ іншых сем духаў, злейшых за сябе, і яны, увайшоўшы, жывуць там. І бывае апошняе для чалавека таго горшым за першае*» (Лк 11, 26 ).

11. Дык вось, душа павінна вырачыся ўсіх дачасных уяўленняў і задавальненняў, якія даюцца ёй праз знешнія пачуцці, і калі яна хоча адсячы першую і другую галаву цмока, яна павінна ўвайсці спачатку ў першы пакой любові, а пасля ў другі пакой жывой веры, пакінуўшы ў баку ўсё пачуццёвае, што можа яе прывязаць ці абцяжарыць, тое, што найбольш шкодзіць веры.

12. І таму зразумела, што ўсе гэтыя бачанні і пачуццёвыя адчуванні не могуць быць сродкам паяднання з Богам, бо яны ніякім чынам не адпавядаюць Яму. Па гэтай прычыне Хрыстус не хацеў, каб ні Марыя Магдалена (Ян 20,17), ні Тамаш дакраналіся да Яго (Ян 20, 29). І таму д'ябал вельмі задаволены, пакуль душа прагне атрымаць аб'яўленні, і калі бачыць, што яна схільная да іх, тады ён мае дастаткова нагодаў і магчымасцяў, каб ашукаць душу і знішчыць у ёй веру, бо сапраўды такія душы, як ужо было сказана, пачынаюць працівіцца веры і прыцягваюць яшчэ больш спакусаў і небяспекі.

13. Я трохі затрымаўся на тлумачэнні гэтых вонкавых адчуванняў для таго, каб стала больш зразумела тое, пра што мы будзем гаварыць далей. Пра гэта можна было гаварыць бясконца. Разумею, што вельмі шмат чаго я скараціў, але мне здаецца, што я сказаў дастаткова, каб папярэдзіць душы, каб яны былі асцярожнымі і не прымалі, за рэдкім выключэннем, некаторыя з'явы, а калі і прымалі, дык без асаблівага жадання і толькі па парадзе вельмі мудрага чалавека. Цяпер усё пра гэта...

*Пераклад з іспанскай мовы Святланы Грэсві.*

*Працяг будзе.*

* У трактаце святога Яна ад Крыжа цытаты са Святога Пісання падаюцца на лацінскай мове. У беларускім тэксце яны пададзены ў перакладзе Святланы Грэсві.



*Шаноўныя чытачы, прапануем вам гутарку **кс. Адама Блышча CR** з журналістам і ватыканістам **Андрэа Тарнэллі** (нар. у 1964 г.), які працуе ў турынскім штодзённым выданні «La Stampa», вядзе аўтарскі блог «Sacri palazzi» і перадачу на італьянскім «Радыё Марыя», з'яўляецца аўтарам многіх публікацый, прысвечаных папству, кніг «Пій XII. Папа, які ратаваў габрэяў», «Santo Subito. Таямніцы святасці Яна Паўла II», «Carlo Maria Martini. Непакорны кардынал», «Францішак. Біяграфія Папы» і інш.*

# ІНТЭРНЭТ НАРАДЗІЎ ПАЧВАРАЎ

*— Калісьці кардынал Ратцынгер напісаў, што незалежна ад гістарычнай эпохі існуе ўсталяваны канон крытыкі Касцёла. Ці можам мы аналагічна сказаць, што праз пяць гадоў Пантыфіката ўсталяваўся канон крытыкі папы Францішка?*

— Несумненна, мы з'яўляемся сведкамі атакаў, якія не маюць нічога агульнага з сапраўднаю крытыкаю. Існуюць парталы, блогі і журналісты, якія імкнуцца знішчыць Папу, нягледзячы на тое, што ён гаворыць або робіць. У гэтым няма нічога новага. Калі пяцьдзясят гадоў таму Павел VI апублікаваў энцыкліку «Humanae vita», прысвечаную маральным прынцыпам у сферы перадачы жыцця, яго таксама знішчалі, перш за ўсё людзі з касцёльнага асяроддзя.

Аднак розніца ў тым, што цяпер вельмі моцна развіты сацыяльныя медыя. Усе могуць свабодна пакідаць каментары і пісаць, і ў гэтым часта не хапае пашаны да Францішка не толькі як да Папы, але як да чалавека. Нават можа скласціся ўражанне, што Папа не робіць нічога добрага.

*— У адным з артыкулаў на партале Vaticaninsider Вы каментуеце кнігу двух італьянскіх журналістаў — Нэлла Скава і Робэрта Бэрэтта, «Фальшывы Папа» («Fake Pope»). Аўтары прыводзяць у ёй 80 абвінавачванняў у адрас Папы. Сярод іх — супрацоўніцтва з аргенцінскаю дыктатураю, звязанаю з масонствам, маніпуляцыі падчас канклава, ерась, памылковыя намінацыі і няўменне кантактаваць з Рымскай Курыяй. У якіх асяродках, на Вашу думку, нараджаюцца такія абвінавачванні?*

— Перш за ўсё ў крайне традыцыяналісцкіх і кансерватыўных асяродках. Гэтыя абвінавачванні сфармуляваныя так, што іх аўтарам было б праблематычна прад'явіць іх публічна ці абараніць. Таму яны карыстаюцца сацыяльнымі медыя.

Напрыклад, ёсць фотаздымак кардынала Берголіо з ярмолкаю на галаве падчас наведвання сінагогі ў Буэнас-Айрэсе, што нібыта з'яўляецца доказам падпарадкавання Францішка габрэйскім масонам. Падобным чынам быў пракаментаваны візіт Святога Айца ў Яд ва-Шэм, дзе ён цалаваў далоні сабраных там людзей. Але гэта былі не прадстаўнікі габрэйскага масонства, а ахвяры Халакосту. Гэтым жэстам Францішак хацеў праявіць паша-

ну да іх і паказаць сваю блізкасць. Аднак маніпуляцыя фактамі заключаецца ў тым, каб вырваць штосьці з кантэксту.

Яшчэ адзін прыклад такой маніпуляцыі — падзея, якая адбылася падчас пілігрымкі Папы на Філіпіны. У Маніле Францішак сустрэўся з сем'ямі. Сацыяльныя медыя абляцеў здымак, на якім Папа нібыта склаў пальцы адной рукі ў сатанінскі сімвал рогаў. Я суправаджаў Папу ў гэтай пілігрымцы і быў на сустрэчы, пра якую ўзгадаў. У ёй удзельнічалі глуханямыя сем'і, якія карысталіся моваю жэстаў. Гэты жэст азначае «люблю цябе». Нямыя паказалі яго Папу, і ён зрабіў гэта для іх узаемна. Але няпраўды ўжо ніхто не абвергнуў.

*— Чаго баяцца асяродкі, якія атакуюць Папу?*

— Я не магу гэтага зразумець. Таксама і таму, што калі чую абвінавачванні ў ерасі, пытаюся: «Што такога Папа змяніў у дактрыне?» Пакуль нічога. Не было ніякіх зменаў!

Я думаю, са з'яўленнем папы Францішка многія зразумелі, што страчваюць сваю ўладу і ўплывы, што ў пэўнай ступені знікае мадэль Касцёла, да якой яны прызвычаіліся. Можна быць святаром, біскупам, кардыналам і думаць пра Касцёл толькі ў палітычным сэнсе. Але хто мае дар веры, павінен усвядоміць, што менавіта такога Папу хацеў Бог, каб штосьці сказаць мне. Асабіста мне. Не іншым, а мне.

*— Дык чаму навучыў Вас Папа?*

— Хаця б па-іншаму глядзець на бедных. І па-іншаму карыстацца грашыма. Ён так успрымае Евангелле ў гэты гістарычны перыяд. Позірк веры азначае, што я мушу задаваць сабе пытанні пра тое, як павінен жыць, а не паўтараць бесперастанку, што Папа нічога не разумее і я навучу яго быць Папам.

Калі ў кастрычніку 2013 года Францішак наведаў Асізі, ён пайшоў у «Серафікум», дзе шмат хворых маладых людзей, і бітую гадзіну вітаўся з кожным. На заканчэнне ён сказаў, што гэтак жа, як у Эўхарыстыі мы адаруем Цела Хрыста, так і ў гэтых нашых церпячых братах мы павінны бачыць цела Хрыста. У штодзённым італьянскім выданні «In Foglio» напісалі, што гэта ерэтычныя словы. Але ж Божа мілы, калі хтосьці ведае творы айцоў Касцёла, то ўзгадае гамілію святога Яна Хрызастома з IV стагоддзя, у якой гаворыцца, што не трэба пакрываць пазалотаю алтара, каб ушаноўваць цела Хрыста, бо цела Хрыста — ва ўбогім, які сядзіць перад касцёлам і не мае ў што апрануцца.

Інтэрнэт нарадзіў пачвараў. У атаках на Папу шмат невуцтва і бескультур'я. Многія называюць сябе спецыялістамі па дактрыне, хоць мала хто ведае гісторыю і тэалогію.

*— Вы сказалі, што Францішак навучыў Вас па-іншаму ставіцца да грошай. Чаму яшчэ ён Вас навучыў?*

— Несумненна, ён навучыў мяне па-іншаму ставіцца да церпячага чалавека, якому патрэбна вельмі канкрэтная дапамога; навучыў праяўляць міласэрнасць і дабрыню, не ацэньваючы і не асуджаючы. Мяне натхняе тое, як Папа гаворыць пра нашу эканамічна-фінансавую сістэму. Я перакананы, што ля вытокаў многіх атакаў на папу Францішка знаходзяцца людзі і масмедыя, якія насамрэч не заклапочаныя ніякімі зменамі ў дактрыне. Іх не цікавіць, ці ўдзеліць ксёндз Камунію ў якім-небудзь касцёле якой-небудзь пары, што жыве ў несакрамэнтальным саюзе.

Крытыка пачынанняў Папы для іх толькі нагода. Іх цікавіць тое, што Францішак скажа на тэму эканомікі ці гандлю зброяй. Яны ведаюць, што ён — лідар, які мае аўтарытэт і якога людзі слухаюць. У гэтым сэнсе Францішак перашкаджае ім, бо закранае іх інтарэсы.

*— Але папа Францішак, якога іншыя шмат крытыкуюць, сам таксама крытыкуе Касцёл! У апошнія месяцы ён зрабіў гэта ў лістах да епіскапата Чылі пасля выкрыцця скандалу, звязанага з педафіліяй. На падставе следства арцыбіскупа Чарльза Шыклуна Папа вызначыў дыягназ: «Недастаткова звольніць асобных людзей з пасадаў, калі вінаватая ўся сістэма!» Гэта не першы Папа, які хоча ачысціць Касцёл. Бэнэдыкт XVI на працягу васьмі гадоў свайго Пантыфіката звольніў 70 біскупаў, у сярэднім — па адным у месяц, але мы ніколі не чулі з яго вуснаў ні пра якую сістэму.*

— У Касцёле ў Чылі сапраўды сур'ёзныя праблемы. Справа не толькі ў сексуальных злоўжываннях ці выкарыстанні ўлады. Мы маем справу з сітуацыяй, калі епіскапат стаў кастаю. Многія біскупы ажно да сустрэчы з Францішкам не ўсведамлялі дыстанцыі, якая існуе паміж імі, пастырамі, і вернікамі.

Калі Францішак сказаў пра сістэму, ён меў на ўвазе клерыкалізм — цяжкую хваробу

нашага часу. Яна праяўляецца ў тым, што духавенства (біскупы, прэзбітэры) лічаць сябе проста недатыкальнаю кастаю. Ім здаецца, што яны могуць навучаць, але іх ніхто навучаць не павінен. Францішак жа гаворыць, што пастыр павінен быць на чале статку, каб весці яго, у сярэдзіне статку — каб быць з людзьмі, і ў канцы статку — каб тыя, хто аслаб, не згубіліся. Касцёл — гэта святы Божы народ. І прэзбітэры з біскупамі павінны быць з'яднаныя з народам Пана.

*— У кантэксце клерыкалізму часта гаворыцца пра лобі, якое прасоўвае канкрэтных людзей да біскупскага пасвячэння.*

— Гэта датычыць усіх мясцовых Касцёлаў. Відавочна, што кожны з іх мае свой характар у залежнасці ад кантэксту, але несумненна, што спосаб выбару біскупаў у наш час з'яўляецца праблемаю. На працягу стагоддзяў Касцёл выкарыстоўваў розныя працэдуры. Цяпер вядзецца дыскусія пра сітуацыю ў Кітаі і гаворыцца пра дэградацыю, бо ўрад Кітая мае свой погляд на біскупскую намінацыю. А ў Венесуэле ажно да 1960 года біскупаў выбіраў парламент. У Еўропе, у Аўстра-Венгерскай імперыі, біскупаў прызначаў імператар. Затое ў Германіі да нашага часу біскупы выбіраюцца на катэдральных капітулах. Я не хачу гэтым сказаць, што мы павінны выбіраць біскупаў праз народныя выбары, бо гэта дакладна немагчыма, але несумненна тое, што трэба вызначыць крытэрыі такіх намінацый, каб кандыдатамі станавіліся найлепшыя святары.

*— Якім павінен быць узорны біскуп, на думку папы Францішка?*

— Папа звяртае ўвагу на тое, што біскуп — гэта перш за ўсё пастыр. Не прафесар, не клаўзуровы містык, не дасканалы тэолаг. Зразумела, вельмі добра, калі ў ім спалучаюцца гэтыя рысы, але перш за ўсё ён павінен быць пастырам. Ён можа пытацца парады ва ўсіх тэолагаў свету, але нідзе не сказана, што ён сам павінен быць тэолагам.

*— А Ратцынгер?*

— Ён быў выключэннем. Трэба прызнаць, што ў гісторыі Касцёла нямногія Папы былі тэолагамі.

*— І нямногія былі дактарамі Касцёла.*

— Калі б мне трэба было пералічыць характэрныя рысы біскупа-пастыра, то я сказаў бы, што гэта павінен быць чалавек, якому блізкае звычайнае жыццё людзей, парафіі ці дыяцэзіі. Такім чынам, усё яго святарскае жыццё да біскупскай намінацыі не павінна праходзіць у студэнцкай аўдыторыі ці за сталом у біскупскай курыі. Я асабіста не прызначаў бы біскупам таго, хто ніколі не быў пробашчам, а значыць, не ведае праблемаў людзей і слаба арыентуецца ў душпастырстве.

*— Звычайны біскуп не ведае, колькі каштуе бохан хлеба, бо не ходзіць у крамы, не карыстаецца гарадскім транспартам, не мае кантакту з людзьмі.*

— Відавочна, біскуп павінен быць чалавекам, які ведае жыццё свайго народа і ўдзельнічае ў гэтым жыцці. Ён таксама павінен быць айцом для сваіх святароў, заўсёды трымаць адчыненымі для іх дзверы, каб яны маглі прыйсці паразмаўляць. Калі ў ксяндза ёсць праблема, біскуп не павінен яго адсылаць, робячы выгляд, што нічога не сталася. Як айцец ён мусіць адважна змагацца з праблемаю свайго святара. Смешны той біскуп, які не мае за сабою духавенства сваёй дыяцэзіі.

*— Вернемся на хвіліну да клерыкалізму. Ці не склалася ў Вас уражанне, што пасланне адгартацыі «Amoris laetitia», у якой робіцца вялікі акцэнт на сумленне верніка, агольвае бяздушны клерыкалізм як пагрозу для Касцёла?*

— Несумненна, так і ёсць, хоць не трэба забываць, што ў меркаванні папы Францішка няма нічога новага. Ён усяго толькі развівае дапушчэнне Яна Паўла II з адгартацыі «*Familiaris consortio*» 1981 года. Рашэнне дапускаць да прыняцця Камуніі разведзеных, якія жывуць як брат з сястрою, было вялізным крокам у вучэнні Касцёла. Раней такіх людзей успрымалі як яўных грэшнікаў, а паводле Кодэкса Кананічнага Права з 1917 года экскамунікавалі.

*— Напэўна, Яну Паўлу II не хапіла настойлівасці, бо ён чакаў індывідуальнага распазнавання кожнай сітуацыі, але на практыцы гэта заключалася ў выкарыстанні адной і той жа нормы ва ўсіх сітуацыях.*

— У Касцёле заўсёды існавала такая практыка, што чым бліжэйшаю была пэўная норма да канкрэтнага жыцця, тым больш яна давала прасторы для распазнавання. Ведаю біскупаў, якія лічацца кансерватарамі і ў сітуацыі паўторных саюзаў да-

валі дазвол на прыняцце святой Камуніі.

*— Што гэта значыць?*

— Што існуе норма, якая дзейнічае ў дыялогу сумлення верніка са святаром.

*— У чым заключаецца праблема «Amoris laetitia»?*

— Папа ўскладае на святароў вялікую адказнасць. Было б лягчэй і прасцей увесці новую норму ў Кодэкс Кананічнага Права ці стварыць падручнік па спаведніцтве, дзе сказана, што выпадкі «A», «B» і «C» можна разграшыць, а выпадкі «D», «E» і «F» ужо нельга. Гэта значыць, што ты прыходзіш да споведзі, а спаведнік дастае падручнік, ацэньвае ўмовы — і ўсё зразумела. Ты ні пра што не павінен думаць. Адказвае за гэта Папа.

Мне ўзгадваецца аргенцінскі капуцын, айцец Дрына, які вечарам, пасля цэлага дня ў канфесіянале, меў звычай станавіцца перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам і маліцца такімі словамі: «Прабач мне, Пане, бо сёння я зашмат прабачыў, але гэта Твая віна, бо Ты даў мне дрэнны прыклад». Гэта значыць, што перад Богам святар таксама прымае на сябе частку адказнасці за дадзеную сітуацыю.

*— Вернемся яшчэ на хвіліну да сістэмы. Як вылечыцца ад хваробы, якая падточвае арганізм Касцёла?*

— Гэта доўгі працэс. Трэба пачаць з выбару кандыдатаў у святарства і задумацца над тым, як выглядае фармацыя ў семінарыі. Патрэбныя таксама біскупы, якія будуць бачыць праблему клерыкалізму і захочуць з ёю змагацца. Трэба змяняць звычкі. Святар не можа быць тым, хто мае ўладу над вернікамі. Для яго прыкладам заўсёды павінен быць Езус Хрыстус і Яго міласэрнасць. Ён парушаў існуючыя традыцыі, сядаў за адзін стол з найгоршымі грэшнікамі, што выклікала абурэнне сярод людзей.

*— Святары павінны рабіць гэтаксама?*

— Так павінны рабіць усе хрысціяне, супраціўляючыся пануючаму апартунізму. Толькі такім чынам яны пакажуць свету хрысціянскага Бога, які не задавольваецца тым, што ў статку ёсць 99 авечак, і адпраўіцца на пошукі адной заблукалай.

*— У чым заключаецца рэформа Францішка?*

— Упэўнены, што ён застанецца ў нашай памяці не як Папа вялікіх структурных рэформаў, хоць яны і былі праведзеныя. IOR — Ватыканскі банк — функцыянуе ўсё лепш, мы чакаем канстытуцыі, якая рэфармуе Рымскую Курыю і нагадвае вялікі будаўнічы пляц.

Найважнейшаю рэформаю папы Францішка з'яўляецца рэформа сэрца — душпастырскае навяртанне, пра якое столькі гаворыцца.

Францішак паказвае, што Бог хрысціянаў не з'яўляецца суддзёю, які глядзіць на чалавека зверху, каб даць яму па галаве, а прытульвае чалавека, перш чым яго асудзіць; Бог гаворыць гэтаму чалавеку, што любіць яго, перш чым скажа, што ў яго жыцці не так. Гэта адносіны любові, абдымкі міласэрнасці, якія дазваляюць чалавеку зразумець, што ён з'яўляецца грэшнікам.

Так было з Закхеем. У Евангеллі не ўзгадваецца, што ён перажываў нейкі містычны крызіс альбо не хацеў навярнуцца. Проста ён быў цікаўным. І каб убачыць Езуса, узлез на дрэва. Езус заўважыў яго і сказаў, што хоча спажыць ежу ў яго доме.

Падчас ежы Закхей сказаў, што палову маёмасці аддае бедным, а калі кагосьці пакрыўдзіў, то аддае ў чатыры разы больш. Гэта значыць, што Закхей краў.

*— І што ведаў закон, бо ў Рымскім кодэксе і ў Законе Майсея гаворыцца пра злачынства пад назваю «furtum manifestum» — нахабны крадзеж, за які накладаліся менавіта такія санкцыі: трэба было вярнуць у чатыры разы больш за скрадзенае.*

— Калі хтосьці назірае за дынамікаю такога навяртання, ён убачыць, што найперш чалавек адкрывае, што яго любяць. Яго ўспрымаюць з любоўю, а не паводле прадпісанняў закону. Гэта важна ў евангелізацыі. Гэтаму мы вучымся ў папы Францішка.

*Пераклала з польскай мовы*
*Ганна Шаўчэнка.*
*Паводле: «W drodze», № 8, 2018 г.*

Кс. Ян Гурскі

# Місіі — святая справа Касцёла

**Касцёл на перыферыі**

Выконваючы сваю місійную задачу, Касцёл знаходзіць штораз новыя прасторы і магчымасці для евангелізацыі. На працягу стагоддзяў парадыгма місій пашыралася і змянялася, бо неабходна было вывучаць, аналізаваць новыя выклікі і дастасоўваць да іх абвяшчэнне Евангелля.

Папа Францішак звярнуў увагу на перыферыю Касцёла як місійную катэгорыю, што патрабуе новай успрымальнасці і метадаў: «Касцёл, які „выходзіць у дарогу“ — гэта Касцёл з адчыненымі дзвярыма. Выйсці насустрач іншым, каб дасягнуць людской перыферыі, не азначае бегчы ў свет без мэты і сэнсу. У многіх выпадках лепш запаволіць крок, супакоіцца, каб паглядзець у вочы і пачуць, або адкласці тэрміновыя справы, каб спадарожнічаць таму, хто застаўся на ўзбочыне дарогі» (EG 46). Розныя сітуацыі, якія здараліся падчас пастырскага служэння будучага папы Францішка ў Аргенціне, давалі яму магчымасць рэлігійнага досведу адносна перыферыі Касцёла і фарміравання ў сабе ўражлівасці на людскую бяду[1]. У адказ на гэта ўзніклі розныя плыні тэалогіі вызвалення.

Паняцце перыферыі сустракалася яшчэ ў вучэнні Яна Паўла ІІ. У энцыкліцы «*Redemptoris missio*», апісваючы «Місійныя колы», ён распавядае пра новыя выпадкі, сацыяльныя з'явы, культурную прастору — робіць высновы пра «сучасныя арэапагі» (RMs 37).

Місія — гэта радаснае выйсце на шлях сустрэчы і дынамізму. Папа Францішак піша: «Сёння мы не патрабуем „звычайнага кіравання“. Давайце ж будзем ва ўсіх рэгіёнах зямлі ў „пастаянным стане місіі“» (EG 25). Радасць Евангелля — гэта місійная радасць (EG 21), яна прадугледжвае пэўную свабоду, адыход ад схемаў, фантазію.

Місійная парадыгма вымагае асабістага распазнання паклікання і змены ладу жыцця. Гэта датычыцца зменаў у функцыянаванні розных структураў у Касцёле: «Празмерная цэнтралізацыя замест таго каб дапамагаць ускладняе жыццё Касцёла і развіццё яго місійнага дынамізму» (EG 32). Гэта не прапанова пэўнай адвольнасці, а змена крытэрыяў — са «зручнага пастырскага крытэрыя, „што заўсёды так было“» (EG 33), на місійны, што датычыцца парафіяльнага душпастырства і місіі ўсяго Касцёла. Для таго, каб належным чынам выканаць пастаўленыя задачы, патрэбна супрацоўніцтва экзэгетаў і тэолагаў (EG 40). «Разнастайнасць дапамагае паказваць і лепш развіваць розныя аспекты невычэрпных багаццяў Евангелля» (EG 40). Гэта дапаможа лепш выказаць праўду Евангелля (EG 41). Аднаўленне формаў выказвання неабходнае для таго, каб перадаваць нязменны сэнс Евангелля. З гэтаю мэтаю трэба браць пад увагу розныя абмежаванні тых людзей, якім абвяшчаецца Евангелле. Касцёл — гэта святыня «з адчыненымі дзвярыма» (EG 41). Адсюль паходзіць пастулат пра тое, што шлях да Бога трэба паказваць не праз памнажэнне наказаў і забаронаў, а праз абвяшчэнне Божай міласэрнасці. У такім Касцёле прывілеяванае месца заўсёды займаюць бедныя (EG 48).

Цяжка лепш скончыць працытаваны фрагмент адгартацыі «Evangelii gaudium», як згадкаю Святога Айца пра месца, дзе ён вырас, атрымаў фармацыю і нёс служэнне, — пра Лацінскую Амерыку: «Паўтараю тут для ўсяго Касцёла тое, што шматразова казаў святарам і свецкім вернікам у Буэнас-Айрэсе: я аддаю перавагу Касцёлу пабітаму, зраненаму і бруднаму, бо ён выйшаў на вуліцу, чым Касцёлу хвораму ад замкнёнасці і камфорту, засяроджанаму на ўласнай бяспецы. Не хачу Касцёла, які заклапочаны быць цэнтрам, які ўрэшце замыкаецца ў гушчары дакучлівых ідэй і працэсаў» (EG 49).

Цікавы погляд папы Францішка на горад як месца евангелізацыі (EG 71). Ён падкрэслівае ўсе фактары, спрыяльныя для місіі. Звычайна горад успрымаюць як пагрозу для веры. Святы Айцец звяртае ўвагу на тыя фактары, якія не спрыяюць сустрэчы з Богам: «Гэта змушае нас шукаць новыя формы малітвы і зносін, якія былі б больш прыцягальнымі і зразумелымі для жыхароў горада» (EG 73). Спатрэбяцца новыя місійныя метады, якія яшчэ больш улічвалі б міжкультурны і міжрэлігійны дыялог. «Касцёл пакліканы да цяжкага дыялогу» (EG 74). Прысутнасць Касцёла ў гарадах — шанец для аднаўлен-

**Ксёндз прэлат доктар Ян Гурскі** — святар Катавіцкай архідыяцэзіі, прафесар Сілезскага ўніверсітэта ў Катавіцах, загадчык кафедры фундаментальнай тэалогіі, місіялогіі і хрысціянскай філасофіі. Аўтар шматлікіх публікацый у галіне місіялогіі.







ня жыцця ў гэтым асяроддзі. І гэта натуральная задача, якая патрабуе даследавання сучаснага жыцця горада.

**Мігранты з пазаеўрапейскіх краінаў — гэта пагроза?**

Апошнім часам еўрапейскія краіны штурмуюць вялікія натоўпы мігрантаў. З'ява міграцыі часта станавілася прычынаю вялікіх культурных зменаў. Яе прычыны таксама бываюць розныя (кліматычныя змены, войны, катаклізмы, голад). Патрэбны глыбокія даследаванні, каб належным чынам ацаніць гэтыя прычыны і ў будучыні знайсці рашэнне.

У Старым Запавеце таксама закранаецца праблема міграцыі. Сам Ізраэль быў мігрантам у егіпецкай няволі (Зых 22, 20). Пан Езус таксама быў мігрантам. Святая Сям'я ў спешцы ўцякала з Ізраэля ў Егіпет, на афрыканскі кантынент, з-за пагрозы пераследу: «Анёл Пана з'явіўся Юзафу ў сне і сказаў: „Устань, вазьмі Дзіця і Маці Яго і ўцякай у Егіпет, і будзь там, пакуль не скажу табе, бо Ірад будзе шукаць Дзіця, каб загубіць Яго". Падняўшыся, ён узяў Дзіця і Маці Яго ноччу і адправіўся ў Егіпет» (Мц 2, 13–14). Пра гэта згадвае і Ян Павел II у апостальскай адгартацы «*Ecclesia in Africa*», выдадзенай у 1995 г. (EA 81). Касцёл у Егіпце часта звяртаецца да гэтага факта ў розных формах пабожнасці.

Спасланне Духа Святога (Дз 2, 1–12) адбылося для «ўсялякага народу пад небам» (Дз 2, 5). Апісваючы жыхароў Юдэі, аўтар гаворыць пра парфянаў і мідзянаў, эламітаў і выхадцаў з Месапатаміі, Юдэі і Кападоцыі, Понта і Азіі, Фрыгіі і Памфіліі, Егіпта і частак Лівіі, сумежных з Кірэнаю, згадвае таксама прыезджых рымлянаў, празелітаў, крыцянаў і арабаў.

Папа Францішак сцвярджае: Хрыстус мае аблічча бежанца — мігранта[2]. Міграцыя заўсёды нясе з сабою зарад эмоцый, звязаных з культураю, моваю, рэлігіяй, звычаямі. Часта гэта сустрэча з новаю групаю людзей, з іх норамі і традыцыямі. Ды не проста сустрэча, а сапраўднае сутыкненне культураў. Нельга ўспрымаць гэта негатыўна. Часта такое сутыкненне дае новы стымул для развіцця рэлігіі і культуры. Ян Павел II заўважыў: «У святле вялікіх пераменаў сучаснага свету міграцыя — гэта новая з'ява: нехрысціяне ў вялікай колькасці прыбываюць у краіны, якія здаўна з'яўляюцца хрысціянскімі, і ствараюць новыя нагоды для кантактаў і культурнага абмену, пабуджаючы Касцёл да гасціннасці, дыялогу, дапамогі — адным словам, да братэрства. Сярод мігрантаў бежанцы займаюць асаблівае месца і заслугоўваюць асаблівай увагі» (RMs 37). У гэтым тэксце таксама ідзе гаворка аб прычынах міграцыі: палітычны ўціск, беднасць, голад, засуха.

Неспакой выклікае прыбыццё людзей, якія належаць да іншых рэлігій, асабліва да ісламу. На жаль, мы не заўважаем, што сярод бежанцаў з Блізкага Усходу і з Афрыкі ёсць таксама хрысціяне, якія належаць да старажытных Касцёлаў: мараніты, армяне, копты[3]. Часам яны складаюць большасць. Трэба прызнаць, што веды пра гэтыя Касцёлы ў заходнім грамадстве яшчэ слабыя. Неабходна глыбей пазнаёміцца з вучэннем Сіноду Біскупаў па справах Блізкага Усходу, выкладзеным у «*Ecclesia in Medio Oriente*» (2012). Пэўныя парады мы знойдзем таксама ў буле папы Францішка «*Misericordiae Vultus*» (2015), дзе абвяшчаецца Год Міласэрнасці і згадваюцца ўчынкі міласэрнасці для цела і душы бліжняга (MV 16). Аднак мы забыліся пра гэтую цяжкую навуку. Міласэрнасць пераўзыходзіць межы нашай рэлігіі і яднае нас з прадстаўнікамі іншых рэлігій, юдаізму або ісламу (MV 23). Гэта важны напамін у нашым зямным пілігрымаванні.

Хрысціяне з усходніх Касцёлаў шукаюць паратунку і дапамо-

гі ў братоў. Трэба пазнаёміцца з іх гісторыяй, традыцыямі, літургіяй. Варта было б даведацца, што адчуваюць тыя, хто імкнецца ў хрысціянскую Еўропу.

### Еднасць хрысціянаў — рэальнасць або ўтопія?

Папа Францішак у адгартацыі «*Evangelii gaudium*» (2015) сцвярджае, што экуменічная дзейнасць — гэта адказ на малітву Езуса Першасвятара (гл. Ян 17, 21; EG 244).

На працягу XX стагоддзя ў хрысціянстве ўжо існавала перакананне ў неабходнасці імкнуцца да еднасці. Другі Ватыканскі Сабор вучыць: «Адсутнасць еднасці цалкам супярэчыць волі Хрыста, з'яўляецца спакусаю для свету і пры гэтым прычыняе шкоду найсвяцейшай справе абвяшчэння Евангелля ўсялякаму стварэнню» (UR 1). Рух да еднасці фарміраваўся паступова, найперш у пратэстанцкіх асяродках. З 1908 г. хрысціяне розных Касцёлаў збіраюцца на супольную малітву[4]. Пра імкненне да еднасці шмат гаварыў Ян Павел II у энцыкліцы «*Ut unum sint*» (1995).

Апрача тэалагічнага дыялогу, які вядзецца паміж канфесіямі на тэму прызнання хросту, разумення Эўхарыстыі ці служэння ў супольнасці, утварыўся вялікі харызматычны рух, які можна назваць «разнароднасцю паяднання» (арцыбіскуп Альфонс Носсаль). Пасля доўгіх гадоў інтэнсіўных пошукаў, чаканняў і надзеяў настаў час спакою. Аднак гэта не можа азначаць адабрэння падзелу. Таму з радасцю трэба распазнаваць новыя знакі, на якія звяртае ўвагу папа Францішак: экуменізм крыві, сяброўства, цярплівасці, вытрымкі. «Для тых, хто пераследуе, мы не падзеленыя, мы не з'яўляемся лютэранамі, праваслаўнымі, каталікамі, евангелістамі… Не! У іх вачах мы адзіныя»[5]. Евангелізацыя свету — гэта выклік для хрысціянаў. Год Міласэрнасці быў часам адкрыцця гэтага вымярэння (MV 16).

### Місіі — евангелізацыя — новая евангелізацыя

2013 год мы перажывалі як Год веры, абвешчаны яшчэ папам Бэнэдыктам XVI[6], прычым з моцным місійным акцэнтам, які быў характэрны таксама для Сусветных дзён моладзі ў Рыа-дэ-Жанэйра (2013) і ў Кракаве (2016). Святы Айцец Францішак выразна падкрэсліў неабходнасць абвяшчаць Евангелле. Заключнае пасланне на Сусветных днях моладзі гучала вельмі ясна: «Ідзіце і абвяшчайце Евангелле». Да гэтага ён заклікаў таксама ў Пасланні на місійны тыдзень 2013 г. (хацелася б звярнуць увагу на тое, што гэта першае пасланне цяперашняга Папы).

Касцёл «па сваёй сутнасці з'яўляецца місійным» (AG 2). Прапаную ключ для новага погляду на місіі ў святле праблемаў і выклікаў, перад якімі Касцёл і місіянеры апыналіся на працягу стагоддзяў.

Місіі праводзіліся з першых дзён існавання Касцёла. Апосталы абвяшчалі Евангелле «ad gentes». Гэтая фармулёўка нарадзілася з першых словаў саборнага дэкрэту і ў беларускім перакладзе дакумента гучыць як «да народаў» (AG 1). Ян Павел II у энцыкліцы «*Redemptoris missio*» такім чынам тлумачыць, як трэба разумець місію: «Першая сітуацыя — гэта тая, у якой місійная дзейнасць Касцёла скіраваная да народаў, грамадстваў і сацыяльна-культурных асяродкаў, у якіх Хрыстус і Яго Евангелле яшчэ не вядомыя <…>. Гэта і ёсць місія «*ad gentes*» у дакладным сэнсе слова» (RMs 33). У наш час гэтае паняцце развіваецца далей, і можна гаварыць пра місію «inter gentes», якая яшчэ больш акрэслівае місійную сутнасць Касцёла. Кожны Касцёл, нават яшчэ малады і бедны, павінен актыўна ўдзельнічаць у місійнай справе. Папа Францішак яднае місійнасць з касцёльнасцю. Таму місіі — не адвольныя дзеянні, а святая справа Касцёла. Зрэшты, кожны абавязаны ўдзельнічаць у евангелізацыі свету, а прынцып прыналежнасці да Касцёла павінен яднаць і натхняць на харызматычныя дзеянні.

Вобраз Касцёла, які жыве сярод розных народаў, культураў, моваў і рэлігій, захавае нас ад спакусы ставіць сябе ў цэнтр. Езус Хрыстус — цэнтр нашай веры. Такім чынам, місіі — гэта пошук шляхоў, якімі мы можам даносіць святло веры да кожнага (EG).

Узгадаем яшчэ адно выказванне папы Францішка: «Слухаючы Духа, які дапамагае нам супольна распазнаваць знакі часу, з 7 па 28 кастрычніка 2012 года адбылося XIII звычайнае агульнае пасяджэнне Сіноду Біскупаў на тэму „Новая евангелізацыя для пераказвання хрысціянскай веры". Падчас яго згадвалася, што новая евангелізацыя як заклік скіравана да ўсіх і ў асноўным рэалізуецца ў трох напрамках. У першую чаргу адзначым сферу *звычайнага пастырства*, „якое найбольш павінна ажыўляцца агнём Духа, каб распальваць сэрцы вернікаў, якія рэгулярна ўдзельнічаюць у супольнасці і збіраюцца ў дзень Пана, каб насычацца Яго словам і Хлебам вечнага жыцця" (Бэнэдыкт XVI). Гэтая сфера ўключае таксама вернікаў, якія захоўваюць жывую і шчырую каталіцкую веру і выяўляюць яе рознымі спосабамі, хоць не ўдзельнічаюць часта ў здзяйсненні культу. Гэтае пастырскае служэнне накіравана на ўзрастанне вернікаў, каб яны штораз паўней адказвалі на лю-

боў Бога ўсім сваім жыццём.

На другім месцы згадваем сферу „*ахрышчаных, якія, аднак, не жывуць паводле патрабаванняў хросту*“ (Бэнэдыкт XVI), не належаць усім сэрцам да Касцёла і не перажываюць больш суцяшэння, якое вынікае з веры. Касцёл, як маці, заўсёды рупіцца, каб яны перажылі навяртанне, якое вярнула б ім радасць веры і жаданне пранікнуцца Евангеллем.

Урэшце адзначым, што евангелізацыя істотна звязана з абвяшчэннем Евангелля тым, *хто не ведае Езуса Хрыста ці заўсёды адкідаў Яго.* Многія з іх, таксама і ў краінах са старажытнай хрысціянскай традыцыяй, таемна шукаюць Бога, ахопленыя тугой па Яго абліччы. Усе маюць права прыняць Евангелле. Хрысціяне абавязаны абвяшчаць яго ўсім без выключэння, не як тыя, хто навязвае новы абавязак, але як тыя, хто хоча падзяліцца радасцю, хто паказвае прыгожы далягляд, прапануе жаданую гасціну. Касцёл пашыраецца не дзякуючы празелітызму, але „дзякуючы прываблівасці“ (Бэнэдыкт XVI)» (EG 14).

### Місіі скіраваныя да кожнага чалавека

Нягледзячы на тое, што доўгія стагоддзі пасля вялікіх геаграфічных адкрыццяў дамінаваў тэрытарыяльны вобраз місійнай евангелізацыі, Касцёл увесь час сустракаўся з чалавекам — сваім земляком, вызнаўцам іншай рэлігіі, з іншай культуры. Чалавек заўсёды з'яўляецца адрасатам місіі Касцёла і клопатам Бога.

Першы раз рассылаючы Апосталаў, Пан Езус дае ім указанні: «На шлях язычнікаў не ўзыходзьце і ў гарады самарыйскія не ўваходзьце. Але перадусім ідзіце да загубленых авечак з дому Ізраэля» (Мц 10, 5). Гэта можа быць успрынята як абмежаванне місій (часовае). Напрыканцы таго ж Евангелля ёсць урачысты місійны наказ, які ахоплівае ўсіх людзей: «Дадзена Мне ўсялякая ўлада на небе і на зямлі. Дык ідзіце і навучайце ўсе народы, і хрысціце іх у імя Айца і Сына, і Духа Святога» (Мц 10, 6). У гэтым кантэксце трэба бачыць прыярытэт выбранага народа. Думка пра збаўчы ўніверсалізм становіцца ўсё больш асэнсаванаю. Ужо св. Павел сцвярджае: «А Пан стаў пры мне і ўмацаваў мяне, каб праз мяне здзейснілася прапаведаванне, і каб пачулі ўсе язычнікі…» (2 Цім 4, 17).

«Аднак абвяшчэнне Божага Валадарства — гэта не проста слова і не проста вучэнне. Гэта здарэнне — як і сам Езус з'яўляецца здарэннем і Словам Бога ў самой сваёй Асобе»[7].

Гэтая думка прысутнічае таксама ў выказваннях папы Францішка: «Усе народы і культуры маюць права атрымаць пасланне збаўлення, якое з'яўляецца дарам Бога для ўсіх»[8].

Зразумела, думка пра тое, што Евангелле адрасаванае ўсім людзям, часам выклікае пярэчанні. Як абвяшчаць Езуса людзям, якія ставяцца да Яго непрыязна або нават варожа? Часта можна сустрэць пярэчанні, выкліканыя неразуменнем Яго вучэння. Бар'ерам можа быць сам Касцёл з яго знешнім вобразам. Малюючы цудоўны вобраз эсхаталагічнай будучыні, Пан Езус вучыць: «Прыйдуць з усходу і з захаду, з поўначы і з поўдня і сядуць за стол у Валадарстве Божым. І вось, апошнія будуць першымі, а першыя будуць апошнімі» (Лк 13, 29–30).

Аднак у штодзённым жыцці ў краінах з даўняй хрысціянскай гісторыяй мы адчуваем як бы маўчанне Бога. Чэшскі тэолаг Тамаш Галік піша: «Я перакананы, што сталенне ў веры звязана таксама з прыняццем і перажываннем такіх хвілінаў — а часам і доўгіх перыядаў, — калі Бог здаецца далёкім, калі Ён застаецца ва ўкрыцці. Бо тое, што відавочнае і доказнае, не вымагае веры»[9]. Тут мы перажываем цяжкасці — як з боку хрысціянаў, так і з боку тых, да каго скіраваныя місіі. Бог аднолькава прысутнічае ва ўсім свеце. Адкрыць Яго ў нашым жыцці і ў гісторыі свету — задача місіі Касцёла.

*Пераклала з польскай мовы Ганна Шаўчэнка.*
*Паводле: ks. Jan Górski «Pozukiwania w wierze».*

**Скарачэнні:**

**EG** — Францішак. Апостальская адгартацыя «*Evangelii gaudium*».
**RMs** — Ян Павел II. Энцыкліка «*Redemptoris missio*».
**EA** — Ян Павел II. Апостальская адгартацыя «*Ecclesia in Africa*».
**MV** — Францішак. Була «*Misericordiae Vultus*».
**UR** — Дакументы Другога Ватыканскага Сабору. Дэкрэт пра экуменізм «*Unitatis redintegratio*».
**AG** — Дакументы Другога Ватыканскага Сабору. Дэкрэт пра місійную дзейнасць Касцёла «*Ad gentes*».

1 Пар. Cichy, D. Odnowa gorliwości misyjnej według papieża Franciszka, Lumen gentium 2/2014. — S. 162–165.
2 Пар.Franciszek. Orędzie na Dzień Migranta.
3 Пар. Kościoły wschodnie // Communio, 4. – 1993.
4 Wezwani, by ogłaszać wielkie dzieła Pana. Materiały na Tydzień Modlitw o jedność chrześcijan. — Warszawa, 2015. — S. 3.
5 Пар. Kasper, W. Papież Franciszek. Rewolucja czułości i miłości. — Warszawa, 2016. — S. 94.
6 Пар. Бэнэдыкт XVI. Апостальскае пасланне «*Porta fidei*».
7 Benedykt XVI. Jezus z Nazaretu. Cz.1. Od chrztu w Jordanie do Przemienienia. — Kraków, 2007. — S. 150.
8 Franciszek. Orędzie na światowy Dzień Misyjny: misja *ad gentes* jako ogromne dzieło miłosierdzia (2016).
9 Halik, T. Cierpliwość wobec Boga. — Kraków, 2011. — S. 8.

Эла Дзвінская

# Беларусь глыбей пазнае гісторыю стварэння Бібліі

Важная падзея стала працягам святкавання 500-годдзя беларускай Бібліі — упершыню ў нашу краіну прыбылі каштоўныя рарытэты сусветнага значэння: каля 200 ўнікальных рукапісных і старадрукаваных помнікаў кніжнай культуры, якія адлюстроўваюць гісторыю стварэння, распаўсюджвання і захавання Бібліі.

З 20 верасня па 21 кастрычніка ў Музеі кнігі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі праходзіла міжнародная выстава **«Беларусь і Біблія»**, прысвечаная самай вядомай і ўплывовай кнізе чалавецтва.

Адкрываючы выставу, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Раман Матульскі адзначыў, што асноўнай місіяй галоўнай асветніцкай установы краіны з'яўляецца захоўванне духоўнай спадчыны і дэманстраванне агульначалавечых здабыткаў, якія перамяняюць свет да лепшага.

На ўрачыстасці адкрыцця выставы 20 верасня прысутнічалі прадстаўнікі Каталіцкага Касцёла, Праваслаўнай Царквы, пратэстанцкіх супольнасцяў, святары і пастары, габрэйскія духоўныя кіраўнікі, прадстаўнікі дзяржаўных структураў. Цудоўная музыка капэлы «Санорус» стварыла атмасферу любові і дабрыні, напаўняючы сэрцы прысутных радасцю.

«Біблія з'яўляецца дзейсным словам Божым. Выстаўка будзе спрыяць міжканфесійнаму дыялогу», — запэўніў Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі. Благаслаўленне важнаму мерапрыемству ад Мітрапаліта Паўла перадаў протаіерэй Сергій Гардун, член Біблейскай Камісіі Беларускай Праваслаўнай Царквы.

«Выстава непаўторная тым, што ўпершыню дэманструе ўсю гісторыю стварэння і распаўсюджвання Бібліі. Падобная экспазіцыя разгортвалася да гэтага толькі ў Ганконгу. І вось выбар выпаў менавіта на Беларусь, таму што наша краіна адзначала ў мінулым годдзе 500-годдзе беларускай Бібліі», — адзначыў супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі Андрусь Унучак.

Дзейнасць выставы стала магчымай дзякуючы дзелавым кантактам, якія ўсталяваліся паміж бібліятэкай і амерыканскімі даследчыкамі падчас дэманстравання ў ЗША факсімільнага ўзнаўлення «Кніжнай спадчыны Францыска Скарыны» і супрацоўніцтва падчас правядзення Міжнароднага кангрэса «500 гадоў беларускага кнігадрукавання» ў 2017 годзе ў Мінску.

Арганізатарамі выставы выступілі Нацыянальная бібліятэка Беларусі і «Група даследавання рукапісаў» (ЗША). У яе падрыхтоўцы прынялі ўдзел дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі, намеснік дырэктара Аляксандр Суша, дырэктар арганізацыі «Група даследаванняў рукапісаў» Скот Кэрал, выканаўчы дырэктар праекта «Inspired» Дэвід Эдзінгтан, арганізатар праекта Павел Дзядчэнка, а таксама прадстаўнікі навуковых і грамадскіх арганізацый.

На выставе былі прадстаўлены выданні Бібліі розных канфесій на розных мовах свету — помнікі сусветнага значэння, многія з якіх ніколі раней не экспанаваліся ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Вялікую каштоўнасць мае, напрыклад, фрагмент пешэра ( каментара) Ісаі, які датуецца І стагоддзем да Нараджэння Хрыстовага, знойдзены ў пячоры ў Кумране. Каментарый апавядае пра рэлігійную палітыку ў Ерузалеме і небяспечную прысутнасць рымлянаў. Іншы сувой, знойдзены ў Кумране, апісвае правілы жыцця габрэйскай абшчыны, рэлігійныя дактрыны і палітычнае становішча. Унікальныя знаходкі ўпершыню былі даступныя для азнаямлення беларусам.

У экспазіцыі была прадстаўлена лацінская Вульгата з Францыі XIII стагоддзя, урывак з Евангелля ад Яна, перапісаны ў Арменіі, Тадж-Тора з Емена на іўрыце, арабскай і арамейскай мовах. Вельмі ўразілі наведвальнікаў выставы такія рарытэты, як эфіопскі Псалтыр, самаранская Тора, індыйская Тора ў срэбным футарале, сувой Эстэр, выраблены ў Кітаі і перавезены ў Англію. Цікавасць выклікалі і Паліглоты — шматмоўныя Бібліі. Лонданская Паліглота 1653–1656 года адначасова змяшчае тэксты на іўрыце, сірыйскай, арамейскай і іншых мовах.

Адзін з тэматычных раздзелаў выставы быў прысвечаны гісторыі Бібліі на беларускіх землях. Дасягненні айчыннай кніжна-пісьмовай культуры былі паказаны як неад'емная частка агульнасусветнай культуры і духоўнай спадчыны. Кніжны фонд Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі дазволіў прадэманстраваць Слуцкае і Тураўскае Евангеллі,



Адкрыццё выставы «Беларусь і Біблія» ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Апосталы XVI—XXI ст., выданні Францішка Скарыны і яго паслядоўнікаў, шэдэўры выдавецкага мастацтва знакамітых друкароў, пераклады біблейскіх тэкстаў на беларускую і еўрапейскія мовы, а таксама прыклады мастацкага афармлення Святога Пісання лепшымі майстрамі XVI–XXI стст.

Біблія з'яўляецца найбольш прадаванаю ў свеце кнігаю: сярэднегадавы аб'ём яе продажу складае 100 мільёнаў асобнікаў і мае значны ўплыў на сусветную літаратуру і мастацтва.

Змест Святога Пісання цягам тысячагоддзяў вывучалі святыя айцы Царквы: Ян Залатавусны, Еранім Стрыдонскі, святы Аўгустын, Рыгор Багаслоў, Леў Вялікі, Кірыл Ерузалемскі, Васіль Кесарыйскі і іншыя. Беларускія пісьменнікі таксама звярталіся да біблейскіх тэмаў і сюжэтаў, вобразна перастваралі іх, каб наблізіць да сучаснікаў сэнс і змест псальмаў, прыпавесцяў Саламонавых, кнігі Эклезіяста і інш. Францыск Скарына, Францішак Багушэвіч, Максім Багдановіч, Янка Купала, Наталля Арсеннева, Вінцук Адважны чэрпалі свае вобразы ў Старым і Новым Запаветах.

«Беларуская кніжная традыцыя грунтуецца на Бібліі, — адзначыў Алесь Суша. — Біблія — самая доўгажывучая і найбольш перапісаная кніга. Таму мы збіраем яе асобнікі і знаёмім з імі наведвальнікаў. Мы ўпершыню прадэманстравалі ў Беларусі арыгіналы і якасныя выставачныя копіі скруткаў Мёртвага мора, біблейскіх рукапісных тэкстаў на папірусе і пергамене (Торы), каштоўных манускрыптаў, старадрукаваныя выданні Ёгана Гутэнберга, Марціна Лютэра, Францішка Скарыны, ілюстраваныя асобнікі Бібліі з гравюрамі Альбрэхта Дзюрэра, Густава Дарэ, Сальвадора Далі».

Археолаг і гісторык доктар Скот Кэрал і яго жонка Дэніс прыбылі ў Мінск са штата Мічыган (ЗША). Скот Кэрал — дырэктар даследчага цэнтра, які вывучае старажытныя рукапісы, працуе са студэнтамі. «Мая сфера даследаванняў, — сказаў ён — старажытныя скруткі, папірусы на розных старажытных і сярэднявечных мовах. Я сабраў дзве вялікія ўласныя калекцыі. Атрымалася прывезці ў Мінск экспанаты з вялікай калекцыі музея Бібліі ў Вашынгтоне. Калі я кіраваў гэтым музеем, удалося сабраць 55 тысяч экспанатаў. Я даследаваў рукапісныя біблійныя тэксты, традыцыі стварэння Бібліі ў Германіі, Англіі і іншых краінах».

Амерыканскі археолаг даў магчымасць студэнтам семінарыі разгарнуць і патрымаць у руках старажытны скрутак Торы і распавёў пра 4000 правілаў для перапісчыкаў Святога Пісання. Мэтаю яго прамоваў і лекцый было пацвердзіць гістарычную праўдзівасць Бібліі.

Адным з самых дарагіх экспанатаў для Скота Кэрала з'яўляецца рукапісны спіс Евангелля з Кітая часоў культурнай рэвалюцыі Мао, калі трымаць Біблію



Студэнты семінарыі разгортваюць скрутак Торы.





Экспанаты выставы.

было строга забаронена. Знаходка пацвярджае імкненне мець дома тэкст з Біблії.

Адзін з амерыканскіх гасцей, Джон Слайф, распавёў пра драматычную гісторыю перакладу Біблії на англійскую мову: Уільям Ціндэйл быў спалены на вогнішчы ў XVI ст. за спробу зрабіць пераклад на нацыянальную мову. Яго справу працягнуў яго сябра Дэвід Кавердэйл, які і пераклаў на англійскую мову Новы Запавет. На выстаўцы экспанавалася Біблія Дэвіда Кавердэйла і Жэнеўская Біблія 1560 года, якую таемна дастаўлялі ў Англію ў сярэдзіне XVI ст., бо пераклад на нацыянальную мову быў забаронены. І толькі ў часы праўлення каралевы Елізаветы стала магчымым друкаваць Жэнеўскую Біблію ў Англіі.

Беларусь атрымала ўнікальную магчымасць для глыбокага пазнання гісторыі стварэння і распаўсюджвання Біблії. «Нам даецца магчымасць напоўніць сябе Духам Святым, паглыбіць нашу веру і веды ў гісторыі найбольш уплывовай Кнігі чалавецтва», — падкрэсліў протаіерэй Алег Голубеў, прадстаўнік Інстытута тэалогіі.

26 верасня адбыўся Міжнародны круглы стол па тэме «Беларусь і Біблія» ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі «Групы даследавання рукапісаў» (ЗША), вядомыя даследчыкі кніжнай культуры і літаратуры, спецыялісты ў галіне багаслоўя, спецыялісты з Нацыянальнай акадэміі навук, выкладчыкі і студэнты розных навучальных установаў краіны, сябры грамадскіх арганізацый, духоўныя асобы. З цікавымі паведамленнямі выступілі кандыдат культуралогіі Аляксандр Суша, прафесар Людміла Іванова, доктар маральнай тэалогіі Ірына Дубянецкая, доктар Оксфардскага Цэнтра місіянерскіх даследаванняў Брус Андэрсан, доктар Скот Кэрал, пастар Антоній Бокун, старшыня Беларускага біблійнага таварыства Аляксандр Ферысюк і іншыя.

Дыскусія закранула пытанні ўплыву Біблії на культуру і філасофскую думку Беларусі, распаўсюджанне Біблії ў культурнай прасторы краіны.

Удзельнікі дыскусіі прыйшлі да высновы пра неабходнасць аб'яднаць намаганні Нацыянальнай бібліятэкі, грамадскіх арганізацый, навучальных установаў, хрысціянскіх канфесій, каб працаваць супольна і пашыраць уплыў Біблії ў грамадстве і медыйнай прасторы, яшчэ больш узняць Кнігу кніг на той высокі ўзровень, на якім яна была ў часы Францыска Скарыны.

Удзельнікі круглага стала сардэчна падзякавалі Скоту Кэралу і Аляксандру Сушу за арганізацыю ўнікальнай выставы «Біблія і Беларусь», якая стала яркай падзеяй грамадскага жыцця краіны. Выстава паслужыла выдатнай пляцоўкай для правядзення лекцый па гісторыі стварэння і распаўсюджання Святога Пісання і змястоўных інтэлектуальных дыскусій. У зале адукацыйных тэхналогій бібліятэкі прайшлі лекцыі па гісторыі Біблії прапаведніка і пісьменніка Джоша Макдаўэла з ЗША і даследчыка Берасцейскай Біблії і іншых рэлігійных аспектаў жыцця ў ВКЛ доктара Бруса Андэрсана.

Для наведвальнікаў выставы была арганізавана лекцыя «Біблія і навука» з удзелам лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў галіне ядзернай энергетыкі Кенэта Брокмана (ЗША).

Госці выставы паспрабавалі сябе ў якасці перапісчыкаў — яны стварылі агульны скрутак, запісаўшы на ім некалькі вершаў з псальмаў. Наведвальнікам малодшага ўзросту была прапанаваная шматфункцыянальная інтэрактыўная пляцоўка з друкавальным варштатам. Дзеці з задавальненнем збіралі пазлы на біблійныя тэмы і расфарбоўвалі карцінкі з улюбёнымі сюжэтамі.

Выстава была важнай для навукоўцаў і даследчыкаў, карыснай для студэнтаў-гісторыкаў і навучэнцаў нядзельных школаў, апірышчам для катэхетаў, дапамогай святарам і пастарам, цікавай і захапляльнай для ўсіх.

*Фота аўтара.*

Алесь Жлутка

# Францішак Скарына: па навуку ў Падую

### Падуя. «Доктар у лекарскіх навуках»

«Доктар вызваленых навук, сын нябожчыка Лукі з Полацка Францішак Скарына», як названы ён у падуанскіх дакументах, выпраўляўся ў Падую ўвосень 1512 г. У гэты час у вайне камбрайскай лігі на поўначы Італіі з Венецыянскай рэспублікай, куды ўваходзіла Падуя, настала невялікая перадышка. У горадзе з яго славутым універсітэтам з 5 да 9 лістапада таго ж года ён складзе іспыты і здабудзе яшчэ адзін не менш паважаны тытул доктара лекарскіх навук, як будзе называць сябе ў прадмовах да кніг Бібліі, якія пачне выдаваць у «слаўным месце пражскім».

Побыт Скарыны ў Падуі адлюстраваны ў экзаменацыйных дакументах, якія сёння захоўваюцца ў двух падуанскіх архівах. Тры экзаменацыйныя дакументы Скарыны захоўваюцца ва Універсітэцкім архіве ў кодэксе пад назваю Акты надання акадэмічных ступеняў. У Архіве біскупскай курыі захоўваецца яшчэ адзін дакумент, які дублюе апошні запіс за 9 лістапада Універсітэцкага архіва. Дакумент адметны тым, што ў ім Скарына названы сакратаром дацкага караля[9].

Першы дакумент Скарыны ў кодэксе з Універсітэцкага архіва за 5 лістапада — гэта ўдзяленне яму Святой Калегіяй дактароў вызваленых навук (Калегіі артыстаў) і медыцыны ласкі т.зв. *gratia* — ласкі-дазволу на складанне іспытаў. У другім дакуменце за 6 лістапада занатаваны пробны іспыт[10]. Трэці і чацвёрты дакументы запісаныя адпаведна натарыем Святой Калегіі і натарыем біскупскім. Гэта пратаколы апошняга, г.зв. прыватнага іспыту, які адбываўся ў біскупскім палацы, пасля чаго кандыдат быў абвешчаны доктарам медыцыны і атрымаў адпаведныя доктарскія рэгаліі[11].

У XVI ст. наданне доктарскай ступені ў Падуанскім універсітэце адбывалася ў тры этапы: спачатку кандыдат прасіў у Святой Калегіі ласкі *gratia* на складанне іспытаў, пасля чаго вытрымліваў *tentativum* пробны і затым апошні *privatum* прыватны іспыт, які завяршаўся абвяшчэннем яго доктарам і ўручэннем доктарскіх знакаў.

Як праходзіў увесь працэс набыцця доктарскага тытула? Кандыдат сам з'яўляўся ў Святую Калегію альбо прасіў прадставіць сябе перад ёю некага з сяброў Калегіі. Ён павінен быў засведчыць, што пэўную колькасць гадоў наведваў адпаведныя ўніверсітэцкія заняткі, вёў публічныя дыспуты, прадугледжаныя статутамі, і гарантаваў аплату патрэбнай сумы, якая была даволі высокаю. Часта кандыдаты прасілі вызваліць іх ад аплаты хаця б паловы ці нават усёй сумы, прыводзячы такія аргументы як аддаленасць ад дома, адмысловыя заслугі, цяжкае фінансавае становішча з-за вайны, павадкаў, неўраджаяў ці падаючы рэкамендацыйны ліст[12]. Калегія праз галасаванне выказвала сваю згоду ці нязгоду. Скарына быў вызвалены ад аплаты з прычыны аддаленасці ад дому і як «бедны»[13].

Затым палачанін павінен быў абраць прамотараў з ліку сяброў Святой Калегіі, з якімі нейкі час мусіў рыхтавацца да іспытаў. У іх прысутнасці ён склаў першы пробны іспыт. На ім ён павінен быў асвятліць і абмеркаваць пэўныя пытанні, гэтак званыя *puncta*, прызначаныя яму прыблізна за 12 гадзінаў перад іспытам пунктатарамі, і адказаць на іх заўвагі. Вынік іспыту вырашаўся таемным галасаваннем сяброў экзаменацыйнай камісіі, якая складалася з той жа Святой Калегіі.

Выдатны, бліскучы вынік пазначаўся формулай *nemine penitus dissentiente | discrepante* (увогуле без галасоў супраць), вынік здавальняючы — *a maiori parte* (большасцю галасоў). Але здараліся выпадкі, калі кандыдаты былі *reprobati*, г.зн. «завальвалі» іспыт. На прыватным іспыце кандыдат павінен быў выказацца па зададзеных яму папярэдне пунктах і абараніць свае тэзы і меркаванні па іх. Апошні іспыт Ф. Скарыны адзінагалосна быў адзначаны як бліскучы. У канцы іспыту яму былі ўручаныя доктарскія знакі[14]. На апошнім іспыце прысутнічалі віцэ-канцлер універсітэта, віцэ-рэктар, сябры Калегіі і сведкі. На іспытах

*Заканчэнне. Пачатак у № 3 за 2018 г.*

**Алесь ЖЛУТКА** — кандыдат філалагічных навук (абараніў дысертацыю па лацінскай паэзіі Беларусі эпохі Асветніцтва). Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Заполле на Магілёўшчыне. Закончыў аддзяленне класічнай філалогіі Львоўскага ўніверсітэта імя І. Франко (1983 г.) Падрыхтаваў да выдання кнігу дакументаў і сведчанняў «Міндаў — кароль Літовіі» (Мінск, 2005). Пераклаў на беларускую мову паэзію Гарацыя, байкі Эзопа і творы анакрэотыкаў. Займаецца даследаваннем ранняй гісторыі Касцёла на Беларусі, беларускай анамастыкай.

Скарыны прысутнічалі 32 асобы, большасць з якіх належала да Святой Калегіі дактароў вызваленых навук і медыцыны.

Падуанскі ўніверсітэт з'яўляўся фактычна карпаратыўнай установай, што складалася са Святой Калегіі: карпарацыі дактароў — выкладчыкаў на чале з выбарным прыёрам, і карпарацыі студэнтаў з выбарным рэктарам. Карпарацыя студэнтаў як бы наймала дактароў для навучання. Абедзве карпарацыі кіраваліся ўласнымі статутамі. *Sacrum Collegium* — калегія дактароў, якая абслугоўвала навучальную сферу ўніверсітэта, паводле статутаў 1433 г. мусіла складацца з 20-ці асобаў, але пазней іх колькасць паступова павялічвалася. У склад калегіі маглі ўвайсці толькі нараджэнцы Падуі ці Венецыі, пераважна з вышэйшых колаў грамадства, якія здабылі доктарскую ступень у Падуі і тут жылі. На агульным сходзе калегіі з ліку яе членаў на чатыры месяцы абіраўся прыёр, які кіраваў дзейнасцю калегіі і навучальным працэсам, наладжваў узаемадзеянне са студэнцкай карпарацыяй і мясцовымі ўладамі. Прыёр мог прызначыць з ліку членаў калегіі віцэ-прыёра — намесніка, які замяняў яго ў выпадку хваробы ці выезду з Падуі, але не больш чым на 1 месяц. Калі прыёр адсутнічаў даўжэй, прызначаліся перавыбары. Пры ўступленні прыёра на пасаду выбіраліся таксама два дарадцы, з якімі ён мусіў узгадняць скліканне сходу калегіі і іншыя пытанні дзейнасці калегіі. Адначасова таксама выбіралі масарыя, які дбаў пра фінансавыя справы калегіі, і сіндыка, у кампетэнцыі якога былі юрыдычныя пытанні і які, у адрозненне ад іншых, займаў пасаду не чатыры месяцы, а год[15].

Духоўным кіраўніком універсітэта, які даваў ліцэнцыю і падпісваў дыплом новага доктара, з'яўляўся канцлер універсітэта. Ім станавіўся чарговы Падуанскі біскуп. У час іспытаў Скарыны ім быў Сікст Гара дэля Равэрэ — Падуанскі біскуп, кардынал-прэзбітэр, пляменнік па маці тагачаснага папы Юлія II. Канцлер мусіў прысутнічаць на апошнім іспыце, але амаль заўсёды яго замяшчаў віцэ-канцлер, біскупскі вікарый. Канцлер прысутнічаў толькі тады, калі іспыты складаў яго прыбліжаны альбо высокапастаўленая ўплывовая асоба[16]. На экзамене Скарыны біскупа замяняў яго вікарый Павел Забарэла, славуты тым, што прысутнічаў пры цудзе крывацячэння ўкрыжавання ў касцёле *Santa Maria dei Servi* ў Падуі, калі ў лютым 1512 г. на працягу пятнаццаці дзён, а затым яшчэ адзін раз у Вялікую пятніцу з твару і левага боку Збаўцы сачылася кроў, якую Забарэла сабраў у адмысловы флакон.

Ход іспытаў заносіўся ў пратаколы, што вёў натарый, які пасля іспыту афармляў і дыплом новага доктара. Атрыманне ласкі і пробны іспыт натаваў універсітэцкі натарый, а апошні прыватны — універсітэцкі і натарый біскупскай курыі, які складаў свой пратакол. Натарый дакладна занатоўваў дадзеныя кандыдата: імя, прозвішча, імя бацькі, паходжанне (г.зн. горад, краіна), а таксама ўпісваў прамотараў і сведкаў, іншыя звесткі (прысутнасць рэктара і канцлера, вынік экзамену). Усё гэта потым павінна было ўносіцца ў дыплом. Ва ўрачыстай і нервознай атмасферы іспыту, у канцы якога ўручаліся доктарскія знакі, і на якім прысутнічала вялікая колькасць незнаёмых людзей, натарыю было складана і нават немагчыма скласці падчас іспыту дакладны дакумент. Яму, безумоўна, была патрэбная дапамога, якую аказваў сам кандыдат. Гэта пацвярджаецца цудам захаванымі цыдулкамі, напісанымі прамаванымі, якія выразным почыркам упісвалі свае дадзеныя, імёны прамотараў і сведкаў. Сведкамі, напэўна, былі асобы больш блізкія да будучага доктара альбо тыя, каго ён запрасіў дзеля асабістага прэстыжу ці падтрымкі. Але натарый выкрэсліваў з доўгага спісу сведкаў у цыдулцы, пададзенай кандыдатам, апошнія імёны і пакідаў толькі самыя важныя, запісаныя першымі, і іх уносіў у пратакол. З дапамогаю гэтай цыдулкі натарый і складаў пратакол, змест якога потым уносіў у дыплом. Прыватны іспыт, абвяшчэнне доктарам і ўручэнне доктарскіх знакаў адбывалася ў біскупскім палацы. Уся гэтая ўрачыстая падзея адлюстроўвалася ў тэксце дыплома. Дыплом выпісваў натарый, які вёў пратакол прыватнага іспыту. Ён рабіў гэта пазней, у спакойнай атмасферы свайго кабінета, за што атрымліваў ад новага доктара адпаведную плату, якая звычайна складала адзін дукат (залатая манета вагою 3,5 г. 986 пробы) [17]. Дыпломы пісаліся на пергамене, у час Скарыны ўжо гуманістычным пісьмом, акуратным і прыгожым, і мелі стандартны фармуляр. Такі дыплом з'яўляецца фактычна перапісаным ва ўрачыснай форме запісам, зробленым раней у рэгістрах біскупскай курыі. Усё гэта дазваляе з вялікай дакладнасцю рэканструяваць тэкст дыплома Скарыны. Ніжэй мы падаем пераклад рэканструяванага дыплома, які павінен быў атрымаць Францішак Скарына адразу пасля прыватнага іспыту. Рэканструкцыя была зробленая на падставе пратаколу прыватнага іспыту Францішка Скарыны[18] і копіі дыплома доктара медыцыны Гераніма Рубэуса, выдадзенага 1 лютага 1507 г.[19]

* * *

Усім разам і кожнаму паасобку, хто будзе бачыць гэты доктарскі прывілей [Павел Забарэла, доктар святой тэалогіі, з ласкі

Бога і Апостальскага Пасаду біскуп Аргоса, суфраган, наместнік і вікарый у духоўных справах правялебнага ў Хрысце айца і пана, пана Сікста з міласэрнасці Божай кардынала-прэзбітэра тытулу св. Пятра ў Кайданах, віцэ-канцлера святога Рымскага Касцёла ды нязменнага адміністратара Падуанскага Касцёла, найдастойнейшага графа Сака і апостальскага канцлера гэтай славутай Падуанскай вучэльні][20], паведамляем. Мы [Павел Забарэла, памянёны вікарый], [уладаю згаданага правялебнага пана Падуанскага біскупа згодна з ягонай біскупскай кампетэнцыяй] пры ўдзеле пана [выдатнага доктара мастацтваў і медыцыны, пана Францішка Фульманэлі з Вероны, віцэ-рэктара] паноў артыстаў Падуі [праз вялебную Калегію артыстаў, дактароў той жа вучэльні] паддалі [выбітнага магістра, сына нябожчыка пана Лукі Скарыны з Полацка, русіна доктара мастацтваў], прадстаўленага нам, папярэдне вызначыўшы [згодна са звычаем] пытанні [ў медыцыне], [пільнаму і строгаму іспыту]. І паколькі на гэтым іспыце, паведамляючы свае пытанні ды па чарзе адбіваючы і ясна вырашаючы сумніўныя довады і любыя запярэчанні, зробленыя яму, хоць яны былі цяжкія і заблытаныя, праявіў і паводзіў сябе нагэтулькі добра, пахвальна і выдатна, што ўсімі дактарамі памянёнай Калегіі, там прысутнымі, аднадушна і згодна, і ўвогуле без галасоў супраць, быў прызнаны годным і [дастатткова дасведчаным у медыцыне], [як з відавочнасцю вынікае з іхніх галасоў, пададзеных на пісьме пры таемным галасаванні]. Таму [мы ў імя Бога ўхвалілі] таго ж магістра [Францішка] і надалі яму ліцэнцыю [паведамляючы і абвяшчаючы здольным, годным і дастаткова дасведчаным, каб мецъ, валодаць і выконваць абавязак і годнасць доктара медыцыны], і зыходзячы з гэтага [ўрачыста учынілі і прызначылі яго доктарам медыцыны, а таксама чынім і прызначаем гэтым лістом]. Дазваляем яму як здольнаму і дастаткова дасведчанаму, найбольш годнаму гэтай прамоцыі, узысці на магістарскую катэдру ды папрасіць і атрымаць ад сваіх прамотараў доктарскія адзнакі, а ягоным прамотарам аддаць іх яму, таксама надаем яму свабодную ліцэнцыю, магчымасць і поўную ўладу і права, каб мог свабодна чытаць, весці заняткі, навучаць, дыспутаваць, каментаваць, практыкаваць, тлумачыць, вызначаць пытанні, кіраваць школамі, прызначаць бакалаўраў, цешыцца і карыстацца ўсімі і кожнымі прывілеямі і прэрагатывамі, выняткамі, вольнасцямі і свабодамі, наданнямі, годнасцямі, ласкамі, дазволамі ды іншымі любымі правамі, як бы яны не называліся, і якімі цешацца і карыстаюцца з апостальскіх і імператарскіх ці іншых касцёльных альбо свецкіх наданняў і прывілеяў дактары і магістры Парыжскай, Оксфардскай, Балонскай і Саламанскай вучэльняў, падданых Рымскай Курыі, а таксама карыстаюцца і могуць потым цешыцца згодна са зместам, моцаю, формаю і гучаннем апостальскіх прывілеяў, нададзеных найвышэйшымі Пантыфікамі памянёнай Падуанскай вучэльні. Пасля таго як гэта было паводле права ўчынена, каб той жа пан [Францішак], новы доктар, быў прызнаны ўсімі, што гэтую годнасць здабыў згодна з правам, доктар мастацтваў і медыцыны [пан магістр Барталамей Барызон падуанец], ягоны прамотар ад імя свайго і [дактароў мастацтваў і медыцыны: пана магістра Францішка дэ Навалі, пана магістра Францішка з Эстэ, пана магістра Геранiма а Мула і пана магістра Гераніма дэ Урбіно], супрамотараў там жа ўрачыста адзначыў і аздобіў памянёнага магістра [Францішка], які прасіў і атрымаў, належнымі доктарскімі адзнакамі, уручаючы кнігу па медыцыне, спачатку закрытую, затым раскрытую, ускладаючы на галаву доктарскі берэт і надзяваючы на палец залаты пярсцёнак, ды даючы яму пацалунак спакою з магістарскім благаслаўленнем. Вось так з найвышэйшай хвалой і вялікім гонарам памянёны пан [Францішак] быў узведзены на вышыню годнасці доктара медыцыны. На давер і сведчанне мы наказалі выдаць гэты адкрыты ліст нашага прывілею і зацвердзіць яго прывешанай пячаццю правялебнага пана Падуанскага біскупа.

Дадзена і дзеялася ў Падуі, у біскупскім палацы ў звычайным месцы іспытаў, у прысутнасці [знакамітых дактароў мастацтваў паноў магістраў Алаізія Зухата з Тарвізія і Даніэля з Форо Юліо, падуанца; выдатных шкаляроў мастацтваў паноў Міхала Замбона, сына нябожчыка Якуба, грамадзяніна Венецыі і Гаспара дэ Габрыэліса, сына пана Пятра, грамадзяніна Падуі; пана Валерыя дэ Ляргіса, падуанскага клерыка]. У год ад Нараджэння Пана [тысяча пяцьсот дванаццатага], [пятнаццатага] індыкту [у аўторак дзявятага лістапада], у [дзявяты] год найсвяцейшага пана нашага, пана [Юлія другога], з Божага Провіду Папы.

---

9 Францішак Скарына: Зборнік дакументаў і матэрыялаў / Прадм., уклад., камент., паказ. В.І. Дарашкевіч. — Мінск, 1988. — С. 72.

10 Тамсама. С. 66–67.

11 Тамсама. С. 68–72.

12 Acta graduum academicorum Gymnasii Patavini (далей AGA). III. 1. Ab anno 1501 ad annum 1525 / A cura di E. Martellozzo Forin. — Padova, 1969. — P. X–XI.

13 Францішак Скарына: Зборнік дакументаў… С. 63–64.

14 Тамсама. С. 68–73.

15 AGA. II. 3. (Introduzione). — Roma-Padova, 2001. — P. 53–57.

16 Тамсама. P. 11.

17 Тамсама. P. 4–7.

18 Францішак Скарына: Зборнік дакументаў… С. 68–71.

19 AGA. III. 1. P. 169–170, nr. 495.

20 У квадратных дужках — устаўкі ў стандартны фармуляр дыплома, датычныя Францішка Скарыны.

Клайв Стэйплз Льюіс

# Чатыры віды любові

## Раздзел VI
## Міласэрная любоў

Цяжкасць, як звычайна, заключаецца ў тым, што мы можам выбраць не той шлях. Суполка або сям'я хрысціянаў (асабліва тыя, хто занадта гучна так сябе называе) могуць учыніць сапраўдны спектакль, дзейнічаючы і тым больш гаворачы так, быццам яны ўжо дасягнулі пастаўленай мэты, і гэта груваcткі, вычварны, мітуслівы спектакль, які выклікае збянтэжанасць і які немагчыма вытрымаць. Такія людзі кожную дробязь ператвараюць у справу выключнай духоўнай важнасці — і для агульнага ведама, і ў асабістых адносінах (на каленях перад Богам за зачыненымі дзвярыма гэта выглядала б зусім інакш). Яны заўсёды недарэчна просяць прабачэння і невыносна яго навязваюць. Лепш ужо жыць побач са звычайнымі людзьмі, якія перажываюць сваркі і прыступы дрэннага настрою (і свае, і чужыя) без тэатральнасці, дазваляючы добраму абеду, сну або жарту паправіць справу. Сапраўдная праца міласэрнай любові павінна быць самаю патаемнаю з усіх. Наколькі гэта магчыма, яна мусіць заставацца таямніцаю нават для нас саміх. Правая рука не ведае, што робіць левая. Мы прыкладаем няшмат высілкаў, калі гуляем з дзецьмі ў картачную гульню, каб «проста» пабавіцца, развесяліць іх або прадэманстраваць, што яны прабачаныя. Калі гэта лепшае, на што мы цяпер здольныя, няхай так і будзе. Аднак лепш, калі больш глыбокая і менш усвядомленая праца міласэрнай любові настройвае нас так, што нам больш за ўсё хочацца атрымаць асалоду ад самой супольнай гульні.

У гэтай неабходнай працы нам дапамагае той жыццёвы досвед, на які мы найбольш наракаем. У нашым жыцці дастаткова падзеяў, якія натхняюць перамяняць натуральную любоў у любоў міласэрную: гэта ўсе цяжкасці, расчараванні, смутак і канфлікты, з якімі мы сутыкаемся. Яны даюць нам цалкам упэўніцца ў тым, што адной натуральнай любові недастаткова, і мы здольныя ўсвядоміць гэта, калі не асепленыя эгаізмам. Калі ж ён асляпляе нас, мы выкарыстоўваем гэты досвед абсурдна. «Калі б толькі мне больш пашанцавала з дзецьмі (а то гэты малец становіцца гэткім жа, як ягоны бацька), я б так моцна іх тады любіла!» Але любое дзіця час ад часу паводзіць сябе невыносна, а некаторыя бываюць проста жудаснымі. «Калі б толькі мой муж быў больш уважлівы і клапатлівы, не так бы ленаваўся, разумней бы сябе паводзіў…» «Калі б толькі мая жонка менш мяне даймала, а больш бы разумела і не дурэла б так…» «Калі б толькі мой бацька не быў такім жудасна нудным скнарам…» Але ў кожным чалавеку, і ў нас саміх таксама, дастаткова таго, што немагчыма вынесці, што патрабуе ад іншых цярплівасці і прабачэння. Менавіта неабходнасць практыкаваць гэтыя цноты схіляе нас, змушае да спробаў ператвараць, а дакладней, дазволіць Богу ператвараць нашую натуральную любоў у міласэрную. Усе гэтыя непрыемнасці і трывогі служаць нам на карысць. Бывае нават, што там, дзе іх найменш, найцяжэй перамяняць сваю натуральную любоў. Калі ж турботаў шмат, неабходнасць узвысіцца над ёю становіцца відавочнаю. Каб проста ўсвядоміць патрэбу ўзвышэння ў той час, калі нашая натуральная любоў настолькі раскрывае сваю паўнату і знаходзіцца ў бяспецы, наколькі гэта магчыма ў зямных умовах, нам неабходная асаблівая чуйнасць і праніклівасць у поглядзе на саміх сябе і асабліва тонкая перамена. Гэта таксама прыклад таго, што «багатаму» цяжэй увайсці ў Нябеснае Валадарства.

На маю думку, гэтая перамена нам абсалютна неабходная для таго, каб натуральная любоў у нас змагла ўвайсці ў вечнае жыццё. Большасць з нас верыць, што гэта магчыма. Мы можам спадзявацца, што ўваскрашэнне цела азначае таксама ўваскрашэнне, так бы мовіць, «большага цела»,

*Заканчэнне. Пачатак у № 2 за 2013 г.*

саткана з палатна нашага зямнога жыцця: нашых прывязанасцяў, упадабанняў, адносінаў. Але гэта магчыма толькі пры адной умове. Гэтую ўмову ставіць нам не Бог, яе вызначае сама сутнасць Нябеснага Валадарства: у яго можа ўвайсці толькі тое, што ўзвысілася да неба.

Усё, што толькі цялеснае, толькі прыроднае, не можа наследаваць Нябеснага Валадарства. Чалавек здольны ўзняцца на неба толькі дзякуючы смерці і ўнебаўшэсцю Хрыста, які «пасяліўся» ў ім. Можна дапусціць, што гэта праўдзіва і для натуральных відаў чалавечай любові. Толькі тыя з іх, у якія ўвайшла Сама Любоў, могуць узвысіцца да яе. Уваскрэснуць разам з Хрыстом можа толькі тое, што ў пэўнай ступені і пэўным чынам раздзяляла з Ім смерць; калі натура пакрысе, год за годам, або ў раптоўнай пакутлівай барацьбе здолела перамяніцца. Усё, што з гэтага свету, прамінае. Само слова «натура» азначае пераход, змену. Натуральныя віды любові могуць спадзявацца на вечнасць толькі ў той меры, у якой далі вечнай міласэрнай Любові ўвабраць сябе, прынамсі дазволілі, каб гэты працэс пачаўся тут, на зямлі, пакуль не прыйшла ноч, калі чалавек ужо нічога не зможа зрабіць. Працэс перамены заўжды звязаны са смерцю, інакш не бывае. У маім каханні да жонкі і любові да сябра толькі адно можа існаваць вечна: прысутнасць Самой Любові, якая перамяняе іх. Толькі дзякуючы ёй усё ў нас, у тым ліку і нашыя фізічныя целы, можа спадзявацца на ўваскрашэнне з мёртвых. Адно гэта ў нас святое, адно гэта — Бог.

Тэолагі час ад часу задаюцца пытаннем, ці «пазна́ем» мы адзін аднаго ў небе, і ці будуць у раі мець нейкае значэнне адносіны любові, якія ўзніклі на зямлі. Мне здаецца, можна адказаць так: «Залежыць ад таго, які кшталт гэтая любоў набыла або пачала набываць у зямным жыцці». Мяркую, што сустрэць у вечнасці кагосьці, вельмі моцна любімага на зямлі, але адною натуральнаю зямною любоўю, было б у той прасторы проста нецікава. Гэта падобна да таго, як дарослым сустракаеш свайго найлепшага сябра з пачатковай школы, з якім вас звязвалі тады толькі супольныя зацікаўленасці і заняткі. Калі апроч гэтага нічога агульнага не было, калі гэта не была вашая родная душа, то цяпер вы адно для аднаго чужынцы. Ніхто ўжо не гуляецца ў шарыкі. Нікому не трэба дапамагаць з практыкаваннямі па французскай у абмен на задачкі па матэматыцы. На маю думку, любоў, у якой ніколі не ўцелаўлялася Сама Божая любоў, у рай не трапіць, таму што ўсё прыроднае тады міне. У таго, што не вечнае, тэрмін прыдатнасці навекі скончыўся.

Але на гэтым я не магу завяршыць свае разважанні, бо не жадаю падпарадкоўвацца ўласным страхам і спадзяванням, якія мяне да гэтага схіляюць. Я не адважуся ўмацоўваць у няшчасных чытачах, якія страцілі сваіх найдаражэйшых, шырока распаўсюджаную ілюзію, што мэтаю хрысціянскага жыцця з'яўляецца паяднанне з каханымі памерлымі ў небе. Заклік адмовіцца ад яе можа прагучаць нелітасціва і недасяжна для вушэй тых, у каго разбітае сэрца, але гэта неабходна зрабіць.

Святы Аўгустын сказаў: «Ты нас стварыў для сябе, і неспакойнае сэрца нашае, пакуль не знойдзе спакой у Табе». Гэтым словам лёгка верыць у кароткія імгненні, калі мы становімся перад алтаром ці ў паўмалітве і паўроздуме шпацыруем па вясновым гаі, але яны гучаць як жорсткі здзек, калі мы стаім перад чыімсьці смяротным ложам. Але яшчэ страшнейшы здзек чакае нас, калі, адкінуўшы гэтую праўду, мы станем суцяшаць сябе адной толькі надзеяй у будучыні зноў сустрэцца з зямнымі каханымі, цяпер ужо назаўжды, ды яшчэ калі з гэтаю мэтаю зоймемся сеансамі спірытызму і некрамантыі. Цяжка не паддацца ўяўленню, што нас цалкам задаволіць гэты вечны працяг зямнога шчасця.

Аднак уласны досвед гаворыць мне, што ў падобных выпадках мы адразу пачынаем ясна адчуваць, што нешта ідзе не так. Як толькі мы спрабуем з гэтаю мэтаю выкарыстоўваць сваю веру ў вечнае жыццё, яна слабне. Я папраўдзе адчуваў у сабе моцную веру толькі тады, калі мае думкі былі цалкам скіраваныя на самога Бога. Толькі вера ў Яго дазваляла мне верыць у Нябеснае Валадарства як вынік зямнога жыцця. Калі ж, наадварот, верыць у з'яднанне з каханымі ў вечнасці і дзеля гэтай сустрэчы ў небе паверыць у рай, а каб апраўдаць веру ў рай, спрабаваць верыць у Бога, нічога не атрымліваецца. Вядома, можна навыдумляць сабе чаго заўгодна. Але сумленны чалавек хутка пачне разумець, што працуе толькі ягонае ўяўленне, і ўпэўніцца, што жыве адной уласнай фантазіяй. Прастадушныя людзі адчуюць, што прывідныя з'явы, якімі яны спрабуюць сілкавацца, не прыносяць ім ні суцяшэння, ні насычэння, і тады яны імкнуцца

надаць ім нейкае падабенства рэальнасці з дапамогаю вартага жалю саманамаўлення, магчыма, выкарыстоўваючы ганебныя малюнкі і замоваў ці, што яшчэ горш, праз вядзьмарства.

Такім чынам, досвед падказвае, што бессэнсоўна шукаць зямнога суцяшэння ў Нябесным Валадарстве. Неба дарыць толькі нябеснае суцяшэнне і ніякага іншага. Зямля ж не прыносіць нават зямнога. Ніводнае суцяшэнне на зямлі не трывае доўга.

Не можа быць праўдаю наша мара аб тым, што мэтаю чалавечага існавання, сэнсам жыцця з'яўляецца рай прыродны, зямной любові, інакш сама наша вера — памылка. Мы створаныя для Бога. Мы любім іншых людзей толькі таму, што яны нейкім чынам да Яго падобныя і з'яўляюцца адлюстраваннем Яго прыгажосці, міласэрнасці, ласкавасці, мудрасці і дабра. Гаворка не пра тое, што мы любілі некага зашмат, мы проста не да канца разумелі, што́ любім. Не варта думаць, што ў нябёсах мы вымушаныя будзем адвярнуцца ад тых, каго так моцна любім, каб прыйсці да нейкага Незнаёмца. Узглянуўшы ў Божы твар, мы зразумеем, што заўжды ведалі Яго. Ён прысутнічаў ва ўсіх зямных праявах нашай чыстай любові, Ён ствараў у нас гэты імпульс, падтрымліваў і накіроўваў у кожны момант існавання. І ўсё, што было ў нашай любові сапраўдным, нашмат больш сыходзіла ад Яго, чым ад нас, а ад нас сыходзіла толькі таму, што ішло ад Яго. У небе не будзе пакутлівага абавязку адвярнуцца ад сваіх зямных каханых. Па-першае, таму што мы ўжо адвярнуліся — ад партрэтаў да самой Асобы, ад ручаінаў да Вытоку, ад стварэнняў, якіх Ён учыніў вартымі любові, да Самой Любові. Палюбіўшы Яго мацней за іх, мы палюбім іх мацней, чым любім цяпер.

Але ўсё гэта там, далёка, у Валадарстве Тройцы, а не тут, у выгнанні, у нашай даліне слёз. Тут ёсць толькі страты і вырачэнне. Магчыма, жалоба і пачуццё сіроцтва, якія мы адчуваем, калі губляем любімых, пакліканыя пераканаць нас у гэтым. Нас змушаюць паверыць у тое, што мы яшчэ не здольныя адчуць, што Бог — наш адзіны Узлюблены. Таму можна сказаць, што атэіст перажывае пачуццё страты лягчэй за верніка. Ён можа бунтаваць і злавацца, і праклінаць сусвет, і пісаць геніяльныя вершы, як Хаўсмэн і Хардзі. А мы ў страшэнным горы і нядужасці, калі зусім апускаюцца рукі, мусім імкнуцца да таго, што здаецца немагчымым.

Адзін старажытны пісьменнік пытаецца: «Ці лёгка любіць Пана Бога?», і сам дае адказ: «Лёгка для тых, хто Яго любіць». У паняцце міласэрнай любові я ўключыў дзве праявы Божай ласкі. Але Бог можа адарыць яшчэ і трэцяй: Ён можа абудзіць у чалавеку звышнатуральную любоў-ацэнку да Сябе. Гэта самы каштоўны дар, якога толькі можна пажадаць. Менавіта ў ім, а не ў нашай натуральнай любові, і нават не ў маральных цнотах, і ёсць сапраўдная сутнасць чалавечага і анёльскага існавання. Гэты дар усё робіць магчымым.

На гэтым я завяршаю сваю кнігу, хоць лепшая кніга павінна была б з гэтага пачынацца. Я не асмельваюся працягваць далей. Богу, а не мне вядома, ці адчуваў я калі-небудзь такую любоў. Магчыма, я толькі ўяўляў, што гэта было. Людзі, падобныя да мяне, чыя фантазія нашмат магутнейшая за пакору, справядліва пакутуюць ад таго, што лёгка ўсё ўяўляюць, але насамрэч не ўсяго здольныя дасягнуць. Апісваючы тое, што ўявілі, мы можам змусіць іншых паверыць і паверым самі, што ведаем, пра што гаворым. А калі гэта толькі маё ўяўленне, няўжо я і далей памыляўся, адчуваючы, што нават мара пра нябеснае прымушае ўсе іншыя прагненні, нават спакой, нават адсутнасць страху, выглядаць толькі як зламаныя цацкі і звялыя кветкі? Магчыма. Магчыма, для многіх з нас досвед толькі акрэслівае, так бы мовіць, форму той прорвы, якую павінна запоўніць любоў да Бога. Гэтага мала, але гэта ўжо нешта. Калі не атрымліваецца адчуць Божую прысутнасць, варта адчуць меру Ягонай адсутнасці, каб больш і больш усведамляць сваю недасведчанасць, пакуль не адчуеш, што стаіш каля магутнага вадаспаду і не чуеш шуму, як у казцы, калі глядзішся ў люстэрка і не бачыш там адбітку, як у сне, калі працягваеш руку да нейкага прадмета і не адчуваеш дотыку. Калі ўсведамляеш, што спіш, то гэта ўжо не зусім сон. Але каб даведацца пра абуджэнне гэтага свету, трэба звярнуцца да тых, хто лепшы за мяне.

Канец.

*Пераклад з англійскай мовы Юліі Шэдзько.*
*Паводле: «The four loves», C. S. Lewis, 1958.*



Абраз Маці Божай з сабора святых Пятра і Паўла ў Ружанах.

Ігар Сурмачэўскі

# «Стыгматы» нябачнай вайны

Знакі вайны з часам знікаюць. Пройдзе паўстагоддзя, стагоддзе, і вось ужо з цяжкасцю можна знайсці не толькі былых удзельнікаў і сучаснікаў тых вусцішных падзеяў, але і самі месцы крывавых часоў змяніліся да непазнанасці: на іх павырасталі лясы, прайшлі магістралі, адбудаваліся дамы. Гарады і мястэчкі так змяніліся, што старажылы з цяжкасцю пазнаюць свае ўтульныя вулачкі на старых фотаздымках. Акопы, нібы струпы на жывым целе, зацягнуліся травою, сунічнікам і карэннямі дрэваў. І толькі па спусцістых ярах сярод стромкіх бярозаў і кашлатых ялінаў можна з цяжкасцю ўгледзець былыя траншэі. Тут калісьці ішлі жорсткія баі Першай ці Другой вайны. А як жа знакі духоўнай барацьбы? Ці ёсць іх прыкметы ў сучасным свеце, і ці захавалася памяць пра іх?..

Занятак, які супакойвае маю душу і сэрца, — гэта рэстаўрацыя абразоў. Падчас рэстаўрацыі я не толькі падводжу ляўкас, падбіраю колер таніровак, але і разважаю аб жыцці, задумваюся аб лёсе іконы, з якою працую. Чвэрць стагоддзя таму назад, на зыходзе савецкай эпохі, я ўспрымаў як належнае, што іконы прыходзілі да мяне знявечанымі, скалечанымі, «хворымі», і патрабавалі найхутчэйшай рэанімацыі. Чаму так адбылося з сакральнымі знакамі веры, на той час я не задумваўся. Ёсць праца — і добра! Адны абразы былі скалечаныя часам, неспрыяльнымі ўмовамі, іншыя былі «забітыя» па чалавечай неахайнасці, калі складзіраваліся ў сырых падвалах або на перасушаных спёкаю гарышчах. Былі і трэція, з адзнакамі вайны. «Стыгматамі» духоўнай вайны... Ёсць усім вядомае словазлучэнне — «нябачная вайна», і кошт такой «вайны» вельмі высокі — душа чалавека...

У канцы 1980-х я ставіўся да такіх абразоў як да агульных пацярпелых і стараўся «залячыць» іх, зрабіць усё магчымае, каб прыбраць знакі гэтай духоўнай вайны. У гэтым сэнсе мне вельмі запомніўся невялікі абраз Галубіцкай Багародзіцы, на якім Дзіцятка Езус трымае белую галубку ў левай руцэ. Абраз быў напісаны ў Маскве на кіпарысавай дошчачцы па сусальным золаце ў традыцыі халоднай «візантыйскай эмалі» канца XIX стагоддзя. Але ... самае трагічнае было вось што: у цэнтры іконы, якраз на белай кашульцы Хрыста, захрас шэры свінцовы шарык. Куля. Нехта ж страляў... у некага ж рука паднялася... Я тую кулю акуратна дастаў і адрэстаўраваў месца пашкоджання, каб і следу не засталося. Цяпер я гляджу на такія «раны» зусім інакш: трэба было пакінуць гэтую вусцішную адмеціну ў навучанне іншым. Або вось яшчэ адзін выпадак згадаўся. Пад Масквою рэстаўравалі царкву і пад іржавымі металічнымі лістамі даху знайшлі частку ад велізарнай храмавай іконы «Ойча наш...», шэдэўра, напісанага рукою слыннага майстра з Мсцеры Міхала Дзікарава. Якім чынам такі помнік хрысціянскай культуры быў выкарыстаны для латання дзірак, цяпер цяжка сказаць (спадзяюся, што гэтая думка прыйшла у галаву няверуючага чалавека). Абраз быў у жудасным стане: яго заліваў дождж і паліла сонца. Аснова з дошкі вывернулася ў дугу, і я нават не ведаў, як да яе падступіцца. Масквічы лёгка вырашылі гэтае пытанне — распілавалі аскепак іконы на часткі і атрымалася некалькі сюжэтаў з галоўнай хрысціянскай малітвы, якія былі прададзеныя за велізарныя грошы.

---

**Ігар Сурмачэўскі** — мастак, рэстаўратар, калекцыянер. Нарадзіўся 3 кастрычніка 1961 года ў вёсцы Вязань Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці (былы маёнтак Багдашэўскіх). У 1979–1984 гг. вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце на кафедры «Інтэр'ер і абсталяванне». З 1988 года ўвайшоў у склад моладзевай секцыі Саюза мастакоў БССР. З 1980 года збірае калекцыю рэчаў і дакументаў па гісторыі беларускай культуры, якой цікавіўся яшчэ з дзяцінства. З 1988 года займаецца рэстаўрацыяй абразоў і жывапісу. У 2010 годзе ўзнагароджаны ордэнам святой Еўфрасінні Полацкай за заслугі перад Беларускай Праваслаўнай Царквою.






Рассечаная сякераю на тры часткі ікона з майстэрні Гаўрыіла Фралова, «Анёл-абаронца і святы Конан-градар».

У мяне рука з пілою не паднялася на такую «рэстаўрацыю»... Дарэчы, бабулі з глухіх вёсак часам апавядалі, што ў 1960-я абразы штабялямі на грузавіках вывозілі з цэркваў, а паколькі дарогі былі няезджаныя, то пад колы захраслай машыны кідалі іконы, каб выехаць з чарговай калдобіны — такім чынам рухаліся да «светлай будучыні»...

Цяпер маё стаўленне да пацярпелых у духоўнай вайне абразоў зусім іншае. Перш чым прыступіць да «лячэння» абраза я доўга разважаю, абдумваю, якія «раны» захаваць на іконе, а якія адрэстаўраваць. Вось, напрыклад, рассечаная сякераю на тры часткі ікона з вядомай майстэрні Гаўрыіла Фралова, што была недалёка ад Віцебска, у Латгаліі. Гэта Анёл-абаронца і святы Конан-градар. Вытрыманая ліпавая дошка з адваротнага боку ўся шчэрыцца выскабленым дрэвам, шырокія дубовыя тарцавыя шпонкі вырваныя «з мясам». Старыя калекцыянеры апавядаюць, што гэта «праца» аматароў золата: чамусьці сярод «скарбашукальнікаў» склалася думка (магчыма, пасля экспрапрыятараў 1920-х), што старавервы хавалі залатыя манеты з адваротнага боку абразоў, пад шпонкамі. Так і склаўся з тых часоў у аматараў легкай нажывы «ўмоўны рэфлекс»: патрэсці абраз у руцэ — ці не забразгаціць «залацішка» пад шпонкаю. А хто зусім «без цара ў галаве», той нават з сякераю працягвае пошукі... Фралоўскі абраз я адрэстаўраваў толькі звонку, а з адваротнага боку пакінуў «стыгматы» — у напамін будучым «аматарам золата».

Згадваецца і храмавы абраз «Перамяненне Пана» з шатаю. Абраз вялікі, метр шэсцьдзясят у вышыню, але шматлікія сляды «стыгматаў» на ім і на шаце выразна сведчаць аб перажытым: трэба толькі ўгледзецца, каб прачытаць гэты трагічны аповед часу. Сама ікона 1795 года паходзіць з расійскага горада Калуга, што пацвярджае кляймо на срэбраных частках шатаў. Але па ўсёй паверхні шатаў бачныя сляды ад шабельных удараў — хтосьці асабліва імкнуўся пацэліць па цэнтральнай фігуры Хрыста: выяве Збаўцы нанеслі ажно тры рэзаныя ўдары, ды такія моцныя, што лязо шаблі прайшло скрозь метал і закранула ікону амаль на паўсантыметра ўглыб дрэва. Думаю, трэба абавязкова захаваць сляды ад удараў «нябачнай вайны» не толькі на самой іконе, але і на шатах. Магчыма, хтосьці з сучасных калекцыянераў можа дакараць мяне ў тым, што не дайшлі рукі адрэстаўраваць абраз цалкам. Давядзецца растлумачыць... Але, дзякуй Богу, ёсць і сур'ёзныя збіральнікі абразоў, з глыбокаю вераю ў душы. Напрыклад, нядаўна мне на рэстаўрацыю трапіў выдатны вобраз з Масквы, да якога, відавочна, прыклаў руку майстра з Мсцеры. Але ад іконы (падобна да таго, што гэта была выява Ціхвінскай Адзігітрыі) захаваўся толькі васьмікутнік. Былыя ўладальнікі іконы патлумачылі гэта тым, што яе ратавалі ў 1920-я, калі ўзрывалі храмы і спальвалі абразы тут жа ля царквы на своеасаблівых «ахвярных вогнішчах». Каб за-



Абраз «Перамяненне Пана».



Фрагмент абраза «Святая Барбара». Палессе. XIX ст.



Фрагмент абраза «Прападобны Серафім Сароўскі».

хаваць Адзігітрыю і вывезці Яе з Масквы, давялося выпілаваць з абраза самае каштоўнае, што ўваходзіла ў дарожны куфар. Васьмікутнік з Адзігітрыяй заняў ганаровае месца ў адной з мінскіх калекцый.

Самае сумнае, што больш за ўсё ў гэтай духоўнай вайне пакутуюць лікі святых. На якія толькі хітрыкі не ідуць байцы з чорнага нябачнага «фронту». Першае, што трапляецца ім у рукі, — гэта цвікі. І рука духоўных вылюдкаў часцей за ўсё крэсліць цвіком на святым абліччы старадаўні так званы баявы сімвал «эгісхьяльм» у выглядзе шматлікіх раскрыжаванняў, якімі кельты ўпрыгожвалі свае баявыя шчыты. Думаю, што рука, якая нанесла раны на святым абліччы ў выглядзе кельцкай «сняжынкі», і не ведала ні пра руны, ні пра кельтаў — проста чалавека апанавала злая сіла, нячысты намер зрабіць як мага больш калецтваў святыні ў гэтай духоўнай барацьбе. Часам, магчыма, неўсвядомлена, гэта рабілі дзеці і падлеткі ў перыяд існавання часопіса «Воинствующий безбожник». Ёсць у мяне аблічча святых са шматлікімі раскрыжаваннямі, зробленымі цвіком, як, напрыклад, на абразе святога Мітрафана Варонежскага, ці колата-рэзаныя раны ад цвікоў на абліччы святой Барбары. Асабліва запомніўся абраз Прападобнага Серафіма Сароўскага, які быў напісаны ў адной з так званых Белавусаўскіх майстэрняў Масквы. Гэтыя знакамітыя майстры пісалі лік дробнымі, ледзь прыкметнымі штрышкамі — так званаю «адборкаю». Дошка пад абраз была зроблена дыхтоўна, «на стагоддзі», паркетаваная з ліпы і кіпарысу, фон абраза выкананы ў тэхніцы візантыйскіх «халодных эмаляў». Нячысцік нанёс удары па іконе невялікаю стамескаю, прычым рабіў гэта не з маланкаю вар'яцкага імпэту, а свядома і наўмысна. Была пашкоджана рука святога, якая трымала чорны ружанец, і, што асабліва ўразіла, стамескаю былі пашкоджаныя вусны старца, мабыць, каб назаўжды спыніць малітву. Вось з гэтым абразом я пакуль не вызначыўся: я паклаў ляўкас на выбаіны ад стамескі, але спыніў рэстаўрацыю, бо не ведаю, як захаваць святасць вобраза, але разам з тым паказаць тое пачуццё, што ахоплівае верніка пры сузіранні рэальных «стыгматаў» духоўнай барацьбы. Пакуль не знайшоў адказу…

Пару гадоў таму, калі я адвозіў у Петра-Паўлаўскі храм адрэстаўраваны абраз Ружанскай Адзігітрыі, айцец Аляксандр паказаў мне яшчэ адну рэліквію. Пад шклом вялікагаківота я ўбачыў верх ад ферартрона, вынасны абраз, які быў напісаны на пласціне з цынку. Гэта, хутчэй за ўсё, копія з твора італьянскага майстра перыяду ракако. Маці Божая на ім намалявана ў той момант, калі Яна слухае словы арханёла Габрыэля. Дзіўна, што ўвесь абраз пашкоджаны кулямі, але ніводная з іх не трапіла ў лік! Кажуць, што гэтак немцы ў Першую сусветную вайну практыкаваліся ў стральбе... Хто ведае, можа, і свае, натхнёныя барацьбою за «новы свет», спрабавалі разбурыць усё ўшчэнт... Важна, каб нашчадкі бачылі «стыгматы» гэтай духоўнай вайны і не паўтаралі тых страшных памылак...

Яніна Мілаш

# Традыцыі ўшанавання цудадзейных абразоў Маці Божай на беларускіх землях у к. XIX — пач. XX ст.

Для Беларусі на працягу многіх стагоддзяў характэрна існаванне разнастайных традыцый ушанавання Багародзіцы як у каталікаў, так і ў праваслаўных. Часам формы праслаўлення Маці Божай адрозніваюцца, што абумоўлена ўнутранымі канонамі і догмамі Касцёла і Царквы, але ёсць і тое, што аб'ядноўвае ўсіх беларускіх хрысціянаў, — пакланенне цудадзейным іконам. Такая форма праслаўлення Багародзіцы на Беларусі існуе з першых часоў прыняцця хрысціянства на нашых землях [4, с. 1–14]. Вядома, што святая Еўфрасіння Полацкая пасля свайго прабывання ў Канстанцінопалі прывезла ў Полацк цудадзейны абраз Маці Божай Эфескай, які дагэтуль ушаноўваецца вернікамі. Паступова пашырэнне культу Багародзіцы прывяло да таго, што вернікі кожнай мясцовасці імкнуліся мець «сваю» Маці Божую ў святым абразе, якая б заступалася менавіта за іх. Першая мясцовая святыня такога кшталту — абраз Маці Божай Купяціцкай (1182 г.; [9, с. 387–393]).

Многія навукоўцы-этнографы ў другой палове XIX — пачатку XX ст. адзначалі, што ў беларускай народнай свядомасці культ Багародзіцы займае роўнае месца з Богам Айцом і Сынам: «*Калі ена Мацер Божая, дак павінна быць старшэй за Бога, але нехай сабе Бог старшэй, бо Ён як ня есцека — Бог, да ўсё ж такі Прэчыстая свяцей за ўсіх святых*» [19, с. 141]. Галоўным чынам гэты культ праяўляецца ва ўшанаванні выяваў і адзначэнні святаў, прысвечаных Маці Божай. Формаў ушанавання таксама існуе вельмі шмат: гэта і спецыяльныя малітвы, набажэнствы, паломніцтвы да месцаў знаходжання цудатворных абразоў. Часам цудатворны абраз Божай Маці, які карыстаўся вялікаю пашанаю, станавіўся сімвалам горада, мястэчка або вёскі. Толькі ў Мінскай праваслаўнай епархіі налічвалася 28 цудатворных абразоў, з якіх 25 з выяваю Багародзіцы [8, с. 62–78].

Самымі буйнымі багародзічнымі цэнтрамі на той час былі Вільня, дзе знаходзіліся абразы Маці Божай Вастрабрамскай і Маці Божай Віленскай Адзігітрыі, Бялынічы, Баркалабава, Краснасток, Юравічы, Жыровіцы, Супрасль, а таксама Мінск — месца прабывання абраза Маці Божай Мінскай. Святы, прысвечаныя цудатворным абразам, суправаджаліся вялікім наплывам вернікаў, часам іх налічвалася некалькі дзясяткаў тысяч. У такія дні кожны вернік лічыў неабходным далучыцца да святкаванняў шляхам удзелу ў набажэнствах, споведзі, Крыжовым шляху, працэсіях. Часта да такіх святаў былі прымеркаваныя кірмашы і разнастайныя гучныя забавы, але большая частка вернікаў найперш лічыла неабходным споўніць свае хрысціянскія абавязкі, а свецкія забавы былі справаю другаснай [3, с. 8–10].

Вось як апісвае ўбачанае каля абраза Маці Божай Вастрабрамскай рускі чыноўнік Захар'ін, які ўпершыню наведаў Вільню: «*Начиная от самой Остробрамской часовни, заключающею в себе чудотворную икону Божией Матери, и вдоль улицы, вниз на протяжении по крайней мере двухсот шагов, на каменных тротуарах, по обеим сторонам улицы, стояли на коленях сотни мужчин и женщин, многие с маленькими книжками в руках, и все это молилось…*» [5, с. 173–175]. І такія карціны можна было ўбачыць у многіх святынях, дзе знаходзіліся цудадзейныя абразы.

На паклон да Багародзіцы прыходзілі людзі розных веравызнанняў. Да ўрачыстасці 400-годдзя абраза Маці Божай Супрасльскай, што святкавалася ў 1900 г., была выдадзена праца архімандрыта Мікалая (Далматава), у якой аўтар апавядае пра ўшанаванне абраза Маці Божай прадстаўнікамі ўсіх канфесій. Кожны дзень, па словах аўтара, каля абраза ў маленні можна было ўбачыць не толькі каталікаў і праваслаўных, але і лютэранаў [2, с. 463]. Менавіта традыцыя ўшанавання цудадзейных абразоў мела агульны характар і служыла аб'яднаўчым працэсам у грамадстве. Ушанаванне пэўнага цудадзейнага абраза мела, хутчэй, не канфесійную, а тэрытарыяльную афарбоўку. Напрыклад, Маці Божая Юравіцкая лічылася апякункаю Палесся, і кожны год падчас святкавання ўрачыстасці, прысвечанай гэтаму абразу, у гэтую невялікую вёску сцякаліся вернікі з усіх палескіх мясцовасцяў: «*… а заглянь у Юравічы, к Чудатворнай Божай Мацеры, што там робіцца? Ось што: не толькі паўнюсенька цэркаў людзей да і ў ваградзі нехдзе пальца ўваткнуць*» [19, с. 140]. А падчас пераносу абраза Маці Божай Крупецкай у мінскую Крыжовую

царкву ў працэсіі ўдзельнічалі разам з праваслаўнымі не толькі простыя парафіяне каталіцкага веравызнання, але і каталіцкія святары [14, с. 504–513].

Увогуле, традыцыя працэсій была і засталася вельмі распаўсюджанаю на нашых землях. Ніводнае значнае свята не праходзіла без удзелу ўсіх вернікаў у працэсіі. Згадаем, што каталіцкія працэсіі было дазволена праводзіць расійскімі ўладамі толькі з 1895 года, таму мноства католікаў падчас вялікіх урачыстасцяў прымала ўдзел у праваслаўных шэсцях, і, наадварот, калі каталіцкія працэсіі былі дазволеныя, актыўны ўдзел у іх прымалі і праваслаўныя вернікі. Вось як апісвае працэсію з цудадзейным абразом Маці Божай Тупічэўскай, які адбываўся штогод у мсціслаўскім загарадным тупічэўскім Свята-Духавым манастыры, архімандрыт Іаанікій: «*Крестные ходы эти совершаются многими тысячами народа, собирающегося из Могилевской, Смоленской и даже Черниговской губерний; в них участвуют многие из католиков, движимые чувством уважения к чудотворной иконе*» [1, с. 404–411]. Часта працэсіі па працягласці ахоплівалі сотні кіламетраў і некалькі дзясяткаў населеных пунктаў. Кожная вёска лічыла сваім абавязкам сустрэць працэсію і далучыцца да вернікаў. Так, працэсія з цудадзейным абразом Маці Божай Скорапаслушніцы, які рухаўся з Гарадзеі ў Шчорсы, працягваўся некалькі дзён з прыпынкамі ў Міры, Карэлічах і іншых населеных пунктах. Абраз сустракалі натоўпы сялянаў з усіх навакольных вёсак — яны прасілі вернікаў і святароў спыніцца і памаліцца з імі Багародзіцы, каб Яна сваёю апекаю ахінула і іх мясцовасць, сем'і і дамы [10, с. 22–28]. Часта ўздоўж дарогі, па якой рухалася працэсія, вернікі станавіліся на калені па абодвух баках і такім чынам сустракалі дарагую для іх святыню. Так было



Пілігрымы падчас адпусту ў Чэнстахове на Яснай Гары.
Дрэварыт па малюнку А. Глэмбоцкага.

ў вёсцы Остраў Пінскага павета, куды ў 1914 годзе прыбылі праваслаўныя святыні — абраз Маці Божай Мінскай і мошчы святога мучаніка, дзіцяткі Гаўрыіла. Тады ўвесь шлях ад Ненькавічскага прыхода да вёскі Парэі быў запоўнены цеснаю сцяною багамольцаў, якія стаялі на каленях [11, с. 507–509]. Падчас працэсіі з цудадзейнымі абразамі вернікі часам стараліся легчы на зямлю перад іконаю, каб менавіта над імі пранеслі святыню: тады, па перакананні вернікаў, можна атрымаць благаслаўленне ад іконы, Божую ласку [8, с. 308–315]. Калі гэтага нельга было зрабіць, вернікі спрабавалі хаця б дакрануцца да кіёта або да вопраткі тых людзей, якія неслі абраз, і прасілі пранесці святыню самім хаця б некалькі крокаў: «*Люди всех сословий, мужи, жены, и даже дети, просят, как милости, позволения пронести на себе хотя бы несколько шагов означенную икону*» [1, с. 404–411].

Такім чынам, тагачасныя працэсіі былі своеасаблівым сімбіёзам. Побач з афіцыйным царкоўным цырыманіялам існавалі мясцовыя народныя традыцыі, якія, не перашкаджаючы, дапасавана ўпляталіся ў канву свята. Ні стаянне на каленях, ні ляжанне крыжам перад абразом, ні імкненне дакрануцца да кіёта або вопраткі святара афіцыйная рэлігійная традыцыя не патрабавала, ды і сам удзел у працэсіі быў справаю дабравольнай.

Адметна, што Дзеву Марыю асаблівым чынам ушаноўвалі жанчыны. Ч. Пяткевіч адзначае, што жанчыны на Палессі «*маніфестацыйна выказваюць значнасць Маці Божай, вывышаючы Яе па-над усімі святымі*» [19, с. 141с]. Жанчына ў многіх жыццёвых сітуацыях звярталася ў сваіх малітвах менавіта да Багародзіцы. Падчас працэсіі з абразом Маці Божай Крупецкай ікону неслі толькі жанчыны ў спецыяльным адзенні, і кожная з прысутных жадала хаця б дакрануцца да кіёта або да насілак, або да вопраткі тых жанчын, якія неслі абраз [14, с. 504–513].

Лепшым прыкладам жывога і шчырага ўшанавання Багародзіцы з'яўляюцца зафіксаваныя цуды, што здараліся пасля малітваў і абяцанняў вернікаў. Напрыклад, у 1883 годзе аб сваім ацаленні засведчыла сялянка вёскі Горны Гродзенскага павета Фёкла Ласік, якая цярпела ад падучай хваробы, але пасля

малітваў перад абразом Маці Божай Уладзімірскай у гродзенскім Багародзічным манастыры ацалілася [13, с. 469–471]. Першынство па зафіксаваных цудах на тагачасных землях Беларусі належыць іконе Бялыніцкай Божай Маці. У «Магілёўскіх епархіяльных ведамасцях» часта друкаваліся сведчанні людзей, аздароўленых пасля малітваў перад гэтым абразом. Здаралася гэта і ў 1862 годзе, калі ацалілася дачка святара мястэчка Эсмон, і неаднойчы ў 1884–1885 гадах. Аздароўлены чалавек сведчыў аб сваім духоўным досведзе, і чуткі аб ацаленні трансфармаваліся ва ўстойлівыя ўяўленні аб моцы цудадзейных абразоў. Так ўзнікала традыцыя ўшанавання і пакланення пэўнай хрысціянскай святыні [17, с. 332–333; 6, с. 803–807]. Менавіта аповеды аб ацаленнях сведчаць пра веру людзей у Бога, а не ў ікону.

Часта вернікі з асабліва важкімі праблемамі давалі Богу свае абяцанні, а таксама пешшу выпраўляліся да месца знаходжання цудатворнага абраза, каб там памаліцца і прасіць аб неабходных дарах. Прычым для таго, каб просьба была выслуханая, паломніцтва мусіла быць цяжкім. Пілігрымавалі беларусы і ў адзіноце, але часцей за ўсё групамі. У дарогу бралі крыху хлеба і малітоўнік, якім і карысталіся ўвесь шлях: чыталі малітвы, спявалі рэлігійныя песні. «*С куском хлеба в котомке идет православный люд целыя сотни верст утолить духовную жажду пред чудотворной иконой. Кому приходилось наблюдать за этими путниками, тот не мог не уловить на лицах их религиозной настроенности, благочестивой сосредоточенности, все существо их проникнуто святостью совершаемого ими подвига*», — так апісвае сведка паломнікаў, якія прыйшлі ў Красносток да цудатворнага абраза Багародзіцы [15, с. 694–697]. Па асаблівых абяцаннях вернікі на каленях тройчы абыходзілі святыню і на каленях крочылі да абраза, ляжалі крыжам перад іконаю падчас асабістых малітваў [8, с. 308-315].

Паломніцтвы з'яўляюцца таксама прыкладам нефармальнага ўшанавання Божай Маці, бо яны вынікалі з канкрэтнага асабістага імкнення і жадання. У паломніцтвах не было і няма нічога, што магло быць навязаным Касцёлам, Царквою або дзяржаваю. Беларускія этнографы канца XIX ст. і тагачасныя святары, якія прыязджалі з цэнтральных раёнаў Расійскай імперыі, адзначалі асаблівыя адносіны і любоў беларусаў да паломніцтваў і багамолляў. Шляхі беларускіх пілігрымаў налічвалі ад некалькіх дзясяткаў да некалькіх сотняў кіламетраў. Акрамя святых месцаў, што знаходзіліся на тагачасных беларускіх землях, папулярнымі былі таксама шляхі, што вялі за іх межы. Несельніцтва Палесся з вялікаю ахвотаю наведвала Кіева-Пячорскую Лаўру, дзе знаходзіўся цудатворны абраз Маці Божай, католікі з заходніх земляў пілігрымавалі да Маці Божай Чэнстахоўскай.

Пасля выканання разнастайных абяцанняў, а таксама ў знак удзячнасці за атрыманыя Божыя ласкі вернікі пакідалі каля абразоў свае прынашэнні і дары або па замове выраблялі воты, якімі ўпрыгожваліся цудатворныя абразы [1, с. 170–184]. Вось як апісвае ў той час абраз Маці Божай Віленскай (Адзігітры) К. Іваноўскі: «*Риза св. иконы в настоящее время украшена самыми разнообразными украшениями: крестиками, брошками, серьгами, браслетами, кольцами, медалями, монетами, связками жемчуга, кораллов и т.д. Приносимыя к образу лампады, завесы, пелены, полотенца, ковры, гирлянды цветов — все это дань благоговейного почитания Богоматери, упования на Неё, благодарения за милость, Ею ниспосланною*» [7, с. 96-118].

Воты і прынашэнні з'яўляюцца не толькі своеасаблівау формаю падзякі вернікаў сваёй Заступніцы, але адначасова і зваротам да Яе. Вотамі часцей за ўсё ўпрыгожваліся самыя вядомыя абразы ў буйных цэнтрах культу цудатворных абразоў, а ў дзясяткі малых святыняў, дзе знаходзіліся мясцовыя шанаваныя іконы, вернікі прыносілі больш сціплыя і простыя дары. Архіепіскап Мікалай у сваёй працы адзначае, што сяляне Мінскай епархіі на прастольныя святы і фэсты, прысвечаныя ў тым ліку і цудатворным абразам, неслі ў царкву воск, лён, бавоўну, хлеб, яйкі, сыры, нават жывых цялятаў, ягнятаў, парасятаў і курэй [8, с. 308–315].

Яшчэ адной своеасаблівау формаю ўшанавання Багародзіцы ў азначаны перыяд з'яўляюцца прошчы — месцы, якія іх жыхары лічылі святымі, абранымі Багародзіцаю. Прошча магла знаходзіцца ў адкрытым полі, ва ўрочышчы, у лесе, на лузе, каля крыніцы. Іх апісанні можна знайсці ў этнаграфічным матэрыяле, сабраным А. Сержпутоўскім («Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў»). Напрыклад, каля вёскі Вызна ляжаў цудоўны камень, на якім, па перакананні мясцовых жыхароў, Багародзіца пакінула свой след. Людзі пабудавалі там каплічку і збіраліся ў ёй кожную першую нядзелю месяца, каб памаліцца. «*Шмат там бывае людзей, і ўсім прошча памагае*» [16, с. 217].

Такая практыка ўшанавання Божай Маці не была арганізаванаю Царквою ці Касцёлам, а вынікала з народнага духоўнага досведу. Чуткі пра аб'яўленні Маці Божай, а часам пэўнага святога, разыходзіліся імгненна, і жыхары ваколіцаў сотнямі крочылі на малітву да новай прошчы. Кожны вернік адчуваў патрэбу наведаць святое месца, якое знаходзілася ў яго мясцовасці, і абавязкова там памаліцца. Вельмі часта такія калектыўныя маленні забараняліся і пераследаваліся чыноўніцтвам і

святарствам. Так, ва ўрочышчы Коцеры Берасцейскага павета знаходзіўся калодзеж, да якога людзі прыходзілі на святы на малітву. Мясцовая сялянка нібыта бачыла на гэтым месцы жанчыну, якая прадказала ёй будучыню і загадала ўсталяваць на гэтым месцы крыж, што і было зроблена, але рашэннем мясцовых уладаў калодзеж засыпалі, а людзям забаранілі збірацца на гэтым месцы [Ф. 1, воп. 27, спр. 2133, арк. 5]. Забаранілі збірацца мясцоваму насельніцтву і каля крыжа ва ўрочышчы Вербава каля вёскі Бераставіца Гродзенскага павета, дзе мясцовая жыхарка бачыла «святых жанчын» [Ф. 2, воп. 8, спр. 878, арк. 15].

Яшчэ адным прыкладам калектыўных масавых маленняў на месцы аб'яўлення Багародзіцы можа служыць прошча ў полі каля вёскі Долістава, дзе фігуру або абраз Багародзіцы ў небе назірала адразу некалькі чалавек. На прошчы людзі ўсталявалі крыж, прынеслі абраз, каля якога і сталі збірацца тысячы вернікаў. Мясцовым уладам давялося прыкласці шмат намаганняў, каб спыніць паломніцтвы да гэтай прошчы [Ф. 1, воп. 8, спр. 883, арк. 46–54].

Але здараліся выпадкі, калі некаторыя прошчы з цягам часу былі прызнаныя Царквою. Прыкладам можа служыць Еўліцкая прошча каля Слуцка, дзе Маці Божая аб'явілася дзяўчынцы. Там пабудавалі царкву, і кожную нядзелю праваслаўны святар прыязджаў туды, каб адслужыць літургію [16, с. 219].

Многія навукоўцы лічаць традыцыю існавання святых месцаў — прошчаў або крынічак — дахрысціянскай, язычніцкай, але з этнаграфічных і архіўных матэрыялаў відаць, што ў канцы XIX — пач. XX ст. гэтыя месцы атаясамліваліся вернікамі з хрысціянскай святыняй. Большая частка прошчаў прысвячалася Божай Маці і Яе цудоўнаму аб'яўленню ў дадзенай мясцовасці. На такіх месцах людзі ставілі крыжы або абразы, там гучалі тыя ж малітвы, што і ў царкве або касцёле. Людзі, якія там збіраліся, верылі, што і тут Бог іх абавязкова пачуе: *«Туды цягнуцца й калекі ды хворыя, туды прыходзяць прасіць Бога да Найсветшу Матку, каб выбавіцца ад бяды ды ліха або напасьці…»* [16, с. 217с].

Такім чынам, традыцыя ўшанавання прошчаў з'яўляецца прыкладам нефармальнай хрысціянскай традыцыі ўшанавання Багародзіцы, якая мела значнае распаўсюджанне на тагачасных беларускіх землях. Гэты звычай нарадзіўся з народнага духоўнага вопыту і з'яўляецца часткаю народнай традыцыі, але разам з тым ушанаванне прошчаў вернікамі атаясамлівалася з традыцыямі ўшанавання хрысціянскіх святыняў, а паломніцтвы да іх з паломніцтвамі да месцаў, афіцыйна прызнаных Царквою ці Касцёлам цудатворнымі.

Відавочна, што культ Маці Божай сярод беларускага народа мае вельмі глыбокія карані. Традыцыі ўшанавання цудатворных абразоў Багародзіцы, пешыя паломніцтвы да месцаў іх прабывання, разнастайныя набажэнствы і працэсіі існуюць на нашых землях сотні гадоў, і за гэты час яны моцна ўплывалі на лад жыцця і свядомасць беларусаў. Перш за ўсё, яны садзейнічалі этнічнай кансалідацыі. Нават улічваючы першынство розных пануючых хрысціянскіх канфесій у розныя гістарычныя перыяды — праваслаўнай, каталіцкай, уніяцкай — нельга казаць пра выцясненне адных традыцый другімі цалкам. Наадварот, традыцыі, характэрныя для кожнай з канфесій, перапляталіся і такім чынам служылі і служаць развіццю рэлігійнай талерантнасці. Разам з тым, афіцыйныя рэлігійныя абрады і формы ўшанавання Багародзіцы па-свойму дапаўняліся народнымі традыцыямі, ствараючы своеасаблівы сімбіёз, які склаўся з духоўнага досведу Касцёла, Царквы і народа.

**ЛІТАРАТУРА**


1. Архимандрит Иоанникий. Сведения о Тупичевской Чудотворной иконе Божьей Матери и крестных ходах, совершаемых в городе Мстиславле // Могилевские епархиальные ведомости. — 1885. — № 18-19. Часть неофициальная. — С. 404-411.
2. Архимандрит Николай (Далматов). Супрасльский Благовещенский монастырь. Историко-статистическое описание. — Санкт-Петербург: синодальная типография, 1892. — XVI, 611 с.
3. Брен, Я. К. Особенности религиозного быта крестьян Бельского уезда Гродненской губернии/Священника Ярослава Брена. —Вильна: Тип. Губ.правл., 1887.
4. Верашчагіна, А. У. Хрысціянскія святы на Беларусі/А. У. Верашчагіна. — Мінск: Беларуская навука, 2005. — 253[2]с.
5. Захарьин, И. Н. Тени прошлого/И. Н. Захарьин (Якунина). — С.-Петербург: издание А. С. Суворина, 1885. — 367 с.
6. Иеродиакон Василий. Белыничский монастырь и чудотворная в нем икона/ Иеродиакон Василий//Могилевские епархиальные ведомости. — 1885. — № 33. Неофициальная часть. — С. 803-807.
7. Ивановский, К. Виленская святая и чудотворная икона Божией Матери/ К. Ивановский// Виленский календарь на 1896 год. — Вильна, 1896. — С. 96-118.
8. Историко-статистическое описание Минской епархии, составленное ректором Минской духовной семинарии архимандритом Николаем. — Санкт-Петербург: в Типографии духовного журнала «Странник», 1864. — 315 с.
9. Корнилова, Л. А. Чудотворные католические иконы Богоматери в Белорусии/ Материалы международной научной конференции по региональной истории Восточной Европы «Культура народов Великого княжества Литовского и Белоруссии XIII – нач. XX в.»/Отв. ред. и сост. Д. Карев. — Гродно, 1991. — 387-393 с.
10. Крестный ход из м. Городеи в село Щорсы Новогрудского уезда / Минские епархиальные ведомости. — 1908. — № 1. Часть неофициальная. — С. 22-28.
11. Любич, А. Встреча иконы Божией Матери, именуемой «Минская», и св. мученика Гавриила Слуцкого в с. Остров, Пинского у. / А. Любич // Минские епархиальные ведомости. — 1914. — № 23. Часть неофициальная. — С. 507-509.
12. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна.

О чудесном исцелении больной крестьянки деревни Горны Гродненскаго уезда Фёклы Ласик/Литовские епархиальные ведомости, 1883. — № 51. — С. 469-471.

Перенесение местночтимой Крупецкой іконы Божьей Матери в минскую Крестовую церковь / Минские епархиальные ведомости. — 1886. — № 21. Часть неофициальная. — С. 504-513.

Православный Троицын день в Красностоке / Гродненские епархиальные ведомости. — 1906. — № 23. Отдел неофициальный. — С. 694-697.

13. Сержпутоўскі, А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў/Бел. акад. навук. Аддз. гуманітар. навук. — Мінск, 1930. — 284 с.
14. Синев, И. Чудесное исцеление/ И. Синев// Могилевские епархиальные ведомости. — 1893. — № 18. Часть неофициальная. — С. 332-333.
15. Пятницкий, И. Тупичевский монастырь Могилевской епархии. Исторический очерк. Второе издание с изображением Тупичевской иконы Божьей Матери и шестью политипажами / И. Пятницкий. — Могилев на Днепре: Губернская типография, 1907. — 37 с.
16. Pietkiewicz, Cz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego/Czesław Pietkiewicz. — Warszawa: Towarzystwo Naukowe Warszawskie, 1938. — 459 s.



Партрэт Я. Глінскага. 1898 г.

Святлана Шэйпа

# НАСТАЎНІКІ НЕ ПАМІРАЮЦЬ...

Лаўровых пышных вянкоў не прагнуў,
У віры лёсу трываў нязломна,
Пакорны й ціхі ў вялікіх справах,
Малы ў свеце і невядомы.

Мастацтва быў ён слугой адданым,
Служыў любові, не славе ўласнай.
І за яе ўсё жыццё аддана,
Як збройны рыцар-ваяр змагаўся[1].

*Вучань*[2]

Гэтыя шчымлівыя, пранікнёныя радкі верша, напісаныя ў дзень смерці Яўхіма Глінскага адным з яго вучняў, напоўненыя глыбокаю павагаю да сціплага майстра-настаўніка і слугі *sacrum musicum*, які сваім жыццём і творчасцю сцвярджаў, што кожны музыкант павінен шукаць сапраўднае, прыгожае і адухоўленае ў музыцы, не паддаючыся на ілжывыя спакусы цывілізацыі, і абіраць той шлях, які вядзе да ўзбагачэння чалавека каштоўнымі духоўнымі набыткамі.

Як і пра большасць сапраўдных касцёльных музыкантаў, якія аддана працавалі не для «ўласнай славы», а *ad majorem Dei gloriam*[3], мы вельмі мала ведаем пра жыццёвы і прафесійны шлях Я. Глінскага (1854–1898). Ён нарадзіўся ў слаўным сваімі музычнымі традыцыямі Будславе, дзе і атрымаў першапачатковае музычнае выхаванне ў свайго бацькі — арганіста касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Надзелены незвычайнымі музычнымі здольнасцямі, Яўхім змалку ўражваў і захапляў слухачоў віртуознай ігрой на фартэпіяна на імправізаваных сямейных вечарынах, куды ветліва запрашаліся мясцовыя меламаны, і нават на вялікіх канцэртах у Будславе, Вілейцы, Мядзелі і Докшыцах. Усведамляючы неабходнасць далейшага навучання, у 1874 годзе бацька накіраваў сына ў Пецярбургскую кансерваторыю для адточвання арганнай тэхнікі ў класе яе прафесара, знакамітага канцэртуючага арганіста і дырыжора Луі Гаміліўса (1845–1908). Гады, праведзеныя ў *alma mater*, сталіся надзвычай плённымі: Яўхім з поспехам засвоіў цыкл музычна-тэарэтычных прадметаў. Асаблівых жа вынікаў ён дасягнуў у мастацтве ігры на аргане, спасцігнуўшы прыроду «караля» інструментаў і падпарадкаваўшы яго магутнасць і веліч сваёй волі, аб чым красамоўна сведчаць бліскуча здадзеныя выпускныя экзамены: малады музыкант прадэманстраваў майстэрства імправізацыі на зададзеныя тэмы, бездакорнае веданне канструкцыі аргана і

**Святлана Шэйпа** — кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт кафедры педагогікі Мінскага гарадскога інстытута развіцця адукацыі. Займалася харавым дырыжыраваннем ў Маладзечанскім дзяржаўным музычным каледжы імя М. К. Агінскага, Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. У 2000-м годзе закончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі, аспірантуру пры кафедры гісторыі беларускай музыкі БДАМ і абараніла дысертацыю па тэме «Музычная практыка каталіцкай царквы ў Беларусі ў другой палове XIX — першай палове XX стагоддзяў». Вярнула ў сучасны айчынны культурны кантэкст спадчыну музычных дзеячаў Беларусі другой паловы XIX — першай паловы XX стагоддзя — Ю. Грыма, Я. Галіча-Сулінскага, Я. Глінскага, Л. Герынга, А. Мілера і інш. Аўтар публікацый па іх творчасці. Жыве ў Мінску.

прамудрасці рэгістроўкі, а таксама прэзентаваў напісаную ім фугу для аргана[4].

Пасля атрымання дыплома аб прафесійнай музычнай спеласці Я. Глінскага паглынуў вір ваенных дзеянняў руска-турэцкай кампаніі 1877–1878 гадоў. Нядоўга «выпрабоўваючы» добразычлівасць лёсу, ён, урэшце, у 1879 г. вярнуўся на радзіму і адразу ўладкаваўся арганістам у былы бэрнардынскі касцёл Адшукання Св. Крыжа ў Гродне. Тут у распараджэнні Я. Глінскага аказаўся знакаміты старажытны арган XVII стагоддзя, што натхняў яго на разнастайныя цікавыя музычныя эксперыменты. Дадатковай крыніцай даходаў у Гродне стала месца выкладчыка спеваў у мясцовай жаночай гімназіі — праца, за якую малады музыкант узяўся з асаблівым энтузіязмам.

Далейшы ход жыццёвых падзей склаўся такім чынам, што, аддана праслужыўшы ў Гродне чатыры гады запар, Я. Глінскі трапіў у Вільню, дзе займаў пасаду арганіста і кіраўніка хору ў Вострай Браме (1883–1886), касцёле святых Янаў (1886) і Св. Духа (1887–1898), а таксама «прафесара фігуральнага спеву і тэорыі харала»[5] ў найстарэйшай навучальнай установе — Віленскай дыяцэзіяльнай семінарыі, вядомай яшчэ з часоў ВКЛ. Акрамя штодзённых музычных абавязкаў у касцёле, ён рэгулярна даваў урокі музыкі ўсім жадаючым і прымаў актыўны ўдзел у культурным жыцці віленчукоў.

Музычны патэнцыял колішняй сталіцы апошняй чвэрці XIX стагоддзя адкрываў перад Я. Глінскім вялікія перспектывы для рознабаковай творчай рэалізацыі, але ўвесь свой выканальніцкі, педагагічны і кампазітарскі талент ён скіроўваў у галіну рэлігійнага музычнага мастацтва, сумленна працуючы арганістам на ніве каталіцкай музыкі. Рэдкі імправізатарскі талент Я. Глінскага быў вядомы далёка па-за межамі Бацькаўшчыны, роўна як і яго педагагічны і вакальны дар (па ўспамінах вучняў, ён меў прыемны барытон[6]), а таксама «майстэрства гарманізацыі і выключныя здольнасці тэарэтыка»[7].



Магіла Я. Глінскага
на могілках Росы ў Вільні.

Валодаючы неардынарнымі якасцямі, Яўхім Глінскі арганізаваў «неафіцыйную школу арганістаў»[8] са спевакоў былога дамініканскага касцёла і віленскіх семінарыстаў. Каля 30-ці яе выхаванцаў — аднадумцаў музыканта па найважнейшых пытаннях богаслужбовай музыкі, набыўшы моцную прафесійную школу пад кіраўніцтвам таленавітага педагога, у далейшым вызначалі развіццё духоўнай музыкі цэлых рэгіёнаў былой Рэчы Паспалітай, дзяліліся сваімі ведамі і ажыццяўлялі запаветы свайго настаўніка. Тут неабходна прыгадаць самага вядомага, найбольш здольнага вучня і сябра Я. Глінскага[9], літаратара, аўтара вялікай публіцыстычнай спадчыны па музыцы касцёлаў Беларусі другой паловы XIX стагоддзя Антонія Мілера, а



Н.Орда, Будынак бэрнардынскага касцёла. Гродна.




Фрагмент твора Я. Глінскага «Меса ў гонар св. Алены», запісаная яго вучнем Э. Гірдо.

таксама арганіста і капельмайстра, кампазітара і педагога, буйнога музычнага дзеяча Нясвіжа міжваеннага часу Эдварда Гірдо. Варта ўзгадаць і вядомых у Вільні, Пецярбургу, Парыжы музыкантаў: арганнага віртуоза, дырыжора і педагога Уладзіслава Каліноўскага; кампазітара і капельмайстра Міхала Букшу; арганіста і харавога дырыжора Яна Ляснеўскага; бліскучага спевака і журналіста Паўла Клячкоўскага[10].

Менавіта для калегаў арганістаў Я. Глінскі прызначыў свой падручнік «Асновы музыкі», фрагмент якога змясціў у самым запатрабаваным часопісе свайго часу «Касцёльны спеў», прысвечаным шырокаму колу праблемаў каталіцкай музыкі. У ім музыкант жадаў асвятліць наступныя пытанні: «Даследаванне прыроды гукаў, вывучэнне інтэрвалаў і іх меладычных спалучэнняў, прымяненне іх з розным рытмам, парады ў сальфеджыраванні, кароткія тлумачэнні структуры малых сказаў у памеры дзве чвэрці»[11]. Здаецца, Я. Глінскі планаваў выдаць у перыёдыцы ўсю сваю работу, але, на жаль, раптоўная смерць не дазволіла рэалізавацца гэтаму намеру напоўніцу: удалося апублікаваць толькі першы параграф, дзе аўтар ахарактарызаваў чатырохлінейную і пяцілінейную натацыю, пазнаёміў чытачоў з нотамі і іх літарнымі абазначэннямі, а таксама растлумачыў генезіс акрэсленых графічных знакаў[12].

Падбор рэпертуару, на думку Я. Глінскага, з'яўляецца бадай самым важным этапам творчай дзейнасці касцёльнага музыканта. Я. Глінскі падтрымліваў ідэю адпаведнасці богаслужбых твораў дому Божаму, надзвычай актуальную тэму для тагачаснай музычна-літургічнай практыкі паўсюднага Касцёла, агучаную ў нас яшчэ заснавальнікамі аб'яднання св. Цэцыліі С. Манюшкам і Ф. Міладоўскім. Такой якасцю, па меркаванні Я. Глінскага, валодаюць галоўныя скарбы Касцёла — грыгарыянскі харал і поліфанійныя кампазіцыі майстроў рымскай школы, а таксама творы яе спадкаемцаў — музыка, якой ён захапляўся яшчэ з кансерваторскіх часоў, культывуючы ў сваёй выканальніцкай дзейнасці сачыненні Дж. Палестрыны і А. Ласа, Вацлава з Шамотул і Г. Гарчыцкага, Ф. Віта і Ё. Малітор, Ф. Шопфа і М. Халера, Ё. Штэле і Ё. Дзібальда[13].

Адным з першых на землях былой Рэчы Паспалітай Я. Глінскі адгукнуўся на заклікі Апостальскай Сталіцы выступіць супраць «рамантызацыі» касцёльных жанраў і за ачышчэнне касцёльнай музыкі ад уплываў свецкага мастацтва, аб чым сведчыць прадэкларaваная ім пазіцыя: «арганныя, а перадусім вакальныя творы, як і іх інтэрпрэтацыя ў святынях, павінны пазбаўляцца ад усялякай бліскучай свецкасці, неадпаведнай сакрамэнтальнай




Фрагмент твора Я. Глінскага «Меса ў гонар св. Вацлава», партыя тэнара, запісаная яго вучнем Э. Гірдо.

сур'ёзнасці набажэнстваў»[14]. Акрамя таго, асаблівае значэнне наш суайчыннік надаваў якаснаму харавому гучанню, у тым ліку і без арганнага суправаджэння, прафесійнай ігры на аргане, карэктнаму выкарыстанню песнапенняў падчас літургічных абрадаў і прытрымліванню поўных цыклаў пропрыя і ардынарыя Месы.

Дэманстрацыяй павагі Я. Глінскага да патрабаванняў Святога Пасаду стала і яго кампазітарская спадчына. Адзінымі знойдзенымі на сённяшні дзень узорамі рэлігійнай музыкі Я. Глінскага з'яўляюцца карпатліва перапісаныя рукой Э. Гірдо сачыненні[15]: «Меса ў гонар св. Вацлава»[16] ў трэцім тоне, «Меса ў гонар св. Алены»[17], «Меса *B-dur*»[18], «Меса *F-dur*»[19], «*Ave Maris Stella*»[20], «Вітай, Марыя»[21] і «*O salutaris*». Больш поўнае ўяўленне аб творчасці музыканта даюць зафіксаваныя на старонках ужо згаданага часопіса «Касцёльны спеў» рэпертуарныя спісы хору У. Каліноўскага і крытычна-публіцыстычныя матэрыялы А. Мілера. Дзякуючы іх звесткам можна казаць пра лацінамоўныя спевы на Пальмовую нядзелю[22], «*Ter Sancte Deus*»[23], «*Offertorium*»[24], «*Ecce Sacerdos magnus*»[25], асобныя часткі «*Sanctus*» і «*Benedictus*»[26] і Нешпары[27] Я. Глінскага. З іншых крыніцаў мы даведваемся пра «Месу ў гонар св. Юрыя»[28], напоўнены «прыгажосцю, прастатой і мясцоваю абаяльнасцю» «*Stabat Mater*»[29], «*Libera me*»[30], «*Omni die dic Mariae*»[31], 14 кампазіцый для мужчынскага хору *a capella*[32], удала зробленую гарманізацыю песні «Багародзіца»[33], а таксама пра заснаваныя на грыгарыянскім харале Месы і матэты[34].

Гэты пералік кампазіцый будзе няпоўным без узгадак твораў нашага суайчынніка, прызначаных для пазалітургічнага карыстання: назавем песню-паланэз «Вось, Божа, гэтыя сэрцы» і ўрачыстую кантату «*Salve*»[35], прывітальныя кантаты ў гонар біскупа і кс. Вінцэнта Ключынскага — прафесара Віленскай дыяцэзіяльнай семінарыі, выкладчыка многіх багаслоўскіх прадметаў, які ў пачатку XX ст. атрымаў сан Магілёўскага арцыбіскупа і Мітрапаліта[36].

Усе знойдзеныя на сённяшні дзень сачыненні Я. Глінскага яднае даніна павагі да музыкі Рэнесансу. Музычная тканіна гэтых некамплектных твораў поліфанізаваная, заснаваная на ўраўнаважанай камплементарнай рытміцы, плаўным галасавядзенні, а таксама сістэме затрыманняў і праходзячых гукаў. Усе Месы — яскравыя ўзоры ўвасаблення кампазітарам трох разнавіднасцяў шматгалосся: падгалосай, імітацыйнай і разнатэмнай поліфаніі, у сувязі з чым Я. Глінскі свабодна карыстаўся не характэрным для рэлігійнай музыкі другой паловы XIX ст. поліфанійным выкладам — вертыкальна-рухомым кантрапунктам. Арыгінальнай

з'яваю можна лічыць і выкарыстанне старой кампазітарскай тэхнікі *cantus firmus* у 14-ці песнях для мужчынскага хору *a capella*, у якіх, на думку польскага даследчыка каталіцкай музыкі К. Мроўца, мелодыя песняў лунае з сярэдніх галасоў у ніжні з дапамогай тэхнікі *nota contra notam* на фоне агульнай гарманійнай дакладанасці і прастаце кампазіцый[37].

Давяршаюць творчы партрэт кампазітара яго свецкія сачыненні: «Пікантная мазурка» і мазурка «Заглоба» — адзіныя выдадзеныя пры жыцці Я. Глінскага па «настойлівай просьбе сяброў» творы; ваенныя маршы; «Першацвет» — «прыгожая песня» на словы А. Міцкевіча; спевы на паэтычныя малітвы У. Сыракомлі; незавершаная опера на нацыянальны сюжэт «Паята»[38] па аповесці Ф. Бернатовіча[39]. Усе гэтыя творы, на думку яго вучняў, выяўляюць «любоў [Я. Глінскага] да роднай мясцовай песні»[40].

Імя Яўхіма Глінскага назаўсёды ўвайшло ў гісторыю літургічнага мастацтва Беларусі. Выконваючы будзённыя прафесійныя абавязкі арганіста і кіраўніка хору, ён здолеў, кіруючыся прынцыпам *roma locuta — causa finita*[41], адрадзіць і ўкараніць у богаслужбовую практыку Беларусі апошніх дзесяцігоддзяў грыгарыянскі харал і музыку поліфанійнага стылю *a capella* эпохі Дж. Палестрыны, што ў XIX ст. перасталі гучаць у святынях, страціўшы статус «пуцяводных зорак»[42].

У творчасці Я. Глінскага знайшлі ўвасабленне вопыт і прынцыпы яго старэйшых калегаў: С. Манюшкі і Ф. Міладоўскага, Ю. Грыма і Я. Галіча-Сулінскага, якія сваю дзейнасць скіроўвалі на адраджэнне выканальнага майстэрства і выдавецкай справы, развіццё музычнай публіцыстыкі і аднаўленне педагагічнай працы, рэфармаванне літургічнага музычнага рэпертуару. Тым не менш, толькі дзякуючы Я. Глінскаму пералічаныя формы музычна-духоўнага выказвання перасталі разглядацца ў тагачасным асяроддзі як чужародныя і не адпаведныя касцёльнаму цырыманіялу, а таксама ўспрымацца як «нудныя спевы», прыцярушаныя «пылам старадаўнасці»[43]. Варта зазначыць, што Я. Глінскі, сустрэўшыся з усеагульным недаверам і неразуменнем, з крытыкаю «дзедаўскіх спеваў»[44] і практыкі іх выкарыстання, усё ж планамерна і мэтанакіравана садзейнічаў гарманічнаму ўвядзенню такога тыпу рэпертуару ў набажэнствы і, урэшце, паступова спрыяў вынішчэнню ўстойлівых стэрэатыпаў у свядомасці святароў і вернікаў.

Аддаліўшыся ў часе, Я. Глінскі жыве сярод нас — сваіх сённяшніх вучняў, касцёльных музыкантаў, якія аберагаюць і захоўваюць памяць аб ім. А цудам захаваныя сачыненні нашага слаўнага суайчынніка, патанаючы ў стройным і велічным гімне хвалы нашаму Створцу, працягваюць гучаць у нашых родных святынях, спрыяючы духоўнаму ўзмацненню і паглыбленню веры Божага люду.

---

1 Пераклад Ю. Шэдзько.
2 Ананімны верш, прысвечаны памяці Я. Глінскага, быў змешчаны ў часопісе «Касцёльны спеў». Гл.: Wspomnienie o ś. p. Joachimie Glińskim // Śpiew kościelny. – 1898. – № 8. – S. 123.
3 Для большай хвалы Божай.
4 Капілаў, А. Л. Іаахім Глінскі / А. Л. Капілаў // Памяць : Мядзельскі раён : гіст.-дакум. хроніка / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]. – Мінск, 1998. – С. 114.
5 Uziębło, L. Joachim Gliński // Echo Muzyczne, Teatralne i Artystyczne : [tygodnik artystyczno-literacki]. – 1898. – № 16. – S. 187.
6 Miller, A. Wielki tydzień w Wilnie przed 50 laty / A. Miller. – Kurier wileński. – 1935. –№ 108. – S.4.
7 Uziębło, L. – op. cit. – S. 187.
8 Miller, A. – op. cit. – S. 4.
9 Uziębło, L. – op. cit. – S. 187.
10 Uziębło, L. – op. cit. – S. 187; Miller, A. – op. cit. – S.3-4;
11 Gliński, J. Zasadnicze podstawy muzyki / J. Gliński // Śpiew kościelny. – 1896. – R. 1, № 2. – S. 22.
12 Gliński, J. – op. cit. – S. 22.
13 Allegretto [A. Miller]. Z Wilna / A. Miller. – Śpiew kościelny. – 1895. – № 1. – S.15; Largo [A. Miller]. Z Wilna / A. Miller. – Śpiew kościelny. – 1896. – № 10. – S.159.
14 Uziębło, L. – op. cit. – S. 187.
15 Гірдо, Э. Рукапісны зборнік: Каталіцкая музыка [Ноты] / Архіў Нац. б-кі Беларусі, навук.-даслед. аддз. кнігазнаўства. – Фонд рукапісаў. – [Эйшышкі, 1880–1895]. – 233 с.
16 Захавалася партыя тэнара.
17 Захаваліся толькі часткі «Kyrie» і «Gloria» Месы.
18 Захаваліся часткі «Kyrie», «Gloria», «Credo», «Offertorium» і «Sanctus» Месы.
19 Захаваліся «Graduale» і «Offertorium» месы.
20 Захавалася партыя тэнара.
21 Захавалася толькі харавая партытура.
22 Sokolany Grodz. gub. // Śpiew kościelny. – 1903. – № 12. – S. 154.
23 Miller, A. Z Wilna. Ingres Jego Ekscelencyi ks. Biskupa Wileńskiego Stefana Zwierowicza / A. Miller. – Śpiew kościelny. – 1898. – № 1. – S.14.
24 Allegretto [A. Miller]. Z Wilna / A. Miller. – Śpiew kościelny. – 1896. – № 3. – S.46.
25 Allegretto [A. Miller]. Z Wilna / A. Miller. – Śpiew kościelny. – 1898. – № 11. – S.175.
26 Allegretto [A. Miller]. Z Wilna / A. Miller. – Śpiew kościelny. – 1898. – № 12. – S.188.
27 Allegretto [A. Miller]. Z Wilna / A. Miller. – Śpiew kościelny. – 1898. – № 12. – S.189.
28 Uziębło, L. – op. cit. – S. 187.
29 Z podróży do Petersburga // Śpiew kościelny. – 1897. – № 6. – S.141.
30 Uziębło, L. – op. cit. – S. 187.
31 Małachowicz, E. Cmentarz na Rossie w Wilnie / E. Małachowicz. – Wrocław : Zakład Narodowy im.Ossolińskich, 1993. – S. 267.
32 Mrowiec, K. Polska pieśń kościelna w opracowaniu kompozytorów XIX wieku / K. Mrowiec. – Lublin : KUL, 1964. – S. 98.
33 Uziębło, L. – op. cit. – S. 187.
34 Uziębło, L. – op. cit. – S. 187.
35 Miller, A. Z Wilna. Ingres Jego Ekscelencyi ks. Biskupa Wileńskiego Stefana Zwierowicza / A. Miller. – Śpiew kościelny. – 1898. – № 1. – S.15.
36 Kurczewski, J. Biskupstwo wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych, zawierające dzieje i prace biskupów i duchowieństwa djecezji wileńskiej, oraz wykaz kościołów, klasztorów, szkół i zakładów dobroczynnych i społecznych / J. Kurczewski. – Wilno : Nakł. i druk. J. Zawadskiego, 1912. – S. 101.
37 Mrowiec, K. – op. cit. – S. 98. У сваім даследаванні аўтар спасылаецца на рукапіс «Збор партытур касцёльных і свецкіх твораў розных аўтараў» Я. Глінскага, што, нібыта, зберагаецца ў беластоцкай Вышэйшай архідыяцэзіяльнай духоўнай семінарыі (гл. Mrowiec, K. – op. cit. – S. 168). Але ў ходзе нашага ўласнага даследавання высветлілася, што ў фондах навучальнай установы такі артэфакт адсутнічае.
38 Арыгінальная назва твора «Pojata, córka Lezdejki czyli Litwini w XIV wieku».
39 Uziębło, L. – op. cit. – S. 187.
40 Wspomnienie o ś. p. Joachimie Glińskim // Śpiew kościelny. – 1898. – № 8. – S. 122.
41 Рым выказаўся — справа вырашана.
42 Miller, A. Nieco z niedalekiej przeszłości / A. Miller // Śpiew kościelny. – 1896. – № 10. – S. 145.
43 Miller, A. Krótki zarys upadku muzyki kościelnej w zachodnich guberniach Cesarctwa w XIX wieku / A. Miller // Śpiew kościelny. – 1896. – № 8. – S. 115.
44 Miller, A. Wielki tydzień w Wilnie przed 50 laty / A. Miller. – Kurier wileński. – 1935. – № 108. – S.3.




Юры Лаўрык

# НАЙДАЎНЕЙШЫ ЕЗУІЦКІ МАНУСКРЫПТ З МІНСКА

З усіх каталіцкіх ордэнаў для пашырэння асветы і развіцця адукацыі на Беларусі найболей зрабілі, бадай, езуіты. Заснаванае ў першай палове XVI ст. дзеля змагання з Рэфармацыяй «Таварыства Езуса» засяродзіла сваю ўвагу ў першую чаргу на пашырэнні каталіцкіх ідэяў праз школу і кнігадрук. На практыцы гэта праявілася ў стварэнні высокаякаснай адукацыйнай сістэмы, якая рыхтавала кваліфікаваныя кадры для прапаведніцкай, навучальнай і выдавецкай працы таварыства, а дзякуючы адкрытасці для прадстаўнікоў усіх вызнанняў здабывала прыхільнікаў або, як сёння кажуць, «агентаў уплыву», ва ўсіх слаях грамадства.

Езуіты вельмі хутка ацанілі тыя магчымасці, якія ім давала кнігадрукаванне для дасягнення пастаўленых мэтаў, а таму актыўна яго выкарыстоўвалі, аднак рукапісная кніга яшчэ доўга бытавала ў езуіцкіх асяродках — асабліва на ўсходзе Еўропы, дзе «чорнае мастацтва» на той час яшчэ не дасягнула такога развіцця, як на Захадзе.

Адной з такіх рукапісных кніг з'яўляецца зборнік малітваў і пабожных сентэнцый, які быў створаны ў 1718 г. у Мінску, а сёння захоўваецца ў Спецфондах у Рукапісным аддзеле Бібліятэкі кракаўскага аддзялення Польскай акадэміі навук (PAU–PAN)[1]. Айчынным даследчыкам гісторыі кнігі гэты рукапіс раней не быў вядомы, хоць у апошнія дзесяцігоддзі беларускія навукоўцы і сталі даволі частымі наведнікамі даўняй польскай сталіцы. Сам я пра існаванне манускрыпта даведаўся выпадкова, з вуснаў калегі ўкраінца Максіма Патапенкі, з якім сустрэўся ў Кракаве на кнігазнаўчай канферэнцыі, і якому спяшаюся выказаць сваю шчырую ўдзячнасць за зычлівую падказку.

Спадар Максім прыбыў у Кракаў за некалькі дзён да пачатку канферэнцыі дзеля таго, каб скарыстаць з аказіі і папрацаваць у мясцовых архівах па тэме свайго даследавання. Пачуўшы, што я прыехаў з Мінска, ён распавёў мне, што падчас працы з каталогамі Рукапіснага аддзела

**Юры Лаўрык** — старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Закончыў бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт Мінскага ўніверсітэта культуры, тэалагічны і гістарычны факультэты Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта. Даследуе гісторыю беларускай кнігі і бібліятэк.




PAU–PAN бачыў апісанне нейкага лацінскага манускрыпта мінскага паходжання. І хоць я меў сумневы, ці пра наш Мінск ідзе гаворка, аднак палічыў сваім абавязкам пазнаёміцца з загадкавым рукапісам.

У гэты свой прыезд у Кракаў я меркаваў наведаць зусім не акадэмічную бібліятэку, а архіў і кніжніцу кракаўскага кляштара а. бэрнардынаў, таму загадзя паклапаціцца пра рэкамендацыйны ліст для PAU–PAN, на жаль, не здагадаўся. Выручыла колішняя гарадзенка, а сёння кракавянка са стажам і супрацоўніца Акадэміі Ліля Коўкель, пад чыё слова мне дазволілі атрымаць на рукі для вывучэння каштоўны манускрыпт. Безумоўна, тых дзвюх гадзінаў, што былі ў маім распараджэнні, недастаткова для грунтоўнага даследавання рукапіса, тым больш што не заўсёды разборлівы почырк пісальніка і частыя скарачэнні лацінскіх словаў зрабілі тэкст складаным для расчытання. Тым не менш, я маю надзею, што гэты артыкул, падрыхтаваны па выніках азнаямлення з манускрыптам, дасць магчымасць чытачу скласці пэўнае ўяўленне пра гэты помнік мінскага каталіцкага жыцця, які захоўваецца ў суседняй краіне (на жаль, фатаграфаванне арыгіналаў у бібліятэцы забаронена, і я не магу праілюстраваць тэкст здымкамі рукапіса).

* * *

Насуперак чаканням, кніжачка аказалася зусім маленькаю, кішэннага фармату: 10,5 х 6 см; гэта, для параўнання, памер візітоўніцы — сёння б рукапіс залічылі да міні-кніг. Манускрыпт узяты ў скураную аправу; аб'ём кніжнага блока — 92 лісты, уключаючы форзацны ды нахзацны (г. зн., лісты пры аправе — перад пачаткам і напрыканцы кнігі), на якіх пазней таксама рабіліся запісы.

На тытульнай старонцы рысаваны пяром картуш — фігурны шчыт, які трымаюць умоўна паказаныя постаці (назавем іх *putti*); на картушы выпісаны загаловак кнігі: «Liber precatororius [sic!] selectas Continens devotiones ad Majorem Dei Gloriam, script$_9$ Minsci Anno Dni 1718» («Кніга выбраных малітваў у сувязі з набажэнствамі дзеля Вялікшай Славы Божай, пісана ў Мінску Году [ад нараджэння] П[а]на [Езуса] 1718»). На адвароце тытульнага ліста — цытата з сярэднявечнага трактата «De modo bene vivendi» («Пра лад добрага жыцця»), які раней прыпісвалі пяру св. Бэрнарда з Клерво.

Паводле свайго зместу манускрыпт з'яўляецца сакрамэнтарыем: у ім, згодна з паказанай вышэй назваю, змешчаны рознага роду малітвы і іншыя тэксты, што выкарыстоўваліся галоўным чынам пры адпраўленні набажэнстваў і касцёльных абрадаў — пераважна лацінскія: «Парадак ушанавання [Найсвяцейшага] Сакрамэнту» (л. 4), «Малітвы перад і пасля супольнага набажэнства» (лл. 5–8), «Парадак выслухоўвання споведзі» (лл. 9–14), «Літанія да святых апекуноў» (лл. 20–24), «Жаль за грахі» (лл. 64–67) і г. д. Зрэдку, аднак, сустракаюцца тэксты і па-польску — як малітвы на л. 58 ці касцёльная песня на л. 81. Змест кнігі выразна сведчыць пра тое, што ўкладальнікам зборніка быў святар, які выпісваў тэксты для ўласнай патрэбы.

Сярод змешчаных у кнізе тэкстаў ёсць як самі малітвы, так і датычныя малення ці богаслужбы цытаты з твораў айцоў Касцёла (св. Аўгустына, св. Яфрэма, св. Яна Златавуснага) і пазнейшых каталіцкіх аўтараў (Баэцыя, Ігнацыя Лаёлы, св. Анзэльма, езуіта Гаспара Дружбіцкага). Выкарыстанне як у загалоўку, так і ў іншых месцах кнігі выразу «Ad Majorem Dei Gloriam» ці яго абрэвіятуры «Ad M. D. G.», актыўны зварот да спадчыны Ігнацыя Лаёлы і твораў езуіцкіх аўтараў, урэшце знаходжанне ў «Літаніі да святых апекуноў» імя Лаёлы адразу пасля імя апекуна Вялікага Княства Літоўскага св. Казіміра (а за ім св. Францішка Ксавэрыя і, крыху ніжэй, Андрэя Баболі і ўсіх святых «Таварыства Езуса» — «omnes SS Societatis JESU») указваюць нам на закон, у асяродку якога ўзнік зборнік — ордэн езуітаў. А надпіс «script$_9$ Minsci» («пісана ў Мінску») выразна паказвае на месца стварэння; праўда, на тэрыторыі Рэчы

Паспалітай быў не адзін Мінск: апрача нашага, т. зв. «літоўскага», існаваў яшчэ і Мінск у Мазовіі. Аднак гэтая дылема вырашаецца проста: паколькі ў Мінску Мазавецкім езуітаў спакон веку не было, манускрыпт мог быць створаны толькі ў сённяшняй сталіцы Беларусі; ускосна гэта пацвярджае і наяўнасць цытатаў з твораў усходніх айцоў Касцёла, якія былі актуальныя передусім у кантэксце місійнай працы сярод праваслаўных.




Варта сказаць яшчэ некалькі словаў пра храналогію рукапіса. Пазначаны на тытульнай старонцы 1718 год не з'яўляецца дакладнай датаю, бо зборнік складаўся на працягу не аднаго года. Спачатку запісы ў кніжцы рабіліся паслядоўна, але з пропускам старонак паміж тэкстамі рознага характару; пасля ж заканчэння вольных аркушаў новыя малітвы і цытаты ўпісваліся на прапушчаных старонках і на форзацы. З гэтай прычыны запіс лацінамоўнай малітвы на л. 68-м датаваны 1720 г., а спіс рэліквій святых на л. 24-м адв. — увогуле 1738 г. Такім чынам, стварэнне зборніка можна ўмоўна датаваць 1718–1738 гг. (умоўна таму, што некаторыя тэксты маглі дапісвацца і пасля 1738 г.). Але ў кожным разе, гэта найдаўнейшая звязаная з мінскім езуіцкім асяродкам рукапісная кніга з тых, што сёння вядомыя даследчыкам.

* * *

Першыя езуіты з'явілася ў Мінску ў 1657 г., калі біскуп Смаленскі Геранім Сангушка купіў з мэтаю закладання калегіума камяніцу Юрыя Гегера на Высокім рынку і сюды прыбылі два прадстаўнікі закону: а. Лукаш Залускі і а. Ігнат Бекер[2]. Такім чынам паўстала мінская езуіцкая рэзідэнцыя, якая існавала да 1662 г., пакуль не была знішчана ў выніку ўзнаўлення вайны з Расійскай дзяржаваю.

Толькі праз 10 гадоў, у жніўні 1672 г., мінскі езуіцкі асяродак быў адноўлены ўжо як місія і праіснаваў у гэтай якасці да 1686 г. Для працы на місіі ў Мінск былі прысланыя чацвёра езуітаў з Нясвіжа: прыёрам быў пастаўлены а. Мікалай Зярніцкі, функцыі місіянераў выконвалі айцы Андрэй Зяневіч і Павел Казірадскі, а пасаду прафесара граматыкі ў наваствоанай школе заняў Язэп Гаевіч[3]. Езуіты пачалі праводзіць прапаведніцкую, катэхізацыйную і душпастырскую працу як ва ўласнай капліцы на Высокім рынку, так і ў царкве св. Пятра і Паўла на Нямізе, дзе прамаўлялі казанні па-беларуску[4].

Пры суперыёры Аляксандру Фрэру ў сярэдзіне 1680-х гг. дзейнасць мінскіх езуітаў актывізавалася ў адукацыйным кірунку: місія была зноў ператворана ў рэзідэнцыю; у 1685 г. была збудаваная бурса для бедных вучняў, а ў 1686 г. да раней выкладанай граматыкі далучыліся класы паэтыкі і рыторыкі; а ў 1689 г. было закончана будаўніцтва новага будынка калегіума, на той час драўлянага. Неўзабаве, то бок у 1700 г., быў закладзены, а ў 1710 г. кансэкраваны касцёл Імя Езуса, Марыі і св. Барбары[5], што сёння існуе пад тытулам Імя Найсвяцейшай Панны Марыі і вядомы нам як мінская архікатэдра.

Аднак падзеі Паўночнай вайны, што пракаціліся па беларускіх землях у гэты час, кепскім чынам паўплывалі на адукацыйную працу мінскіх езуітаў, якая часова была перапыненая і вярнулася ў звыклае рэчышча толькі ў 1715 г. — праз год пасля ператварэння рэзідэнцыі ў калегіум[6]. Менавіта з дзейнасцю наваствоанага езуіцкага калегіума ў Мінску і працаю аднаго з яго святароў, імя якога застаецца, на жаль, нам не вядомым, звязана стварэнне апісанага манускрыпта.

*У афармленні тэксту выкарыстаны паштоўкі пачатку XX ст. са збораў Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.*

---

1 Biblioteka Naukowa Polskiej Akademii Umiejętności i Polskiej Akademii Nauk w Krakowie. Wydział rękopisów. Zbiory specialne. Rkps 1013: „Liber precatorius selectas".

2 Załęski, S. Jezuici w Polsce / Stanisław Załęski. – T. 4, cz. 4 : Kolegia i domy założone za królów Jana Kazimierza, Michała, Jana III, obydwóch Sasów i Stanisława Augusta, 1648–1773. – Kraków : Drukiem i Nakładem Drukarni W. L. Anczyca i Sp., 1905. – S. 1504.

3 Тамсама.

4 Тамсама, с. 1505.

5 Тамсама, с. 1507–1509.

6 Тамсама, с. 1507, 1513.



Званіца ў Серніках.
Малюнак Я. Драздовіча. 1926 г.

Тамара Габрусь

# БЕЛАРУСКІЯ КАМПАНІЛЫ

Гісторыя званоў як музычнага ўдарнага інструмента налічвае каля 4 000 гадоў. Першымі хрысціянамі яны ўспрымаліся як язычніцкія артэфакты, і толькі з пачатку V ст. званы пачалі ўжывацца для розных рэлігійных патрэбаў: апавяшчэнні аб пачатку набажэнства, небяспецы, жалобе па памерлых і інш. Таму на званах часам змяшчалі цытаты са Святога Пісання і сімвалічную трыяду: «*Vivos voco. Mortuos plango. Fulgura frango*» (*«Жывых склікаю. Па памерлых плачу. Полымя ўтаймоўваю»*). Ініцыятыву зрабіць званы голасам хрысціянскіх святыняў прыпісваюць св. Паўліну (353–431 гг.), які жыў у італьянскай правінцыі Кампанья, таму званы атрымалі лацінскую назву «*campaña*». Там жа ўпершыню было ўзведзена асобнае вышыннае збудаванне для званоў пад назваю «*кампаніла*». Выкарыстанне для будаўніцтва мясцовага прыроднага каменя ў Італіі дазваляла рабіць кампанілы больш высокімі за саборы. Звычайна кампанілы мелі квадратнае сячэнне з падвойнымі ці патройнымі арачнымі праёмамі ўверсе, дзе мясціліся званы. Такое вырашэнне кампанілы стварала выразны акцэнт храмавага ансамбля, спрыяла свабоднаму гучанню званоў. Па-за межамі Італіі ў сярэднявечнай Еўропе для размяшчэння званоў звычайна прыстасоўваліся магутныя вежы мураваных раманскіх і гатычных сабораў.

На ўсходнеславянскія землі царкоўныя званы прыйшлі ў XI ст., пасля хрышчэння Русі, але не з Візантыі, дзе званы з'явіліся пасля захопу Канстанцінопаля крыжаносцамі ў 1204 г., а з Заходняй Еўропы, праз Вялікі Ноўгарад, які меў гандлёвыя стасункі з Ганзейскім саюзам. Мураванае пскоўска-наўгародскае дойлідства старажытнарускага перыяду данесла да нас далучаныя да храмаў арачныя сценкі для званоў. Характэрна, што час будаўніцтва мураванага Сафійскага сабора ў Полацку даследчыкі вызначаюць 1044–1066 гг., што адпавядае храналагічным рамкам паміж пачаткам княжання Усяслава і яго паходам на Ноўгарад, з якога ён прывёз званы і іншыя трафеі для полацкай Сафіі. Пра адданасць князя Усяслава сваёй святыні гаворыць аўтар «Слова аб палку Ігаравым»: «*Тому в Полотьске позвониша заутренюю рано у святыя Софеи в колоколы, а он в Кыеве звон слыша*». (Тэкст ускосна сведчыць пра тое, што ў Кіеве на той час званоў не было).

Да пачатку XVI ст. на ўсходнеславянскіх землях для азначаных мэтаў часцей ужываліся металічныя білы, у якіх гук здабываецца ўдарамі палкі на ўзроўні чалавечага росту. Яны

**Тамара ГАБРУСЬ** — доктар мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Закончыла архітэктурнае аддзяленне Беларускага політэхнічнага інстытута (1968) і аспірантуру ІМЭФ АН Беларусі (1973). Даследуе манументальнае дойлідства Беларусі. Укладальнік і аўтар кнігі «Страчаная спадчына» (1998), аўтар кніг «Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока» (2001), «Саборы помняць усё» (2007), «Паэзія архітэктуры» (2012) і інш. Сябра Саюза беларускіх архітэктараў, Саюза беларускіх мастакоў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі архітэктуры.

падвешваліся на перакладзіне, умацаванай на апорах розных канструкцый: слупах, козлах і інш. І толькі з развіццём званіцейнай справы з'явілася неабходнасць у асобных пабудовах для званоў.

Адметную частку беларускага сакральнага дойлідства складаюць па-мастацку выразныя драўляныя званіцы-вежы пры храмах розных хрысціянскіх канфесій. Многія з іх, нягледзячы на пажары і іншыя перыпетыі лёсу, ацалелі. Пытанні генезісу і эвалюцыі драўляных званіцаў закраналіся даследчыкамі храмабудаўніцтва ўсходнеславянскіх народаў канца XIX—пачатку XX стагоддзя: рускімі (Ф. Волкаў, Ф. Гарнастаеў, І. Забелін, М. Красоўскі, А. Паўлінаў і інш.), украінскімі (Г. Паўлуцкі, Ф. Белавус, Я. Галавацкі, М. Драган, В. Шчарбакіўскі і інш.), польскімі (З. Глогер, І. Зубрыцкі, В. Дзедушыцкі, К. Маклоўскі, М. Сакалоўскі і інш.). У кантэксце драўлянага дойлідства Цэнтральна-Усходняй Еўропы іх прыцягвалі непараўнальныя па сваёй прыгажосці храмавыя ансамблі са званіцамі Галіцыі, Валыні, Падолля, Лемкаўшчыны, якія кожны з даследчыкаў імкнуўся далучыць да культурна-гістарычнай спадчыны свайго народа. Адпаведная спадчына Беларусі, «Северо-Западного края» Расійскай імперыі, у той час нікога не цікавіла. Даследчыцкая цікавасць да яе праявілася толькі з пачаткам станаўлення айчыннага мастацтвазнаўства (У. Краснянскі, В. Ластоўскі, У. Чантурыя, Т. Хадыка-Габрусь, Ю. Якімовіч, С. Сергачоў, А. Лакотка). Гэтае ж кола артэфактаў для свайго рэгіёна грунтоўна прааналізавана літоўскай даследчыцай А. Янкавічэне.

Аднак пытанні пра тое, калі з'явіліся асобна пастаўленыя драўляныя званіцы як адметны архітэктурны тып, з якой прычыны і які характар іх эвалюцыі, вырашаюцца даследчыкамі па-рознаму. Вядомы расійскі даследчык драўлянага дойлідства М. Красоўскі, які разглядаў храмавыя званіцы Рускай Поўначы і «Малороссии» (Лемкаўшчыны, Галіцыі, Валыні і Падолля), а таксама «Вобласці Войска Данскога», класіфікаваў іх па колькасці ярусаў. Першым вызначыць адметнасці беларускіх званіцаў зрабіў спробу У. Чантурыя, які падзяляў іх па тыпу канструкцыі. Але азначаныя падыходы не мелі храналагічнай асновы і не выяўлялі эвалюцыі архітэктурна-мастацкіх формаў.

Выдатны беларускі гісторык і краязнаўца, член Віцебскай вучонай архіўнай камісіі, пазней супрацоўнік Інбелкульта У. Краснянскі лічыў, што эвалюцыя асобна пастаўленых званіцаў ішла ад прымітыўных слупковых канструкцый, якія паступова ўскладняліся, але гэтая канцэпцыя залішне прамалінейная і не адпавядае сапраўднасці. Выкарыстанне прымітыўных аднаярусных слупковых званіцаў залежала, хутчэй, ад эканамічных магчымасцяў парафіі. Наяўнасць прымітыўных слупковых званіцаў зафіксавана, напрыклад, у падарожным альбоме Мейерберга пачатку XVII ст. (у Дуброўне) і праз два стагоддзі — у малюнках Д. Струкава 1864 г. (пры цэрквах св. Ганны ў сяле Крысава Слуцкага павета, св. Юр'я ў Новым Сяле Бабруйскага павета, у Прылуках Мінскага павета), што сведчыць пра стабільнасць іх розначасавага існавання ў праваслаўных прыходах. Падобным чынам прымітыўныя слупковыя званіцы выкарыстоўваліся і ў грэка-каталіцкім і каталіцкім драўляным храмабудаўніцтве. Інвентар 1796 г. касцёла Унебаўзяцця Дзевы Марыі ў вёсцы Задвея Баранавіцкага р-на, пабудаванага ў 1697 г., сведчыць: «перад касцёлам званіца аб чатырох слупах, яшчэ моцная, апарканення добрага вакол няма». Экспедыцыямі «Збору помнікаў...» падобныя аднаярусныя слупковыя званіцы зафіксаваны ў былых уніяцкіх цэрквах: перакладзіна на 2-х слупах з двухсхільным дахам (в. Лобча Пінскага р-на), 4 нахіленыя да цэнтра слупы з двухсхільным дахам (в. Ражкоўка



Званіца ў Дзеткавічах. 1970-я гг.

Камянецкага р-на), з вальмавым дахам (в. Стрыгінь Бярозаўскага р-на, 1817), з пакатым чатырохсхільным шатром-«каўпаком» з пляцоўкаю для званароў, абнесенай разьбянаю балюстрадаю (в. Голдава Лідскага р-на, 1795; в. Чудзін Ганцавіцкага р-на, 1867).

З другога боку, сярод гісторыкаў архітэктуры пашырана меркаванне, што драўляныя царкоўныя званіцы як функцыянальна-канструкцыйнае цэлае генетычна паходзяць ад баявых вежаў драўляных крапасных умацаванняў, і ў храмах яны дадаткова служылі дазорнымі вежамі ў абарончых мэтах. Аднак і з гэтаю высноваю вучоных цяжка пагадзіцца, бо асобная пастаноўка званіцы, наадварот, зніжае фартыфікацыйныя якасці збудавання. Дастаткова прыгадаць, што ўсе абарончыя храмы Беларусі мелі баявыя вежы, шчыльна далучаныя да асноўнага аб'ёма ці надбудаваныя. Гэта тычыцца і праваслаўных чатырохвежавых цэркваў-крэпасцяў, і готыка-рэнесансных касцёлаў, і рэфармацкіх збораў з адной магутнаю вежаю-вестверкам на галоўным фасадзе.

Пазней, у XVII—XVIII стст., у перыяд сталага і позняга барока, пад уплывам узораў мураванай



Званіца ў Чэрску.

айчыннай архітэктуры атрымалі пашырэнне каталіцкія і ўніяцкія драўляныя храмы базылікальнай канцэпцыі з двухвежавым галоўным фасадам. Пры гэтым вежы ў іх не мелі ніякага функцыянальнага прызначэння. У фасадных вежах барочных храмаў рэдка мясціліся важкія званы, для якіх звычайна ставілася асобная двух- ці трох'ярусная званіца. У вежачках пры касцёлах ці над імі часам размяшчаліся малыя званы (сігнатуркі). Літоўская даследчыца А. Янкявічэне лічыць, што прычынаю пашырэння асобна пастаўленых званіцаў была менавіта вялікая вага званоў, небяспечная для канструкцыі надбудаваных над храмамі вежаў.

Намі прапануецца ўласная мастацтвазнаўчая канцэпцыя паходжання і эвалюцыі асобна пастаўленых айчынных драўляных званіцаў, заснаваная на ўздзеянні эстэтычнай канцэпцыі стылю барока, прыўнесеная ў беларускую архітэктуру з Італіі. На нашу думку, асобна пастаўленыя званіцы-вежы ў беларускім драўляным дойлідстве з'явіліся прыблізна ў пачатку XVII ст. у сувязі са зменамі архітэктурна-мастацкай канцэпцыі суадносінаў прасторы і аб'ёмаў у асобным збудаванні і ў ансамблі ў цэлым. Асобная пастаноўка званіцы адпавядала новым ансамблевым прынцыпам барока, спрыяла больш шчыльнаму ўзаемадзеянню архітэктуры і асяроддзя, адчуванню прасторава-часавага рытму. І на гэтым узроўні ў іх генезісе можна адзначыць не толькі ўплыў крапаснога дойлідства, але і таксама італьянскіх кампанілаў. І першай на гэтым шляху была магутная мураваная вежа-кампаніла каля езуіцкага касцёла Божага Цела ў Нясвіжы, першага помніка стылю барока ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе. У перыяд ранняга барока вылучэнне з кампазіцыі храма готыка-рэнесанснага тыпу развітага аб'ёма бабінца са шмат'яруснаю вежаю над ім рабілася з мэтаю займець у драўляным храме базылікальнай канцэпцыі плоскі галоўны фасад накшталт тагачасных мураваных базылікаў.

Адным з самых важных мастацкіх прынцыпаў барока з'яўляецца стварэнне разгорнутага архітэктурна-прасторавага храмавага ансамбля. Асноўным сродкам узбагачэння і развіцця архітэктурнага ансамбля часоў барока з'яўляецца асобная ад касцёла пастаноўка званіцы, нават пры наяўнасці высокіх вежаў на галоўным фасадзе. Характэрна, што драўляныя званіцы ставіліся побач і з драўлянымі, і з муараванымі святынямі. Храм заўжды займаў дамінуючае становішча ў планіровачнай структуры населенага пункта, каля гандлёвай плошчы горада, мястэчка ці сяла. Яго тэрыторыя з невялікімі могілкамі-цвінтаром вылучалася драўлянаю ці муараванаю агароджаю з брамаю, якая часам спалучалася са званіцаю.

Калі разглядаць традыцыйныя архітэктурна-мастацкія характарыстыкі званіцаў XVII–XX стст., то відавочна, што яны творча вар'іруюцца і канструкцыйна, і кампазіцыйна, і рэгіянальна. Для даследавання намі былі разгледжаны звыш 100 помнікаў, вядомых паводле натурных абследаванняў і архіўных крыніцаў, дзе захоўваюцца старажытныя інвентары і мастацкія выявы званіцаў у творах Н. Орды, Д. Струкава, А. Ромера, Ф. Рушчыца, Я. Драздовіча, фотаздымкі пачатку XX ст. Я. Балзункевіча, 1920-х гг. з архіва Інбелкульта, 1970-х гг. з архіва сектара «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» ІМЭФ НАН Беларусі і сучаснага складальніка «Глобуса Беларусі» А. Дыбоўскага. Параўнанне розначасавых графічных матэрыялаў адлюстроўвае радыкальныя змены, якія адбыліся ў архітэктурна-мастацкіх вобразах драўляных званіцаў на працягу XIX — пачатку XXI ст.

Базавыя архітэктурныя характарыстыкі беларускіх драўляных званіцаў як асобнага цэнтрычнага вышыннага збудавання, бясспрэчна, запазычаныя з традыцыйных будаўнічых прыёмаў узвядзення баявых чацверыковых вежаў драўляных крэпасцяў сярэднявечнай Беларусі. Пра гэта сведчыць, напрыклад, «Чарцёж Віцебска 1664 г.», на якім зафіксаваныя храмы горада першай паловы XVII ст. з далучанымі да фасадаў ці размешчанымі над бабінцамі званіцамі. На «Чарцяжы...» бачна, што званіца Увядзенскай царквы мела падабенства з крапасною Дзвінскаю вежаю Верхняга замка. Строгі чацвярык званіцы з крыху нахіле-

ными сценамі завяршаўся падсябіццем — навясною канструкцыяй з байніцамі, накрытаю пакатым шатром-«каўпаком». Аднак, згодна той жа крыніцы, віцебскія Васкрасенская, Спаса-Праабражэнская цэрквы і былы касцёл езуітаў, пазначаны як царква Аляксееўскага манастыра, у сярэдзіне XVII ст. мелі ўжо развітыя двух'ярусныя вежы над бабінцам з высокімі фігурнымі барочнымі галоўкамі-«банькамі». Пры гэтым на тэрыторыі езуіцкага кляштара стаяла невялікая слупковая званічка для чатырох малых званоў, накрытая шатровым дахам.

Для ўстойлівасці найбольш раннія званіцы часам мелі нахіленыя да цэнтра сцены ніжняга чацверыка і навясны верхні ярус, які імітаваў падсябіцце. Вельмі цікавая як імітацыя крапаснога збудавання — званіца віцебскай Ільінскай царквы, выявы якой няма на «Чарцяжы...», бо яна была пабудаваная разам з царквою каля 1746 г. і згарэла адначасова з ёю ў 1904 годзе. Для храмавага ансамбля на малюнку Д. Струкава 1864 г. характэрна спалучэнне традыцый мясцовага абарончага дойлідства з эстэтыкаю барока. Магчыма, гэты незвычайны сінтэз і спарадзіў недакладнае датаванне помніка ў навуковым ужытку. Невысокая званіца мела звонку чатыры чацверыковыя ярусы і завяршалася пакатым шатром-«каўпаком» з галоўкаю і крыжам. Ніжні ярус для ўстойлівасці меў моцна нахіленыя да цэнтра сцены. Два наступныя ярусы з аднолькавым квадратным сячэннем толькі ўмоўна падзяляліся розным спосабам шалёўкі. Верхні навясны ярус з трыма арачнымі вокнамі з кожнага боку вобразна імітаваў падсябіцце.

Ніжні ярус званіцы часта выкарыстоўваўся як уваходная брама на тэрыторыю храма — прыём, які таксама генетычна паходзіць з мясцовага крапаснога будаўніцтва. Наяўнасць у сярэдзіне XVII ст. шмат'ярусных цэнтрычных сакральных пабудоваў вежавага тыпу пацвярджае ўнікальны



Званіца ў Рамелі.

праект надбрамнай царквы ў Слуцку Багуслава Радзівіла. На чарцяжы — гэта праездная крапасная брама з квадратным планам, над якою кансольна навісае большы па памерах аб'ём царквы, абкружаны падсенямі, што імітуе падсябіцце. Апошні ярус збудавання займае званіца, накрытая чатырохсхільным шатром з прагібам, увенчаная высокаю шасціграннаю фігурнаю галоўкаю-«банькаю» («сармацкага» тыпу) з крыжам. Арыгінальная кампазіцыя слуцкай надбрамнай царквы сведчыць пра крапасны генезіс гэтай сакральнай пабудовы ў спалучэнні з барочнаю эстэтыкаю.

Рысы крапаснога збудавання захавала і ўнікальная трох'ярусная званіца пры Міхайлаўскай царкве ў Чэрску Брэсцкага р-на. Яе ніжні і верхні ярусы зроблены як традыцыйныя чацверыкі, але навясны другі ярус, вылучаны скатамі даха, з шэрагамі арачных праёмаў, якія нагадваюць машыкулі, надае збудаванню суворы абарончы выгляд.

Для большасці традыцыйных, асобна пастаўленых званіцаў Беларусі XVII–XVIII стст. характэрны ўстойлівыя кампазіцыйна-канструкцыйныя архітэктурна-будаўнічыя прыёмы. У архіўных інвентарах адзначаецца, што званіцы былі пабудаваныя «на вязанні ў квадрат» (г.зн. гарызантальнымі вянкамі, з квадратным планам) ці «аб чатырох слупах» (каркасныя), альбо былі змяшанага тыпу з ніжнім зрубавым і слупковым верхнім (ці двума верхнімі) ярусамі, якія ўверсе звычайна накрываліся пакатым шатром-«каўпаком» з крыжам. Ярусы падзяляліся шырокімі прычолкамі-адлівамі, пакрытымі серабрыстым гонтам.

Беларускаму дойлідству не ўласцівыя званіцы з больш чым трыма ярусамі. Прыблізна 1/10 частка разгледжаных помнікаў — гэта аднаярусныя лапідарныя прызматычныя аб'ёмы каркаснай канструкцыі з вузкімі акустычнымі адтулінамі ўверсе, накрытыя невысокім чатырохсхільным шатром. Пад шатром зроблены адкрытыя перакладзіны, на якіх мацуюцца званы. Пераходным кампазіцыйным варыянтам з'яўляюцца двух'ярусныя званіцы, якія маюць аднолькавае папярочнае сячэнне абодвух ярусаў. Яны знакава падзяляюцца гарызантальнаю цягаю вузкага адліва. Падобныя званіцы XVIII ст. зафіксаваны пры храмах усіх канфесій у розных рэгіёнах Беларусі, ад Заходняга Палесся да Дзісненшчыны: у вёсках Збірагі, Покры, Чарнаўчыцы Брэсцкага



Званіца ў Мураванай Ашмянцы.

р-на, Здзітава Жабінкаўскага р-на, Валавель Драгічынскага р-на, Давыд-Гарадку Столінскага р-на, Касарычах Слуцкага р-на, Гудагаі Астравецкага р-на, Касцяневічах Вілейскага р-на і інш.

Найбольш пашыранымі былі двух’ярусныя званіцы з ніжнім зрубным чацверыком і меншым у папярочным сячэнні верхнім каркасным ярусам, падзеленымі шырокім прычолкам, з разнастайна аформленымі акустычнамі праёмамі. Са 100 даследаваных намі помнікаў да іх адносяцца 44: званіцы ў вёсках Грыцкавічы Крупскага р-на, Бездзежы, Дзеткавічах Драгічынскага р-на, Дзівіне, Лелікаве Кобрынскага р-на, Шарашове Пружанскага р-на, Лявонпалі Міёрскага р-на, Дудах Іўеўскага р-на, Багданаве Валожынскага р-на, Вяльцы Глыбоцкага р-на, у Троіцкай царкве на Пескавацiку ў Віцебску, у Богаяўленскім Куцеінскім манастыры ў Оршы і інш. На малюнку Д.Струкава ў Друі зафіксаваны дзве падобныя званіцы пры Дабравешчанскай і Спасаўскай цэрквах, а таксама ўнікальная драўляная званіца, якая складалася з двух васьмерыковых ярусаў са скразнымі праёмамі пры мураваным касцёле.

Адначасова з удасканаленнем прасторава-кампазіцыйных і пластычных характарыстык сакральнай архітэктуры ў цэлым адпаведна асаблівая маляўнічасць надавалася і архітэктуры званіцаў. Найбольш шыкоўныя драўляныя званіцы перыяду барока звычайна складаліся з трох ярусаў чацверыкоў. Згодна мастацкім сродкам віленскага барока, з мэтаю стварэння ілюзіяністычных эфектаў памеры ярусаў выразна скарачаліся ўгору, што зрокава рабіла вежу званіцы больш высокаю і стройнаю. Верхнія ярусы (адзін ці два) звычайна афармляліся шэрагамі скразных праёмаў, якія імітавалі ажурныя арачныя галерэі — падсені. Відавочна, што мясцовая назва «падсені» акцэнтуе той маляўнічы святлоценевы эфект, што стваралі арачныя галерэі ў мастацкім вобразе збудаванняў. Цотная альбо няцотная колькасць праёмаў на ярусах магла вар’іравацца, напрыклад, як у прыгожай кампаніле ў Клецку (паводле малюнка З.Глогера). Малюнак арачных праёмаў дасягаўся пераважна з дапамогаю фігурна габляваных вуглавых падкосаў: менавіта такія званіцы ў вёсках Багданава Валожынскага р-на, Сінкевічы Лунінецкага р-на, Мядзведзічы Ляхавіцкага р-на. Другім спосабам стварэння падсеняў на верхніх ярусах званіцаў было вырэзванне арачных перамычак у шырокай дошцы-падзорыне над праёмамі. Гэты прыём зафіксаваны В. Ластоўскім у шэрагу званіцаў былой Бабруйскай акругі ў вёсках Толы, Ворсічы, Шыпілавічы каля Любані, мястэчку Урэччы, пры Васкрасенскай царкве ў Слуцку, але сустракаецца і ў іншых месцах, напрыклад, у званіцах пры касцёлах у вёсках Валеўка Наваградскага р-на, Муравана Ашмянка Астравецкага р-на. Іншы раз падзорыны дадаткова ўпрыгожваліся рамбічнымі, круглымі ці авальнымі акустычнымі праёмамі, як званіца ў вёсцы Осаўцы Драгічынскага р-на. У шэрагу помнікаў пралёты паміж слупамі каркаса ўмацоўваліся перакрыжаванымі дыяганальнымі і рамбічнымі падкосамі, якія павялічвалі прасторавую жорсткасць канструкцыі і стваралі арнаментальны дэкор: такія званіцы ў вёсках Лявонпаль Міёрскага р-на, Ляскавічы і Махро Іванаўскага р-на, Дзеткавічы Драгічынскага р-на.

Ніжнюю частку скразнога яруса званіцаў звычайна закрываў глухі парапет альбо балюстрада з разьбянымі балясінамі ці перакрыжаванымі падкосамі. Іншы раз шырокі гонтавы прычолак пластычна пераходзіў на парапет верхняга яруса з дапамогаю «кажухавання»: такія званіцы ў Прачысценскай і Варварынскай цэрквах у Слуцку, Серніках на Піншчыне. Відавочна, што даволі рэдкі прыём «кажухавання», г.зн. абшыўкі вертыкальнай сценкі парапета гонтам, з’яўляецца вынікам уплыву на будаўніцтва Беларускага Палесся ўкраінскіх узораў, дзе ён быў шырока распаўсюджаны.

Стылёваю і канструкцыйнаю характарыстыкаю традыцыйных званіцаў з’яўляецца наяўнасць і тып іх шалёўкі. У часы барока для званіцаў рознай канструкцыі найбольш характэрнаю была вертыкальная шалёўка пілаванымі дошкамі («тарціцамі») з нашчыльнікамі, відавочна, з

эстэтычных патрабаванняў ансамблевага адзінства з храмам. Традыцыйную вертыкальную шалёўку на ўсіх ярусах мае магутная трох’ярусная званіца пры Ільінскай царкве ў в. Велямічы Столінскага р-на. Аднак, у адрозненне ад храмаў, ніжні зрубны з брусоў чацвярык не заўсёды быў ашаляваны, а заставаўся адкрытым нават у рэпрэзентатыўных помніках: такія званіцы касцёлаў св. Юр’я ў Янаве Сакольскім (малюнак Н.Орды) і св. Андрэя ў Кабыльніку (малюнак А. Ромера), уніяцкай царквы ў Серніках (малюнак Я.Драздовіча). Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай пад уплывам эстэтыкі рускага класіцызму атрымала пашырэнне гарызантальная шалёўка драўляных цэркваў і званіцаў, часам з вертыкальнаю цокальнаю панеллю і выкарыстаннем у дэкоры вуглавых пілястраў і прафіляваных ліштваў.

Будаўніцтва дасканалай званіцы вымагала нямалых сродкаў. Трох’ярусная зрубна-каркасная званіца, «з купалком наверсе», пры касцёле св. Антонія ў в. Хажова Маладзечанскага р-на, згодна з інвентаром, была ўзведзеная на сродкі ваяводы трокскага Тадэвуша Агінскага «пры дапамозе людской». Значную, калі не большую, матэрыяльную і духоўную каштоўнасць уяўлялі званы, ахвяраванне якіх звычайна адзначалася. На трох’яруснай званіцы Увазнясенскай царквы ў в. Моладава Іванаўскага р-на, прыбудаванай да храма ў XIX ст., знаходзіцца звон, адліты ў 1583 г. у Коўне на сродкі кашталяна мсціслаўскага Сымона Войны, уладальніка моладаўскага маёнтка. Звон аздоблены гербам роду Войнаў з выяваю трох трубаў, трох рэкаў і пяціканцовай зоркі; герб суправаджаюць шэсць тэкстаў на старабеларускай мове, чаканеных лацінкаю. Тэксты распавядаюць пра жыццё бацькі ахвярадаўцы і гісторыю стварэння звона. Гэты каштоўны артэфакт быў выяўлены, вывучаны і выратаваны экспедыцыяй сектара «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» пад кіраўніцтвам Э. І. Вецер і Ю. В. Хадыкі ў 1970 годзе. Доўгі час ён знаходзіўся ў Музеі старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі, але быў перададзены вернікам пасля адраджэння царквы.

У формаўтварэнні вярхоў беларускіх званіцаў найбольш старажытнымі і традыцыйнымі з’яўляюцца чатырохсхільныя пакатыя шатры з вышынёю, роўнаю палове дыяганалі плана («каўпакі»), увенчаныя крыжам, замацаваным на стрыжні-штыберы (ад ням. *stemmen — абапірацъ, berg — гара*) ці «яблыку» (невялікай акруглай аснове). Акрамя аскетычнага традыцыйнага шатра-«каўпака», у вянчаючых масах барочных званіцаў выкарыстоўваліся пластычныя прагібы і заломы, васьмерыкі і шасцерыкі «сармацкага» тыпу, шмат’ярусныя гранёныя галоўкі-«банькі».

Далучэнне беларускіх земляў да Расійскай імперыі ў канцы XVIII ст., змена канфесійных арыенціраў, скасаванне ўніяцкай Царквы ў 1839 г. прывялі да карэнных зменаў у традыцыях будаўніцтва не толькі храмаў, але і званіцаў. Уплывам класіцызму, а пазней псеўдарускага стылю, тлумачыцца пашырэнне ў верхніх ярусах званіцаў формы актагона (правільнага васьмігранніка), замена строгай пірамідальнай формы шатра-«каўпака» самкнёным купалам альбо псеўдарускім вастраверхім шатром, а таксама замена сціплых штыбераў з крыжамі і гранёных фігурных «банек» ампірнымі спічакамі і цыбулістымі галоўкамі. Для стварэння характэрнай рускай царкоўнай архітэктуры чатырохчасткавай структуры храма (з трапезнаю) званіцы пераносілі са свайго месца і ставілі ўшчыльную да былой уніяцкай царквы, каб надаць ёй «истинно русский» выгляд. На працягу XIX ст. да цэркваў былі прыбудаваныя раней асобна пастаўленыя званіцы ў вёсках Рамель і Гарадная Столінскага р-на, Валеўка Навагрдскага р-на, Порплішча Докшыцкага р-на,



Званіца ў Шарашове.

Дарапеевічы, Олтуш, Хаціслаў Маларыцкага р-на, Мацііевічы і Сцяпанкі Жабінкаўскага р-на, Новая Папіна Драгічынскага р-на, Покры і Дубок Брэсцкага р-на, Дружылавічы Іванаўскага р-на, Агароднікі, Гарадзішча і Панікквы Камянецкага р-на, у Кажан-Гарадку Лунінецкага р-на, Ільінскай царкве ў Ельску, Міхайлаўскай у Слуцку і шмат якіх іншых.

У наш час, пасля адраджэння рэлігійнага жыцця розных канфесій, з «благімі» намерамі над архітэктураю традыцыйных званіцаў Беларусі зноў ажыццяўляюцца жорсткія эксперыменты, што ніякім чынам не нагадваюць рэстаўрацыю ці нават пачціві рамонт. Раней скразныя ярусы наглуха абшываюцца сайдзінгам, гонт паўсюдна заменены бляхаю, акустычныя праёмы зашкляюцца, аўтэнтычныя драўляныя канструкцыі расфарбоўваюцца, традыцыйныя формы вянчаючых элементаў меняюцца на псеўдарускія вастраверхія шатры з цыбулістымі галоўкамі і г.д. Усё гэта, на жаль, кардынальна змяняе выпрацаваны пакаленнямі майстроў-дойлідаў мастацкі вобраз помнікаў і бяздумна дэфармуе эстэтычны густ нацыі.



Шчучын. Касцёл і будынкі калегіума піяраў. Фота 1930-х гг.

Марыюш Аўш

# ПІЯРСКІЯ ШКОЛЫ НА ЗЕМЛЯХ БЕЛАРУСІ

Вытокі *Ordo Clericorum Regularium Pauperum Matris Dei Scholarum Piarum* (ад слова *piarum* з'явілася польскае скарачэнне pijarzy [*піяжы*] і беларускае *піяры*), або па-беларуску *Ордэн Духоўных Рэгулярных Убогіх Маці Божай Пабожных Школаў,* сягаюць да 1597 года. Ордэн заснаваў у Рыме іспанец José de Calasanz (Юзаф Каласанс). Пачаткам ордэну піяраў лічыцца заснаванне школы ў бедным раёне Рыма (Затыбра) з дапамогай пробашча парафіі св. Дароты кс. Антонія Брэнта́на. Школа была бясплатнай і даступнай для ўсіх, а навучанне вялося на пачатковым узроўні. Установа атрымала назву: Пабожная Школа (лац. *Schola Piae*)[1].

У Польшчу піяры прыбылі ў 1642 г. і адкрылі калегіумы ў Варшаве і Падаліне на Спішы[2]. Да 1662 г. польскія піярскія калегіумы былі ўласнасцю Нямецкай правінцыі, бо толькі тады ўзнікла зацверджаная папам Аляксандрам VII асобная Польская правінцыя, у склад якой уваходзіла таксама Венгерская віцэ-правінцыя. У 1692 г. венгерскія калегіумы стварылі ўласную правінцыю, а ў 1696 г. была створана Літоўская віцэ-правінцыя. У 1736 г. улада ордэну заснавала самастойную Літоўскую правінцыю. Першым літоўскім правінцыялам быў Францішак Торкват Тымінскі, гэтую функцыю ён выконваў у 1736–1742 гг. Раней, будучы рэктарам у Вільні, Торкват Тымінскі заснаваў там шляхецкі канвікт — віленскі *Collegium Nobilium* (школу, якая мела права называцца вышэйшай навучальнай установай). У той час колькасць калегіумаў у Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў набліжалася да 30-ці[3]. Піяры адыгралі важную ролю ў дзеях польскай адукацыі, а самай славутай постаццю без сумневу з'яўляецца кс. Станіслаў Кана́рскі, які правёў рэформу піярскай сістэмы адукацыі і заснаваў у Варшаве ў 1740 г. славуты *Collegium Nobilium*. Аднак немалы ўклад у гэтую справу ўнеслі таксама іншыя калегіумы і піярскія школы.

Падчас існавання Літоўскай правінцыі функцыі правінцыялаў выконвалі: Францішак Торкват Тымі́нскі (Franciszek Torkwat Tymiński)[4], 1736–1742 гг.; Себасцьян Выкоўскі (Sebastian Wykowski)[5], 1742–1748 гг.; Францішак Торкват Тымінскі (Franciszek Torkwat Tymiński), 1748–1751 гг.; Ка́спер (Гаспар) Тжэшчакоўскі (Kasper Trzeszczakowski)[6], 1751–1754 гг.; Себасцьян Выкоўскі (Sebastian Wykowski), 1754–1757 гг.; Ян Хрызастом Страшэўскі (Jan Chryzostom Straszewski)[7], 1754–1760 гг.; Каспер Тжэшчакоўскі (Kasper Trzeszczakowski),

---

**Марыюш АЎШ** — доктар габілітаваны, гісторык, выкладчык Універсітэта імя Марыі Складоўскай-Кюры ў Любліне. У 1996 г. скончыў магістратуру па гісторыі, у 2000 г. атрымаў званне доктара, а ў 2014 г. — званне доктара габілітаванага. Аўтар некалькіх кніг: «Піярскія школы на Любельшчыне ў XVII–XIX стст.» (2006), «Аднаўленне Польскай правінцыі піяраў» (2013) і інш.

1760–1766 гг.; Феліцыян Выкоўскі (Felicjan Wykowski)[8], 1766–1772 гг.; Юзаф Ку́шаль (Józef Kuszel)[9], 1772–1775 гг.; Міхал Францкевіч (Michał Frąckiewicz)[10], 1775–1778 гг.; Банавентура Ярманскі (Bonawentura Jarmański)[11], 1778–1781 гг.; Мацей Тука́ла (Maciej Tukałło)[12], 1781–1782 гг.; Тадэвуш Лянг (Tadeusz Lang)[13], 1782–1793 гг.; Юзаф Віславух (Józef Wysłouch)[14], 1793–1796 гг.; Канстанты Якуцэвіч (Konstanty Jakucewicz)[15], 1796–1803 гг.; Юзаф Астро́ўскі (Józef Ostrowski)[16], 1803–1809 гг.; Ісідар Сяклюцкі (Izydor Sieklucki)[17], 1809–1811 гг.; Павел Хлябоўскі (Paweł Chlebowski)[18], 1811–1814 гг.; Аляксандр Глагоўскі (Aleksander Głogowski)[19], 1814–1820 гг.; Мацей Купсць (Maciej Kupść)[20], 1820–1826 гг.; Юзаф Крукоўскі (Józef Krukowski)[21], 1826–1832 гг.; Сільвестр Вяльбут (Sylwester Wialbutt)[22], 1832–1839 гг.; Яцэк (Гіяцынт) Румяноўскі (Jacek Rumianowski)[23], 1839–1841 гг.; Яўхім Дэмбінскі (Joachim Dębiński)[24], 1841–1843 гг.).

Ордэн на тэрыторыі Рэчы Паспалітай у 1772 г., налічваў 498 манахаў піяраў. Да Польскай правінцыі належалі 363 піяры (320 святароў, 37 семінарыстаў, 6 братоў), а да Літоўскай — 135 піяраў (93 святары, 17 семінарыстаў і 25 братоў)[25].

У Літоўскай правінцыі піяраў у другой палове XVIII ст. існавалі калегіумы ў Шчучыне-Літоўскім, Лідзе, Вільні (*Collegium Nobilium*, а ў 1773 г. піяры занялі паезуіцкі кляштар і касцёл св. Рафала ў віленскіх Сні́пішках), Лужках, Вількаміры, Расіе́нах, Лубяшы, Дубровіцы, Панявежы, Зэльве, Віцебску, Дуброўне, а таксама парафію ў Дукштах. Пасля 1795 г. калегіум у Міжрэччы Карэцкім адзіны з Польскай правінцыі апынуўся ў расійскім раздзеле Польшчы і быў далучаны да Літоўскай правінцыі, а ў першай палове XIX ст. да гэтай правінцыі належалі Полацк і Пецярбург. У 1807 г. у выніку чарговых палітычных зменаў да Літоўскай правінцыі быў далучаны драгічынскі калегіум.

У межах Беларусі знаходзіліся калегіумы ў Шчучыне-Літоўскім, Воранаве-Балотным, Зэльве, Лужках-Валерыянаве, Лідзе (калегіум, перанесены з Воранава), Віцебску, Дуброўне, Полацку.

## Калегіумы Літоўскай правінцыі піяраў

Найстарэйшым манаскім домам піяраў у Літоўскай правінцыі была **Дамбровіца**, заснаваная ў 1684 г. фундатарам Янам Ка́ралем Дольскім — вялікім маршалкам ВКЛ і пінскім старостам. На такую фундацыю яго схіліў спаведнік, піяр Ігнат Кжыжкевіч (Ignacy Krzyżkiewicz). Разам са сваёй першай жонкай Альжбетай (дзяв. Вострарог) 2 мая 1684 г. ён перадаў ордэну 46 000 флорынаў для маёнтка Дамбровіца, прызначаных на ўтрыманне 12-ці піяраў[26]. 16 ліпеня 1695 г. ахвярадаўца перапісаў іх на Стрэльск. Школа ў Дамбровіцы адчынілася ўжо 1684 годзе. На жаль, забудова ў Дамбровіцы была драўлянай, і ў 1705 г. яе спалілі шведы. У 1740 г., падчас выконвання абавязкаў рэктара дома ксяндзом Казімірам Пнеўскім (Kazimierz Pniewski), быў адбудаваны ўжо каменны кляштар разам са школай[27]. Ян Караль Дольскі таксама быў фундатарам калегіума ў Любяшове каля Пінска (пад назваю Новы Дольск у гонар фундатара). 10 красавіка 1689 г. распачалася будова драўлянага касцёла імя св. Яна Апостала Евангеліста. Касцёл быў пабудаваны ў форме крыжа. Унутры былі размешчаны пяць алтароў. Фундатар вырашыў перанесці ў касцёл абраз Маці Божай, які дагэтуль знаходзіўся ў Целеха́нах. Абраз лічыўся цудадзейным, таму быў змешчаны ў левым бакавым алтары. 1 кастрычніка 1692 г. у Любяшоў прыбыў правінцыял Вінцэнт Дымовіч, які прызначыў ксяндза Казіміра Пнеўскага адказным за перамовы з фундатарам. Караль Дольскі на новую фундацыю прызначыў 90 000 флорынаў[28].

У **Шчучын-Літоўскі** (інакш — Лідскі, ці Навагрудскі) у 1718 г. піяраў запрасіў Юры Юзафовіч-Глябіцкі, звязаны сямейнымі адносінамі са славутым родам Сцыпіёнаў[29]. Пасля смерці першай жонкі Ганны (дзявоч. Палубінская-Лі́мант) Юры Юзафовіч-Глябіцкі пашлюбаваўся з Кацярынай Сцыпіён дэль Кампа (Katarzyna Scypionówna del Campo), венскай хару́жанкай. Ян Сцыпіён дэль Кампа (Jan Scypio del Campo), кашталян смаленскі, ажаніўся з Тэрэзай, дачкой Юрыя Юзэфовіча-Глябіцкага[30]. У 1718 г. памёр першы фундатар, і ягоную справу працягваў сын Аляксандр. Датаю фундацыі кляштара прынята лічыць 13 чэрвеня 1718 г., а гэта значыць, што Аляксандр толькі клапаціўся аб пацвярджэнні фундацыі і яе прывілеях[31]. Гэта пацвярджае і той факт, што ў 30-я гады XVIII ст. школа ў Шчучыне-Літоўскім называлася *Collegium Jozefovicianum*. Піяры прынялі пробаства ў фарным касцёле з усімі даходамі і забудовамі. Першыя забудовы шчучынскага калегіума былі драўлянымі, і толькі ў другой палове XVIII ст. з'явіліся першыя мураваныя будынкі. Школа ў Шчучыне-Літоўскім была адчыненая ў 1718 г. і да XIX ст. знаходзілася ў трох драўляных дамах. У XVIII ст. піярскія будынкі не мелі багатага абсталявання, хаця матэрыяльная сітуацыя шчучынскіх піяраў, якія адначасова прынялі пробаства, далучала іх да найбагацейшых асяродкаў на той прасторы[32]. У Шчучыне-Літоўскім працавала таксама настаўніцкая семінарыя, узровень якой гісторык Юзаф Лукашэвіч ацэньваў вельмі высока[33]. Пасля смерці



Ліда. Касцёл піяраў.
Фота 1900-х гг.

Юрыя Юзафовіча-Глябіцкага — галоўнага фундатара піярскага прадстаўніцтва, яго дачка Тэрэза Сцыпіён надалей апекавалася піярскім калегіумам. Яна перадала ордэну неакрэсленую суму, якую ў 1726 г. пацвердзіў Сойм. Потым былі чарговыя ўзносы на карысць шчучынскіх піяраў. Сцыпіёны ў Шчучыне і на землях Пажэва перадалі 23 735 фларынаў. Пётр Пац передаў 22 000 флорынаў, а Казімір Сапега — 15 000 флорынаў[34]. Гэтыя грашавыя ўзносы спрыялі таму, што піяры мелі ў распараджэнні важкі капітал. У 1785 г. кіраўніцтва школай пераняў кс. Баніфацы Станіслаў Юндзіл, які рэарганізаваў яе паводле правілаў Камісіі нацыянальнай адукацыі (КНА), яна засталася 3-класавай школай з рознымі падраздзяленнямі. Адным з найбольш вядомых выхаванцаў школы быў Ігнат Дамейка, які вучыўся ў ёй у 1813–1816 гг..

У **Панявéжы** (цяпер Літва) піярскі кляштар з'явіўся ў 1727 г. дзякуючы намаганням Крыштафа Домбскага (або Дамброўскага), старосты бернатоўскага, зямнога пісара ўпіцкага. Дала пачатак і рэзідэнцыя ў Пагіры, якая ўжо існавала з 1723 г., а ў 1727 г. была перанесена ў Панявеж. На жаль, пра дзейнасць гэтага піярскага прадстаўніцтва захаваліся вельмі малыя звесткі. Дакладная дата адкрыцця школы ў гэтым месцы невядомая[35].

Піярскі асяродак у **Вярэнаве** (ранейшая назва Балотна, сёння Воранава) з'явіўся ў 1735 г. дзякуючы фундацыі кашталяна смаленскага і старосты барцянскага Яна Сцыпіёна дэль Кампа з жонкай Тэрэзай з Глябіцкіх-Юзафовічаў і сынам Юзафам, старостам лідскім і мукáраўскім. Калі Юзаф Сцыпіён дэль Кампа пашлюбаваўся з Вярэнай Фíрлей з Дамбровіцы, маладая пара атрымала мястэчка Балотна. Ад імя новай спадчынніцы мясцовасць атрымала новую назву — Вярэнаў. Хутка пасля гэтага, 1 жніўня 1735 г., Ян Сцыпіён дэль Кампа разам з жонкай Тэрэзай і маладажонамі падпісалі кантракт адносна прысутнасці піяраў, ахвяраваўшы манахам пляц пад касцёл і школу, а таксама 50 000 польскіх злотых на ўтрыманне 12-ці манахаў. Пасля Шчучына-Літоўскага гэта была другая фундацыя сям'і для піяраў. Яны таксама сталі на бок піяраў у спрэчцы з віленскімі езуітамі[36]. Сума 10 000 флорынаў была ўкладзена ў фальварак Лапацішкі з вёскай Вількацы, 5 000 флорынаў — у вёску Асавá, якая належала Самуілу Белікевічу, 10 000 флорынаў ахвяраваліся ружанскай зямлі, 20 000 флорынаў — у Мерачы (Мяркінé), а 5 000 флорынаў знаходзіліся ў самога фундатара[37]. Апрача фундацыйнай сумы, дарыльшчыкі ў 1734 г. моцаю тэстаменту іх дваранíна Войцеха Стацэвіча далучылі чарговыя 22 000 флорынаў для Радзівонішкаў. Піяры ўзамен узялі на сябе абавязак здзяйсняць там святарскую паслугу, навучаць у школе і цэлебраваць святыя Імшы ў інтэнцыі фундатараў[38]. У інтэнцыі Яна Сцыпіёна дэль Кампа і ягонай жонкі піяры павінны былі цэлебраваць святыя Імшы па панядзелках, за бацькоў галоўнага фундатара (Казіміра і Зоф'ю) — па серадах, за Юзафа і яго жонку — у пятніцу, за памерлага Войцеха Стэцэвіча — у аўторак, а ў суботу была спяваная Імша за душы, якія не маюць паратунку[39].

У 1736 г. у Вярэнаў прыбылі два піяры: Ян Багуцкі ад св. Тамаша Аквінскага, які выконваў абавязкі настаяцеля (суперыёра), а таксама Тэадор Баркоўскі, казнадзей, адміністратар парафіі і настаўнік. Піяры прыступілі да абавязкаў у парафіі, і адразу ж пачала дзейнічаць школа. Ужо ў 1737/1738 навучальным годзе да пачатковых класаў інфімы далучыліся таксама вышэйшыя класы паэзіі і рыторыкі. У 1738/1739 навучальным годзе ў кожным класе быў асобны настаўнік. Спачатку школа дзейнічала ў часовых умовах, а піяры жылі ў плябаніі, аднак кс. Багуцкаму ўдалося здабыць 10 000 флорынаў з фундацыйнай сумы, якая дазволіла збудаваць новыя драўляныя будынкі. У той час быў таксама ўпарадкаваны фальварак Лапáцішкі. Піярскаму дому ў Вярэнаве падпарадкоўвалася

рэзідэнцыя ў Геранёнах, якая валодала парафіяльнай школай, дзе навучалі два манахі[40]. Піяры бывалі ў Геранёнах яшчэ перад з'яўленнем ордэну ў Вярэнаве[41]. Можна меркаваць, што піяры з Вярэнава на працягу двух навучальных гадоў, 1737/39, апекаваліся школай у Талачыне. Аб прадстаўніцтве піяраў у Зэльве вядома вельмі мала. Каля 1740 г. мясцовы пробашч, кс. Габрыэль Шмідт, заснаваў рэзідэнцыю піяраў, якім аддаў у арэнду фальварак Чарняк з вёскай Ястшэмбе[42]. Больш за тое, ён перапісаў на піяраў суму 15 142 флорыны, а таксама ўсю сваю нерухомасць. Узамен ксёндз абавязваў манахаў утрымліваць школу, ажно да класа рыторыкі ўключна, а таксама катэхізаваць мясцовае насельніцтва[43]. Сярэднюю школу адкрыць не атрымалася, але дзейнічала парафіяльная школа (магчыма, з перарывамі), якая была ліквідавана царскім урадам у 1832 г.[44].



Лужкі. Касцёл піяраў.
Фота 1915-х гг.

Пачатак дзейнасці **лідскага** калегіума звязаны з калегіумам у Вярэнаве[45]. Яго фундатарамі была сям'я Сцыпіёа дэль Кампа. Вярэнаўскі калегіум функцыянаваў 30 гадоў, 12 студзеня 1756 г. Ігнат Сцыпіён дэль Кампа — унук фундатара вярэнаўскага калегіума — перанёс яго ў Ліду, абгрунтоўваючы гэта лепшым размяшчэннем Ліды, а таксама тым, што хаця яна была павятовым горадам і большым за Вярэнаў, аднак не мела школы[46]. На гэты выбар мог паўплываць піяр Мацей Догель, які быў родам з Лідскага павета, а таксама настаўнікам Ігната дэль Сцыпіёна. Аднак мяркуецца, што змяніць лакалізацыю прымусіла ўжо ўзгаданая спрэчка піяраў з літоўскімі езуітамі[47]. Новае прадстаўніцтва, спачатку драўлянае, ахоплівала касцёл, калегіум, а таксама школу. Новая піярская сядзіба дадаткова мела два фальваркі: Лапацішкі і Пастаўшчыну, а таксама некалькі завяшчанняў на спадчыну, якія гарантавалі акрэсленыя сумы на ўтрыманне калегіума і школы. Школа ў Лідзе пачала дзейнічаць у 1756/57 навучальным годзе, як напісана ў хроніцы: лекцыі вёў сам прэфект і кс. Юзаф Віславух, які прыехаў з Дубровіцы. Вучні з Вярэнава перайшлі сюды гуртам, бо там перастала існаваць школа, а тут ужо былі старэйшыя класы, як інфармуюць пра гэта настаўніцкія абавязкі піяраў, запісаныя ў персанальнай кнізе кангрэгацыі[48]. Адукацыйнай дзейнасцю ў Лідзе піяры займаліся да 9 верасня 1834 г.[49] Ліквідацыя калегіума пачалася ў лютым 1842 г., кляштар канчаткова быў скасаваны ў маі 1845 г., а манахаў прымусілі пераехаць у Міжрэчча Карэцкае[50]. Так скончылася першая, амаль стогадовая прысутнасць піяраў у Лідзе.

Чарговы піярскі калегіум з'явіўся ў 1741 г. дзякуючы кашталяну полацкаму Валерыяну Антонію Жабу[51] ў **Лужках**, якія ад ягонага імя таксама называліся Валерыянаў. Кашталян Жаба перадаў піярам даходы ад фальварка Віснік у Барысаўскім павеце, пабудаваў школьны будынак, гаспадарчыя пабудовы, а таксама даў піярам права браць драўніну (на апал і рамонт будынкаў) у Лужэцкай пушчы[52]. Даход дазваляў таксама ўтрымліваць бедных вучняў (у 1785 г. іх было 12, а ў 1804 г. толькі 5). Лужэцкая школа карысталася вялікай папулярнасцю і па колькасці вучняў перавышала суседнія. За перыяд з 1779 г. ажно да ліквідацыі школы ў маі 1832 г. захаваліся (з перарывам на 1795–1801 гг.) дадзеныя аб колькасці вучняў; найбольшая іх колькасць — 189 — была ў 1820/21 навучальным годзе[53].

У 40-я гады XVIII ст. былі адкрыты яшчэ два калегіумы піяраў: у Расіе́нах (Расяйней) у 1743 г., а таксама ў Вількамі́ры ў 1745 годзе. Першы калегіум быў з фундацыі сям'і Сянніцкіх, другі — ад вількамірскай шляхты. У абодвух калегіумах дзейнічалі сярэднія школы, якія былі ліквідаваны ў 1832 г.[54].

Калегіум у **Віцебску** з'явіўся каля 1753 г. з фундацыі жыхароў горада: Адама і Ганны Свіршчэўскіх, праз год быў пабудаваны касцёл і гаспадарчыя пабудовы[55]. Пра гэты калегіум і школу захавалася найменш звестак. Віцебская школа апынулася ў першым падзеле Польшчы



Віцебск. Касцёл піяраў.
Фота 1900-х гг.

Расіяй, і яна не была падпарадкавана Камісіі нацыянальнай адукацыі, але асноўныя задачы той рэформы былі рэалізаваныя. Паколькі піяры часта змянялі школы, можна меркаваць, што яны ведалі патрабаванні КНА з працы ў іншых піярскіх школах. Пасля атрымання запісу на валоданне ад князя Пацёмкіна ў Дуброўне піяры перанеслі туды школу ў 1785 г., а ў Віцебску служылі толькі ў парафіі. Пасля адмовы ад фундацыі ў Дуброўне ў 1799 г. школа вярнулася ў Віцебск і дзейнічала там да 1821 г., бо царскі ўрад перавёў віцебскіх піяраў у Полацк, дзе яны атрымалі пасля езуітаў славутую Полацкую акадэмію, якой кіравалі да 1830 г., пакуль царскі ўрад не забраў будынкі для ваеннай школы. Піяры пераехалі з часткай абсталявання ў Вільню і там адкрылі школу, якая дзейнічала амаль два гады — у 1832 г. яна была зачыненая[56].

Хутка пасля заснавання асобнай правінцыі піяры пад кіраўніцтвам кс. Станіслава Канарскага распачалі ў сябе школьную рэформу. Яны былі сімвалам зменаў у адукацыі XVIII ст. Ксёндз Канарскі адзіны за свае заслугі ў адукацыі атрымаў ад караля медаль *Sapere Auso*. У 1753 г. рэформа кс. Станіслава Канарскага была зацверджана ў Пятркове – афіцыйная яе назва: *Ordinationes Visitationis Apostolicae* (Правілы апостальскай візітацыі). У 1754 г. кс. Канарскі завёз Статут у Рым, дзе ён быў зацверджаны ўладаю ордэну і Пантыфіка[57]. Гэтыя перамены напачатку былі абавязковымі толькі ў Польскай правінцыі, Літоўская правінцыя прыняла іх з дзесяцігадовым спазненнем[58]. Гэта была першая польская школьная рэформа, праведзеная без замежных узораў. Канешне ж, асветніцкія ідэі ішлі з-за мяжы, але сама ідэя рэформы, структура і праграмы новых школаў былі польскімі. Калі была заснавана Камісія нацыянальнай адукацыі, піярскія школы, як і ўсе школы, у тым ліку і манаскія, ёй падпарадкоўваліся. З гэтага часу піярскія школы страцілі свае адметныя рысы[59]. Ордэн піяраў падпарадкаваўся новаму міністэрству і стараўся выконваць ягоныя пастановы. Піяры вельмі хутка аб’явілі аб сваім удзеле ў супрацоўніцтве і сталі важным звяном у рэалізацыі рэформы КНА — яны ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы праектаў рэформы, напісанні падручнікаў і г.д. Кс. Казімір Нарбут, як успамінаў французскі гісторык Амбруаз Жобéр, ад самага пачатку быў членам Таварыства першапачатковых кніг, выдатным піярам з Літоўскай правінцыі, якая правяла рэформу ў сваіх школах паводле распараджэння КНА на пачатку 80-х гадоў XVIII ст. Канешне, не ўсе піяры былі перакананыя ў неабходнасці новай рэформы. Некаторыя, як пісала Каміла Мразоўская, спачатку супраціўляліся, але потым сталі больш лаяльныя[60]. Некаторым не хапала адукацыі, хтосьці быў кансерватыўным і не здольным справіцца з новым распараджэннем Камісіі нацыянальнай адукацыі. Аднак у ордэне не бракавала людзей з ясным разуменнем справы, «сыноў рэформы Канарскага», светачаў і прыхільнікаў новых асветніцкіх плыняў. Шмат піяраў атрымала адукацыю ў Францыі, Італіі, Германіі, Аўстрыі і Англіі. Ордэн у другой палове XVIII ст. стаў досыць важным навуковым асяродкам. Піяры сачылі за новымі плынямі ў педагогіцы: перакладалі навуковыя публікацыі з замежных моваў, якія выкарыстоўвалі на ўроках ці па-за імі.

Школы Літоўскай правінцыі былі зачыненыя ў 30-я гады. Адносіны царскага ўраду да іх былі непрыязнымі. Меркавалася, што школы фарміруюць патрыятычныя пазіцыі сярод моладзі, і гэтая боязь не была беспадстаўнай. Удзел вучняў у барацьбе, як і актыўны ўдзел некаторых піяраў у лістападаўскім паўстанні, былі зручнай прычынай, каб ліквідаваць піярскія школы ў Польскай і Літоўскай правінцыях: у Польскай правінцыі ўсе школы былі зачыненыя ў 1832 г, а ў Літоўскай правінцыі яны зачыняліся паступова. Як чытаем у лісце графа Івана Паскевіча да графа Строганава ад 26 жніўня 1832 г., згодна з воляй імператара патрабавалася, каб найперш ордэн піяраў быў адхілены ад адукацыі моладзі[61].

Такім чынам, піярскія калегіу-

мы і школы Літоўскай правінцыі паступова былі цалкам зачыненыя ў 30–40 гг.  XIX ст. Найдаўжэй праіснаваў калегіум у Міжрэччы Карэцкім, які стаў месцам дзейнасці піяраў пасля ліквідацыі іх правінцыі. Апошняга правінцыяла выбралі на капітýле ў 1841 г., гэта быў Яўхім Дэмбінскі, які кіраваў піярамі да 24 мая 1843 г., г.зн. да іх ліквідацыі царскай уладай. Апошні літоўскі піяр кс. Аўгустын Вярыга памёр у 1894 г.[62].

Пасля аднаўлення незалежнасці Польшчы піярам удалося вярнуць тры калегіумы з былой Літоўскай правінцыі: у Лідзе, Шчучыне-Літоўскім і Любяшове. У Лідзе і Любяшове піяры распачалі педагагічную дзейнасць. Першымі адкрыліся школы ў Лідзе. Там, апрача звычайнай школы, існавала таксама і гандлёвая школа, якая надоўга засталася ў памяці лідчанаў.

Падводзячы вынікі, трэба адзначыць, што піяры Літоўскай правінцыі ўнеслі вялікі ўклад у распаўсюджванне навукі і культуры, а ў перыяд падзелу Польшчы піярскія школы былі апораю польскасці ва ўскраінных рэгіёнах тагачаснай Рэчы Паспалітай. Зрэшты, гэта і было прычынаю заняпаду піярскай дзейнасці пасля 1830 г., як пісаў пра гэта французскі гісторык Даніэль Бавуá.

Праўда, піярскія школы не заўсёды адпавядалі крытэрыям універсітэта, аднак намагаліся дастасавацца да іх у найвышэйшай ступені. У любым выпадку, пасля страты Полацка, піяры трапілі ў групу ордэнаў, якія Міхаіл Мураўёў — магілёўскі губернатар, хацеў знішчыць у першую чаргу (канец 1830 г.). Насамрэч, ужо 2 снежня 1830 г. ён высылае ў міністэрства дакумент аб «шкоднасці каталіцкага фанатызму», што і было выкарыстана ў якасці апраўдання рэпрэсій у 1832 г. Для таго, каб прадухіліць «сапсаванне рускага народа», ён прапанаваў пазбавіць каталіцкае духавенства ад уплыву на беларускія школы і заснаваць расійскія школы. Больш за тое, патрабаваў забараніць каталіцкім святарам выконваць абавязкі прыватных настаўнікаў. Вось такой цаною заплацілі піяры за сваю доўгую традыцыю службы для развіцця польскага грамадзянскага духу[63].

Піяры стараліся дастасоўвацца да ўсіх зменаў, якія адбываліся ў асвеце, і гэтым адрозніваліся ад іншых манаскіх школаў і значна пераўзыходзілі іх сваім узроўнем. На беларускіх землях піярскія школы ў XVIII і пачатку XIX ст. належалі да найлепшых — і сярод выкладчыкаў, і сярод выхаванцаў піярскіх школаў былі выбітныя асобы. Дзейнасць піяраў ва ўскраінных рэгіёнах Рэчы Паспалітай чакае сумленнага і шырокага даследавання. Літоўская правінцыя ўзгадавала ў сваіх шэрагах шмат выбітных піяраў, такіх як Казімір Нарбут, Станіслаў Баніфацы Юндзіл, Аляксей Кацюжынскі, Тадэвуш Лянг, Бэрнард Сíруць, Фердынанд Серафіновіч, Рáфал Чарвякоўскі, Анёл Доўгірд і шмат іншых. Піяры выхавалі некалькі пакаленняў выдатных вучняў, сярод якіх варта згадаць Тадэвуша Касцюшку, Ігната Дамейку, Цыпрыяна Гадэбскага, Алаіза Фялінскага, Лукаша Галамбёўскага, Гераніма Кайсевіча.

*Пераклад з польскай мовы*
*а. Аляксандра Махнача SP.*

1 F. Giordano, *Święty Józef Kalasancjusz twórca szkoły pijarskiej*, пераклад I. Stec-Sedecka — Kraków, 1985, s. 35; S. Biegański, *Szkoły pijarskie w Polsce* – Lwów, 1898, s. 3.

2 Сёння знаходзіцца на тэрыторыі Славакіі і называецца *Падалінец*.

3 L. Picanoyl, *Brevis conspectus historico-statisticus ordinis scholarum piarum* – Romae, 1932, s. 149.

4 **Тымінскі Торкват Францішак** *ад св. Антонія*, свецкае імя *Францішак* (1689–1763). Нарадзіўся 2 кастрычніка на сандаме́рскай зямлі. Родам са шляхецкай сям'і гербу «Налэнч», сын рáдамскага суддзі. У ордэн піяраў уступіў 27 жніўня 1705 г. Пасля сканчэння навіцыяту ў Любяшове, 28 жніўня 1707 г., склаў першыя манаскія абяцанні. Памёр у Баставічах, маёнтку Дамініка Манкевіча, пахаваны 24 чэрвеня ў Любяшове.

5 **Выкоўскі Себасцьян** *ад св. Яцка*, свецкае імя *Юзаф* (1714–1758). Нарадзіўся 26 сакавіка ў Віленскім ваяводстве. У ордэн піяраў уступіў 18 жніўня 1735 г. у Любяшове. Пасля двухгадовага навіцыяту склаў першыя манаскія абяцанні, святарскае пасвячэнне прыняў з рук біскупа Кабельскага. Памёр 15 мая ў Зэльве.

6 **Тжэшчакóўскі Кáспер (Гаспар)** *ад Езуса*, свецкае імя *Юзаф* (1704–1776). Нарадзіўся 1 студзеня на Палессі. У ордэн піяраў уступіў 8 верасня 1719 г. у Падалíнцы на Спíшы і там пасля двух гадоў навіцыяту 8 верасня 1721 г. склаў першыя манаскія шлюбы, святарскае пасвячэнне прыняў з рук біскупа Познаньскага Яна Тарлы. Памёр 25 красавіка ў Дамбровіцы.

7 **Страшэўскі Ян Хрызастóм** *ад св. Казіміра*, свецкае імя *Хрызастом* (1713–1773). Нарадзіўся 30 студзеня ў Троцкім ваяводстве. У ордэн піяраў уступіў 3 ліпеня 1729 г. у Панявежы. 3 ліпеня 1731 г. у Любяшове склаў першыя манаскія абяцанні, святарскае пасвячэнне прыняў з рук біскупа Зянковіча. Памёр 17 лютага ў Рогаве, пахаваны ў Панявежы.

8 **Выкоўскі Феліцыян** *ад св. Стэфана*, свецкае імя *Феліцыян* (1728– 1784). Нарадзіўся 9 чэрвеня на кракаўскай зямлі. Уступіў у ордэн піяраў у Любяшове 3 верасня 1743 г., першыя манаскія шлюбы склаў пасля навіцыяту 3 верасня 1745 г., а святарскае пасвячэнне прыняў у Рыме ў 1752 г. з рук Канстанцінопальскага Патрыярха (De Rubeisa). Падчас прабывання ў Рыме ў піярскім *Collegium Nazarenum* вывучаў тэалогію і матэматыку, стаў членам Аркадскай Акадэміі, выкладаў матэматыку ў даверaным венскім піярам *Collegium Nobilium Loewenburgicum*. Пасля вяртання ў родны край навучаў матэматыцы ў піярскіх школах, паміж іншымі — у Дубровіцы. Сярод сучаснікаў лічыўся выдатным матэматыкам і астраномам, якога называлі *Copernicus redivivus*. У 1766–1772 гг. быў літоўскім правінцыялам, а потым настаяцелем віленскага канвікта. Прыхільнік КНА, у гонар якой апублікаваў «Wiersz złożony MDCCLXXIII» («Паэма, складзеная ў 1773»). У 1774–1777 гг. супрацоўнічаў з час. «Zabawami Przyjemnymi i Pożytecznymi» («Прыемныя і карысныя забавы»), публікуючы на яго старонках некалькі сваіх твораў. У 1782 г. кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ўзнагародзіў яго залатым медалём за пераклад з французскай мовы англійскага тэксту пісьменніка С.Д. Джэнінгса «Widok rzeczywistości chrześcijańskiej wziętej w sobie samej» («Выгляд хрысціянскай рэальнасці, узяты ў сабе самой»). Памёр 18 кастрычніка ў Вайцяховіцах, у Сандамерскім ваяводстве.

9 **Кýшаль Юзаф** *ад св. Міхала*, свецкае імя *Юзаф* (1735–1782). Нарадзіўся 25 ліпеня ў Віленскім ваяводстве. У ордэн піяраў уступіў у Лужках 26 ліпеня 1750 г., першыя манаскія абяцанні склаў у 1752 г.  у Любяшове, святарскае пасвячэнне прыняў у 1759 г. з рук біскупа Гораіна. Памёр 30 кастрычніка ва Упіце, прабываючы ў сям'і Сташэўскіх.

10 **Францкевіч Міхал** *ад св. Юзафа*, свецкае імя *Міхал* (1730–1780). Нарадзіўся 29 верасня ў Віленскім ваяводстве. У ордэн піяраў уступіў 9 ліпеня 1747 г. у Вільні. Пасля сканчэння двухгадовага навіцыяту ў 1749 г. склаў першыя манаскія абяцанні ў Любяшове. Памёр у Шчучыне 27 кастрычніка.

11 **Ярманскі Банавентура** (Юрманскі, Фурманскі) *ад св. Францішка,* свецкае імя *Францішак* (1725–1784). Нарадзіўся 14 кастрычніка ў Брэст-Літоўскім ваяводстве. У навіцыят ордэну піяраў уступіў 11.02.1744 г. у Любяшове і там склаў першыя манаскія абяцанні 13.02.1746 г. Навучаў у піярскіх школах, на працягу 12-ці гадоў выконваў абавязкі прыватнага настаўніка ў Радзівілаў. Потым быў настаяцелем канвікта ў Вільні, падчас барацьбы езуітаў супраць піяраў падняў узровень канвікта і значна павялічыў бібліятэку. У 1778–1781 гг. быў правінцыялам літоўскіх піяраў, з 1781 г. і ажно да смерці быў рэктарам у Шчучыне-Літоўскім. Цікавіўся гісторыяй і геаграфіяй, апублікаваў *«Opuscula in iuvenum Radzivillorum et scholasticae iuventutis usum»*; дзякуючы яго намаганням выйшаў зборнік крыніцаў пад назвай *«Decreta capitolorum generaliom ordinis… Scholarum Piarum In Capitulo generali anno 1742 recognita posterioribus capitulis generalibus usque ad novissimum In Anno 1772 habitum iussu et mandato R.P. Bonaveturarae Jarmański a S. Francisco in Lithuana Provincia Praepositi Provincialis, in unnum Volumen collecta A. D. 1780 Vilniae»*. Памёр 5 красавіка 1784 г. у Шчучыне-Літоўскім.

12 **Тукáла Мацей** *ад св. Міхала*, свецкае імя *Міхал* (1727–1807). Нарадзіўся 29 жніўня ў Віленскім ваяводстве. У ордэн піяраў уступіў у Любяшове 28 жніўня 1741 г. Настаўнік у піярскіх школах – выкладчык красамоўства (рыторыкі). У 1778 г. удзельнічаў у Рыме ў генеральным капітуле, дзе быў выбраны генеральным асістэнтам. У 1781–1782 гг. быў літоўскім правінцыялам. Быў таксама прыватным настаўнікам у Радзівілаў. Перакладчык рэлігійных працаў з італьянскай і французскай моваў: «Пра стараннае набажэнства хрысціянаў» і г.д., Вільня, 1787 («O porządnem nabożeństwie Chrześcijan» etc., Wilno, 1787); «Кароткі зборнік пра жыццё св. Юзафа Каласанса», Вільня, 1807 («Krótki zbiór życia św. Józefa Kalasantego», Wilno, 1807), «Пачаткі здаровай філасофіі згодна з пачаткамі рэлігіі», Вільня, 1789 («Początki zdrowej filozofii zgodzone z początkami religii», Wilno, 1789). Апублікаваў двухтомную працу пад назвай «Хатняя аптэчка ў асноўным са зборам простых лекаў», Вільня, 1789 («Apteczka domowa zawierająca zbiór leków po większej części prostych», Wilno, 1789). Памёр 19 студзеня 1807 г. у Любяшове.

13 **Лянг Тадэвуш** *ад Беззаганнага Зачацця НПМ*, свецкае імя *Тадэвуш* (1741–1796). Нарадзіўся 7 ліпеня ў Віленскім ваяводстве. У ордэн піяраў уступіў 18 жніўня 1756 г. у Любяшове, дзе пасля сканчэння навіцыяту 22 жніўня 1758 г. склаў першыя манаскія абяцанні. Памылкова можа блытацца з іншым піярам — Лянгам Тадэвушам *ад св. Антонія*, які жыў у 1730–1765 гг.. Святарскае пасвячэнне прыняў у 1765 г. Навучаў у піярскіх школах, у 1781–1782 гг. быў рэктарам Віленскага калегіума. У 1782–1784 гг. быў рэктарам у Шчучыне-Літоўскім. Выконваў таксама важныя функцыі ў ордэне, між іншым быў літоўскім правінцыялам у 1782–1793 гг. Памёр 19 красавіка ў Шчучыне-Літоўскім.

14 **Віславýх Юзаф** *ад св. Зянона*, свецкае імя *Адам* (1734–1800). Нарадзіўся 24 студзеня ў Брэсце-Літоўскім ваяводстве. У ордэн піяраў уступіў у Любяшове 10 ліпеня 1749 г. 10 ліпеня 1751 г. пасля двухгадовага навіцыяту склаў першыя манаскія абяцанні. Выконваў шмат адміністрацыйных пасадаў у ордэне, у 1782–1787 гг. быў членам калегіума ў Любяшове. З 1787 г. пасля прызначэння асістэнтам правінцыяльным знаходзіўся ў Вільні. У 1793–1796 гг. кіраваў Літоўскай правінцыяй. Памёр 23 студзеня ў Шчучыне-Літоўскім.

15 **Якуцэвіч Канстанты** *ад св. Юзафа*, свецкае імя *Якуб* (1735–1812). Нарадзіўся 25 ліпеня ў Мінскім ваяводстве. У ордэн піяраў уступіў 6 жніўня 1750 г. у Любяшове, дзе 27 жніўня 1752 г. склаў першыя манаскія абяцанні, а 8 снежня 1759 г. прыняў прэзбітэрскае пасвячэнне. Памёр 5 верасня ў Любяшове.

16 **Астроўскі Юзаф** *ад св. Яна Непамуцкага*, свецкае імя *Вінцэнт Ферэр* (1760–1825). Нарадзіўся 26 лютага ў Віцебскім ваяводстве. У ордэн піяраў уступіў 1 кастрычніка 1778 г. у Любяшове, дзе пасля духгадовага навіцыяту 20 жніўня 1780 г. склаў першыя манаскія абяцанні. Прэзбітэрскае пасвячэнне прыняў у 1783 г. Памёр 28 мая ў Шчучыне.

17 **Сяклюцкі Ісідар** *ад св. Андрэя*, свецкае імя *Юзаф* (1762–1829). Нарадзіўся 4 красавіка ў Львоўскай дыяцэзіі. У ордэн піяраў уступіў 6 снежня 1780 г. у Любяшове. 23 лютага 1783 г. склаў першыя манаскія абяцанні. Святарскае пасвячэнне прыняў з рук біскупа Тамаша Зянковіча 24 сакавіка 1787 г. Памёр 14 студзеня ў Васілішках.

18 **Хлябоўскі Павел** *ад св. Яцка*, свецкае імя *Павел* (1740–1821). Нарадзіўся 28 сакавіка ў Мінскім ваяводстве. У ордэн уступіў 22 жніўня 1754 г. Пасля двухгадовага навіцыяту ў Любяшове 27 жніўня 1756 г. склаў першыя манаскія абяцанні. Прэзбітэрскае пасвячэнне прыняў у 1763 г. з рук біскупа Тамаша Зянковіча. Памёр 10 верасня ў Дамбровіцы.

19 **Глагоўскі Аляксандр** *ад св. Алаізія* (1760–1832). Нарадзіўся 23 красавіка на перамышльскай зямлі. У ордэн піяраў уступіў 1 кастрычніка 1778 г. у Любяшове. Пасля навіцыяту 25 сакавіка 1780 г. склаў першыя манаскія абяцанні. Святарскае пасвячэнне прыняў праз чатыры гады. Памёр 7 студзеня ў Вільні.

20 **Купсць Мацей** *ад св. Вінцэнта* (1769–1826). Нарадзіўся 24 лютага ў Вількамірскім павеце. У ордэн піяраў уступіў 21 верасня 1787 г. у Любяшове, дзе 21 верасня 1788 г. склаў першыя манаскія абяцанні. У 1797 г. прыняў святарскае пасвячэнне з рук біскупа Юзафа Лапацінскага. Памёр 13 красавіка ў Шчучыне.

21 **Крукоўскі Юзаф** *ад Маці Божай*, свецкае імя *Пётр* (1775–1862). Нарадзіўся 24 мая на Віцебшчыне. У ордэн піяраў уступіў 24 ліпеня 1797 г. у Дуброўне. У Любяшове склаў першыя манаскія абяцанні 8 верасня 1798 г.

22 **Вяльбут Сільвестр** *ад св. Яна Хрысціцеля*, свецкае імя *Сільвестр* (1769–1847). Нарадзіўся 1 студзеня ў Жамойці. У ордэн піяраў уступіў 3 верасня 1786 г.. Пасля навіцыяту 8 верасня 1788 г. склаў першыя манаскія абяцанні. У 1795 г. прыняў прэзбітэрскае пасвячэнне з рук біскупа Валянціна Валчáцкага. Памёр у Вількаміры.

23 **Румяноўскі Яцэк (Гіяцынт)** *ад святога імя Марыя*, свецкае імя *Якуб*. Нарадзіўся 26 ліпеня 1783 г. у Плоцкай дыяцэзіі. У ордэн піяраў уступіў 25 мая 1802 г. у Любяшове. 31 мая 1803 г. склаў першыя манаскія абяцанні. У 1807 г. прыняў святарскае пасвячэнне з рук біскупа Валянціна Валчацкага. Шмат гадоў настаўнічаў у піярскіх школах, быў прэфектам і рэктарам у Драгічыне. Аўтар лацінскай граматыкі для піярскіх школаў.

24 **Дэмбінскі Яўхім** *ад св. Андрэя*, свецкае імя *Ігнат* (1800–1869). Нарадзіўся ў Відуклі каля Расіéнаў, навучаўся ў піяраў у Расіéнах. У 1817 г. пасля заканчэння школы ўступіў у ордэн піяраў. Перакладчык філасофіі жыцця Шлéгеля («Filozofia życia Schlegla», Wilno, 1840), а таксама іншых твораў на філасофска-рэлігійную тэму. Пасля пазбаўлення функцыі правінцыяла 24 мая 1843 г. стаў пробашчам у Дукштах, дзе прычыніўся да пабудовы новага касцёла. Падтрымаў студзеньскае паўстанне, за што быў арыштаваны і асуджаны на ссылку. Пасля памілавання быў пад наглядам у віленскай парафіі св. Пятра і Паўла, дзе правёў апошнія гады свайго жыцця. Памёр ад рака страўніка 29 мая 1869 г.

25 *Zakony męskie w Polsce w 1772 r.*, рэд. L. Bieńkowski, J. Kłoczowski, Z. Sułowski. — Lublin, 1772, таб. 56 і 57.

26 *Kronika kollegium Lubieszowskiego x.x.Pijarów,* апрацаваў Antoni Moszyński. — Kraków, 1876, s. 10.

27 *Kronika Kollegium Lubieszowskiego xx.Pijarow*, апрацаваў A. Moszyński. — Kraków, 1876, s. 43.

28 *Ibidem.*

29 S. Biegański, jako rok przybycia pijarów do Szczuczyna Litewskiego podaje rok 1725, S. Biegański, *Szkoły pijarskie w Polsce* «Muzeum», 1897, T. XIII, s. 753.

30 K. Niesiecki, *Herbarz Polski*, T. 8, Lipsk, 1841, s. 303; пар. J Kurkowski, *Nauczyciele i uczniowie szkoły pijarskiej w Szczuczynie*, Kwartalnik Historii Nauki i Techniki, 1995, Nr 1, s. 84.

31 J. Kurkowski, *Nauczyciele i uczniowie szkoły pijarskiej w Szczuczynie…,* s. 84.

32 *Ibid.,* s. 85.

33 Łukaszewicz J., *Historia szkół w Koronie i w Wielkim Księstwie Litewskim od najdawniejszych czasów aż do 1794 r.*, T. IV. — Poznań, 1851, s. 241.

34 *Podręczna Encyklopedia Kościelna*, T. XXXI–XXXII. — Kraków, 1913, s. 158.

35 J. Taraszkiewicz.

36 W. Szulc, *Spory Akademii Wileńskiej z pijarami o wyłączne prawo na szkoły 1723–1753*, Ateneum Wileńskie, 1939, z. 1, s. 133; J. Kurkowski, *Pijarzy w Werenowie i Lidzie (1735–1845)*, Analecta. Studia i Materiały z Dziejów Nauki, 1997, Nr 1, s. 54.

37 J. Kurkowski, *Pijarzy w Werenowie i Lidzie …*, s. 46.

38 *Podręczna Encyklopedia Kościelna…*, s. 163.

39 J. Kurkowski, *Pijarzy w Werenowie i Lidzie …*, s. 46, 48.

40 *Ibidem*.

41 *Podręczna Encyklopedia Kościelna…*, s. 163.

42 У розных даследаваннях розныя даты: 1739, 1740, 1741. Гл.: L. Picanoyl, *op. cit.*, s. 277; L. Zasztowt, *Kresy 1832–1864. Szkolnictwo na ziemiach litewskich i ruskich dawnej Rzeczypospolitej.* – Warszawa, 1997, s. 397; J. Taraszkiewicz, *Pierwsze stulecie zakonu pijarów na ziemiach Rzeczypospolitej Obojga Narodów (1642–1740).* — Gdańsk, 2015, s. 91.

43 W. Tołoczko, *Wiadomość historyczna o kościele Zelwiańskim*, Dwutygodnik Dyecezalny, 1913, R. IV, Nr 23, s. 323; *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, red. B. Chlebowski, T. XIV. — Warszawa, 1895, s. 567.

44 L. Zasztowt, *op. cit.*, s. 397.

45 На шчасце, у Архіве Польскай правінцыі ордэну піяраў (далей APPZP) зберагліся дзве хронікі лідскага калегіума: першая напісана апошнім рэктарам перад касацыяй, другая апісвае міжваенны перыяд. Гл.: Col. Lid., sygn. 2. З дзённікаў кс. Язафата Вайшвілы (копія-арыгінал у Нацыянальным інстытуце імя Асалінскіх) у тэксце далей як *Wojszwiłło*… oraz Col. Lid., sygn. 5, Kronika Kolegium Ks. Ks. Pijarów w Lidzie od r. 1926 (do 1939) далей як *Kronika*… .

46 APPZP, Col. Lid., *Wojszwiłło…*, s. 81.

47 M. Krukowski, *Pijarzy w Werenowie i Lidzie…*, s. 54; Archiwum Pijarskie, 2003, Nr 43, s. 19.

48 APPZP, Col. Lid., *Wojszwiłło*, s. 85.

49 *Ibid.*, c. 134. L. Zasztowt, *Kresy…*, s. 377.

50 APPZP, Col. Lid., *Wojszwiłło…*, s. 148–166.

51 O.Hedemann, *Szkoły walerianowskie X.X. pijarów łużewskich.* — Wilno, 1937, s. 1.

52 *Ibid.*, s. 1–2.

53 *Ibid.*, s. 139.

54 Picanyl, s. 276.

55 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Ф. 1781, воп. 26, спр. 1401, к. 1; M. Gozdawa, *Wspomnienie o Pijarach witebskich*, Kwartalnik Litewski 1910, P. 1, T. 1, s. 89–110.

56 I. Kadulska, *Akademia Połocka. Ośrodek kultury na Kresach 1812–1820*, Gdańsk 20004, s. 55 і іншыя; L. Zasztowt, *op. cit.*, s. 156.

57 Wojtkowski A., *Z dziejów szkolnictwa katolickiego dla świeckich* [w:] *Księga tysiąclecia katolicyzmu w Polsce*, cz. III. — Lublin, 1969; s. 50; S. Kot, *Historia wychowania*, T. 1. — Lwów, 1934, s. 384–386; J. Nowak-Dłużewski, *Stanisław Konarski…*, s. 60–73.

58 Ł. Kurdybacha, *Reforma litewskich szkół pijarskich w 1762 r.*, [w:] tenże, *Pisma wybrane*. Выбар зроблены J. Miąso, T. III. — Warszawa, 1976, s. 125–146.

59 S. Biegański, dz. cyt., s. 15–16.

60 K. Mrozowska, *Funkcjonowanie systemu szkolnego Komisji Edukacji Narodowej na terenie Korony w latach 1783–1793.* — Wrocław–Warszawa–Kraków–Gdańsk, 1985, s. 114.

61 J. Kucharzewski, *Epoka paskiewiczowska. Losy oświaty.* — Warszawa–Kraków, 1914, s. 119.

62 *Katalog Polskiej Prowincji Zakonu Kleryków Regularnych Matki Bożej Szkół Pobożnych (ojców pijarów).* — Kraków, 1982, s. 12.

63 D. Beauvois, *Szkolnictwo polskie na ziemiach litewsko-ruskich 1803-1832, T. II., Szkoły podstawowe i średnie*. — Lublin, 1991, s. 177.

# Духоўная лірыка Адама Міцкевіча

## Да 220-годдзя Паэта



Змешчаныя ў гэтай публікацыі пераклады вершаў Адама Міцкевіча —узоры духоўнай лірыкі Паэта, якая доўгі час была па-за ўвагаю беларускіх даследчыкаў і перакладчыкаў. Між тым гэта вельмі важны складнік творчай спадчыны нашага вялікага Паэта, які дапамагае глыбей асягнуць непаўторнасць і ўнікальнасць яго творчага генія. Трэба адзначыць, што і цалкам «свецкая» творчасць А. Міцкевіча, скіраваная да праблемаў надзённага чалавечага быцця, прысвечаная ці то філамацкаму братэрству, ці то патрыятычнаму служэнню Айчыне, ці то каханню, ці то змаганню за свабоду, так ці іначай прасякнутая глыбокай рэлігійнай чуйнасцю Паэта, яго адкрытасцю на хрысціянскія праўды веры, якія ляжаць у аснове яго выхавання і светаўспрымання. Адам Міцкевіч пры дапамозе адмысловых вобразаў у многіх найвядомейшых сваіх творах сакралізаваў матывы сяброўства («Песня філарэтаў», «Ода да маладосці»), кахання (санет «Да Лауры», балады «Рамантычнасць», «Люблю я»), вандроўніцтва (санет «Пілігрым»), служэння Айчыне і змагання за яе свабоду (паэмы «Дзяды», «Пан Тадэвуш»). А яго «Кнігі народа польскага і польскага пілігрымства» (1832), напісаныя ў Дрэздэне неўзабаве пасля паўстання 1830–1831 гг., наогул вытрыманыя ў стылі евангельскіх прыпавесцяў аб вызбаўленні з няволі народа «абранага», пад якім разумеюцца ўсе народы (палякі, літвіны, русіны) былой Рэчы Паспалітай, што ў 1795 г. страціла незалежнасць пасля трэцяга падзелу краіны паміж Расійскай, Аўстрыйскай і Прускай імперыямі. «Кнігі…» завяршаюцца «Малітвай Пілігрыма» і «Пілігрымскай Літаніяй» у інтэнцыі вызвалення.

Варта заўважыць, што росквіт духоўнай лірыкі А. Міцкевіча адбываецца акурат у 1830-я гг., у першае дзесяцігоддзе яго знаходжання ў заходнееўрапейскіх краінах у статусе палітычнага эмігранта (жыццё ў Рыме, Дрэздэне, Парыжы). Аднак ужо ў ранні, філамацкі, або беларуска-літоўскі перыяд, ён пачаў звяртацца да духоўных сюжэтаў і вобразаў: так, адметным яго вершам з тых часоў стаў «Гімн на дзень Звеставання Найсвяцейшай Панне Марыі» (1820), напісаны адначасова з «Одаю да маладосці», а той пафас адраджэння духу, якім «Ода…» прасякнута, непарыўна звязаны з гэтым *багародзічным* вершам-гімнам (у нашым перакладзе «Гімн на дзень Звеставання Найсвяцейшай Панне Марыі» друкаваўся ў часопісе «Наша вера», 1998, № 3).

Змешчаныя ў гэтай публікацыі пераклады вершаў Адама Міцкевіча зроблены паводле выдання: Mickiewicz, Adam. Dzieła wszystkie. Tom I. Część trzecia: Wiersze 1829–1855 / Opracował Czesław Zgorzelski. – Wrocław-Warszawa-Kraków-Gdańsk-Łódź: Zakład narodowy im. Ossolińskich. – 1981.

*Ірына Багдановіч*

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Ліда на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1985), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004), «Прыватныя рымляне» (2006), «Душа лістападу» (2012), «Залатая Горка» (2016), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001), укладальнік зборнікаў «Казімір Сваяк. Выбраныя творы»(2010), «Вінцук Адважны. Выбраныя творы» (2011), «Аляксандр Надсан. Выбраныя творы» (2014) і інш. Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.

# Адам Міцкевіч

## ДА М. Л.
***У дзень прыняцця святой Камуніі****

Сёння Хрыстус накарміў цябе Целам,
З зайздрасцю шчырай Анёлы глядзелі;
Ты ж апусціла зрок, Богам гарэлі
Вочы твае, мяне ўражвалі й грэлі
Святасць, пакора! Калі сонна скроні
Ў вечны спачын складзе грэшнік нячулы,
Той, што прад Агнцам укленчыла сёння,
Вусны зара малітоўныя стуліць.
Тут жа зляціць і Анёл твой Ахоўнік,
Чысты і ціхі, як ветрыку подых:
Ён адхіне ўсе заслоны нябыту,
Клопату поўны, вясёлы, адкрыты,
Мякка ў абдымках сваіх цябе стуліць,
Нібы сваё немаўлятка матуля.
А як прамень несмяротнае ласкі
Надта яскрава з вачэй яго рвецца,
Сонная ж надта шчаслiва смяецца,
Згасіць лагодна Анёл свае бляскі,
Стуліць над соннай заслоны чування
І адляціць, яе ўзяўшы ўздыханні.
Новым аблiччам, перш чым адлятаці
Яе абдорыць; так нянька дзіцяці
Новую сукню кладзе пад галоўку —
Ад Бога й бліжніх любові абноўку.
Ўсіх дзён раскошу ў нішто б я паставіў,
Каб так, як ты, хоць адну ноч прамарыў.

## Вечаровая гутарка

З Табою гутарку вяду, Цар неба
І разам Госць у доме майго духу;
Калі ўсё ў цемру ноч зграбе вялебна,
Чутны адно згрызота альбо скруха,
З Табою гутару! А слоў не трэба:
Маю Ты думку кожную падслухаў;
Далей царуеш, служыш нам, укрыты,
Ты — Цар у небе, ў сэрцы — на крыжы Ты.

Імкнуцца маіх добрых думак промні
Ўсе да Цябе — да сонца, да крыніцы,
Зноў да мяне плывуць у новай поўні,
Шлюць бляскі, ў іх каб мог зноў залаціцца.
Намер мой кожны добры Ты запомніў,
І плаціш з коптурам — не надзівіцца.
Як Ты на небе, на зямлі няхай так
Зіхціць у шчасці Твой слуга й дзіцятка.

Ты ж — Цар, о цуда! Ты ж — і мой падданы!
Злой думкай кожнай, быццам дзідай новай,
Твае нягойныя вярэджу раны,
Намер свой злы — каронаю цярновай
Табе кладу на скроні, разззлаваны,
Пакуль Цябе ў труну сваёю злобай
Не ўкіну я ў каменнасці суровай,
Ты церпіш, як слуга, падданы пану.
Як на крыжы Ты, на зямлі няхай так
Цярпіць у цернях Твой слуга й дзіцятка.

**II.**
Калі дзяліўся з бліжнім думкай хворай,
Сумненняў чарвяком, яе што точыць,
Злы ратавацца ўцёкамі быў скоры,
Заплакаў добры, ды адводзіў вочы.
Вялікі Лекар! Ты найлепей знаеш,
Што хворы я, ды мной не пагарджаеш!

Калі для бліжніх я з душы глыбіняў
Здабыў страшнейшы гук, чым енк цярпення,
Гук, што грыміць у пекле безупынна,
Гук — ціхі на зямлі — найзлейшага сумлення!
Суддзя суровы! Ты агонь раздзьмухаў
Сумленню злому, а мяне паслухаў.

**III.**
Для ўсіх я стаў узорам супакою,
Бурлівы дух прад вокам іх хаваю
І раўнадушнай думкай, як імглою,
Пярун душы ўнутры я прыкрываю;
І толькі ноччу — ціха — прад Табою
Выплакваю ўсе буры я слязою.

*[1830–1832]*

## Розум і вера

Калі пыхлівы лоб, разумны звонку,
Схіліў прад Панам, як прад сонцам хмара,
Пан яго ў неба ўзнёс, нібы вясёлку,
І надзяліў праменняў ясным дарам.

Як сведка веры, бляск ён захавае
Калі паразы зрынуцца патокам,
А мой народ, застрашаны патопам,
Успомніць лучнасць з Богам на Сінаі.

* Верш быў напісаны 9 студзеня 1830 г. у Рыме пасля наведвання езуіцкага касцёла. Ён прысвечаны Марцаліне Лямпіцкай — кузынцы Генрыеты Евы Анквіч, з якой Адам Міцкевіч сяброваў. У той дзень Паэт бачыў сёстраў у споведзі, а Марцаліна да таго ж адзначала свае імяніны. Абедзве сёстры апісаныя і ў III частцы паэмы «Дзяды» (Дрэздэн, 1832).

Мой лоб у дух пакоры апрануўся,
Хоць ён блішчыць у небе самавіта.
Я, Пане, бляскам не сваім свячуся,
Мой бляск — слабы Тваіх агнёў адбітак.

Агледзеў я нізіны ўсе людскія —
Пануюць там ідэі, фарбы, гукі
Вялікія і цьмяныя для думкі,
Прад вокам веры ясныя й малыя.

Убачыў вас, пыхлівы род вучоных,
Калі вас бура, нібы смецце, перыць,
Як слімакі ў дамку, ў сабе замкнёны,
Жадаеце, малыя, ўвесь свет змерыць.

Адны з вас кажуць — кон, сляпая воля
Пануе ў свеце, быццам поўня ў моры.
Другія тнуць — не, выпадак, сваволя
Ў людзях пануе, як вятры ў прасторы.

Ёсць Пан, абняў Ён акіяну хвалі
І загадаў, каб на зямлю зрынаўся,
Але ўзвёў скалы, каб між іх паўсталі,
І каб аб іх ён вечна разбіваўся.

Дарэмна хоча ўстаць з зямной ён клеці,
Заўжды рухомы, не ўладар ён руху,
Ўзляцеў вышэй — глыбей у прорву бухнуў,
Узносіцца, ды ў неба не ўзнясецца.

Прамень святла ж, які кідае сонца,
Гуляе з хвалямі ў марскіх глыбінях,
Не тоне, толькі дзеліцца ў вясёлцы,
Каб зноў вярнуцца да нябёсаў сініх.

Малы ты, розуме людскі, прад Панам,
Ты кропелька ў Яго руцэ і планах;
Цябе ж бязмерным лічаць акіянам,
Каб на тваіх да неба ўзняцца хвалях.

Здаецца, ты сам небакрай аблапіў,
Дарэмна хуткі карабель вяслуе,
Зямлю аплыў, а ў неба ён не трапіў:
Ніколі хваля небам не спануе.

Блішчыш і плюшчыш, чэрнішся, ўзлятаеш,
Рвешся ўгару ці нетры разрываеш,
Цямніш паветра хмарай непагоды,
Ці градам б’еш — ты на зямлі заўсёды!

Прамень жа веры, што ў нябёсах ззяе,
Запальвае твае грамы паважна,
Твае люстэркі ззяннем асвятляе;
Ах! Бо без веры хто б цябе заўважыў!

*[1830–1832]*

## Кніжнікі

Спяць кніжнікі ўсе ў велічным экстазе
І ўскокваюць, пачуўшы з перапуду,
Што Бог прыйшоў у бачнай іпастасі
І вечнасць аб’яўляе ўсюды люду.
«Забіць яго, — загад, — спакой нам рушыць,
Але не ўдзень, — бо то натоўп раз’юшыць».

І кніжнікі пры лямпе ўноч звяралі
З пісаннямі свой розум атлусцелы,
Халодны, цвёрды, быццам меч са сталі,
І вучняў узнялі сляпых з пасцеляў,
Злавіць каб Бога — спераду йшла здрада
Дарогай простай, але згубнай, праўда.

«Ці гэта Ты?» — крычаць Марыі Сыну. —
«Я», — адказаў, і кніжнікі збялелі:
«Дык Ты ёсць Бог?» — «Я ёсць». — Уся дружына
Ўцякла ў трывозе, кніжнікі ж палеглі.
Ды бачаць — страшыць Бог, а не карае,
Ўстаюць, і злосць мацней у іх палае.

І здзёрлі з Бога вопратку на здзекі,
З насмешкамі ўсё цела Яго секлі,
Плявалі ў твар, і кожны тым хваліўся,
А Бог любіў іх і за іх маліўся!
Калі ж яны ў труну Яго ўвагналі,
Ён выйшаў з душаў іх, што цемрай сталі.

Так споўніўся на Бога пахаванні
Іх пыхі келіх. — Свет дрыжаў ад груку…
А Бог жывы! Пакіньце хваляванні!
Ён мёртвы толькі ў кніжнікаў тых духу.

*1832*

## [За што, — пытаеш, — Бог мне славы крышку скінуў…]

За што, — пытаеш, — Бог мне славы крышку скінуў;
За думкі і жаданні, а не справы чыну.
Жаданні й думкі ёсць паэзіяй у свеце,
Цвітуць і ападуць, як кветка ў адным лецe.
А ўчынкі зернем ёсць, у глыб зямлі зарытым,
Што на наступны год узыдзе самавіта.
Час прыйдзе — пагніюць бліскучыя імёны,
Але пабачаць свет зярнятаў ціхіх плёны.
Мінае гук, і мы мінем у бляску гэтым.
Шчаслівы ціхія, бо ім валодаць светам.
Спазнайце праўду, хто Хрыста з вас чуе, людзі:
Той уладар зямлі, сядзець хто ў цішы будзе.

*[1835–1836]*

*Пераклад з польскай мовы*
*Ірыны Багдановіч.*

# «Яна любоў дарыла нам штодня...» —



так напісаў у сваім вершы-прысвячэнні Яўгеніі Янішчыц народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.

20 лістапада споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння гэтай выдатнай беларускай паэткі. Па трагічным збегу абставінаў на лістапад прыпадае таксама 30-я гадавіна заўчаснага Жэнінага адыходу ў вечнасць. Усяго 40 гадоў зямнога веку адмераў ёй лёс, але пражыла яна іх ярка, натхнёна, таленавіта, ахвярна складаючы на алтар паэзіі свой боль і радасць, шчыруючы, *«як сялянка над раллёй чарнавіка»*. І гэта яе сялянская працавітасць, спалучаная з талентам, якім яе шчодра надзяліў Бог, дала ёй магчымасць за такі кароткі жыццёвы шлях «выканаць заданне Бога» — у поўнай меры рэалізаваць свой самабытны талент, стаўшы адною з найлепшых і найбольш адметных айчынных паэтак…

Мінае час, але застаецца ў нашай удзячнай памяці светлы Жэнін вобраз. Жыве яе шчымлівае, глыбінна народнае слова, жывуць яе кнігі і шчодрая любоў яе сэрца, якую яна не стамлялася дарыць роднаму Краю і людзям, і якая ўжо ніколі не знікне.

Прапануем чытачам падборку вершаў паэткі.

## Яўгенія Янішчыц

### Непрыручаная птушка

Мне па душы глухія пушчы,
Лістоты замяць на дварэ.
Я непрыручанаю птушкай
Жыву між сполахаў і дрэў.
Каторы дзень настрой губляю
І зноў па-новаму раблю.
Бягу, гукаю, выглядаю,
Шукаю, думаю, не сплю.
О, людзі! — Вечныя пытанні,
Вытокі мудрасці і зла.
Нясу ў сваё святое ранне
Любоў і гнеў на паўкрыла.
Мяне ў палёце не скарылі.
А будзе што не так — малю:
Скруціце стомленае крылле
І кіньце ў родную раллю.

* * *

Ты пакліч мяне. Пазаві.
Там заблудзімся ў хмельных травах.
Пачынаецца ўсё з любві,
Нават самая простая ява.
І тады душой не крыві
На дарозе жыцця шырокай.
Пачынаецца ўсё з любві —
Першы поспех і першыя крокі.
Прыручаюцца салаўі,
І змяняюцца краявіды.
Пачынаецца ўсё з любві —
Нават ненавісць і агіда…
Ты пакліч мяне. Пазаві.
Сто дарог за маімі плячыма.
Пачынаецца ўсё з любві,
А інакш і жыць немагчыма.

* * *

Яшчэ зазімак і не сніўся,
Хоць ліст азолены спадаў.
І па зажураных садах
Барвова вецер мітусіўся.

Чакала ў цішыні дарога
У край, дзе ранак залачаў…
Там фарбы жоўтыя Ван Гога
Палалі ў сонца на плячах.

* * *

Пагас, патух мой ясны дзень,
І росы выпалі на травы.
І пахне восенню гаркавай…
Прыйдзі, адзіная з надзей!

Прыйдзі з журбою і з віной,
Прыйдзі, як лепшы сон на Яна…
Пакуль гадоў маіх паляны
Цвітуць валошкай палявой.

Прыйдзі, падзелім напалам
Той ручаёк, які не высах,
Пакуль душа падобна высям,
А высі — светлым журавам…

* * *

Жывіце і любіце,
Свой беражыце дом.
… Як птушку у блакіце,
Мяне застане гром.

Была ў жыцці я весняй
І лёгкаю на ўзмах
Над соснамі — у лесе,
Над жытам — у палях.

Таму раскажуць сосны,
Жытоў паспелых звон
Пра лёс мой высакосны
І невыносны сон.

Зямля — мая калыска,
Табе адной відаць,
Што немагчыма нізка
Ні падаць, ні лятаць.

* * *

Баюся я нявыказаных слоў,
Яны — палын, яны — дурман і мята.
Прыходзіць позна лепшая любоў,
Як за пакуты горкія адплата.

Над цёмначчу раскрыленых дзвярэй,
У цішыні сталічнага квартала —
А мы маглі б сустрэцца і раней…
Ты не аклікнуў. Я — не пагукала.

Дык не здзіўляйся шчаснай немаце,
Балючаму і дрогкаму пагляду.
Так зрэдку ўвосень яблыня цвіце
Наперакор слаце і лістападу.

* * *

Слоў не трэба. Варажба
Ўся
вачыма сказана.
Будзе вечная журба
Да мяне прывязана.

Загукаюся ў бары —
Заначую з зорамі.
Чарацінкай на вятры
Музыка азёрная.

Столькі роднасці вакол
З птушкамі, з рамонкамі!
І драўляны частакол
З гладышамі звонкімі.

І густыя туманы,
І бярозак мроіва;
І вясна, што без віны
Маё сэрца кроіла.

І каляны лёд Каляд
З кудасой лахматаю.
…І прымоўклы шчыры сад
Над сасновай хатаю.

**Натхненне**

Чабароваю палянай —
Цвету мройнае кіпенне.
Станаўлюся паслухмянай
У руках тваіх, натхненне.

Мною сходжана нямнога
Па лугах зямных і гонях.
Не растрачана дарога
На турысцкую пагоню.

І любіць мне да пылінкі
Дня узлётнага вяртанне,
На дзяшовыя абдымкі
Не разменена дыханне.

Не пагашана аскома
Па найгоркаму — мядовым.
…Дзякуй, радасць! Дзякуй, стома,
Што з’ядналі з родным словам.

**Велясніца**

З краю старажытнага
Хлынуў песні россып:
«Ой, чыё-то жыта,
Чые-та пакосы…»

Хмурыць чорны бровы
Вёска Велясніца:
«То ж з маёй любові
Пацякла крыніца».

Па калючай пожні,
Па жадобнай стрэчы
Выдаўся здарожаны
І трывожны вечар.

Позні і бяссонны
Дворык пахне мятай.
І не гасне сонца
Над палескай хатай.



# Эдзік Мазько — асоба еўрапейскага маштабу

Эдуард Мазько (1970–2011) — паэт, культуролаг, сацыёлаг, кандыдат гістарычных навук. Нарадзіўся ў вёсцы Махро Іванаўскага раёна на Берасцейшчыне. З 1987 г. жыў, вучыўся і працаваў у Гародні. Эдуард быў асобай еўрапейскага маштабу. У 2003 г. ён абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Уплыў беларускай хрысціянскай дэмакратыі на фарміраванне культурнай сітуацыі ў Заходняй Беларусі ў 20–30-я гады XX стагоддзя». Ён удзельнічаў у многіх навуковых праектах, канферэнцыях і семінарах у Літве, Польшчы, Латвіі, Украіне. З 2009 г. уваходзіў у склад адміністрацыі Інстытута Вялікага Княства Літоўскага (Літва — Польшча — Беларусь — Украіна). Быў адным з ініцыятараў і сузаснавальнікаў Міжнароднага кангрэса даследчыкаў Беларусі, які праводзіцца ў Коўна з 2011 года. З'яўляўся сябрам нефармальнага *Kluba Wschodniej Szkoły Letniej*, створанага пры Варшаўскім універсітэце для шырокага кола маладых навукоўцаў і грамадскіх дзеячаў з усёй Цэнтральнай Еўропы.

Вершы Эдуарда Мазько нараджаліся пад уплывам ментальнага і культурнага асяродку роднай Гародні, а сваімі ідэямі і тэмамі выходзілі далёка за яе геаграфічныя межы. Некаторыя вершы прысвечаныя Коўна, Вільні, Беластоку, Бельску, Варшаве, Кіеву.

Вершы Э. Мазько друкаваліся ў анталогіі беларускай паэзіі XX стагоддзя «Краса і сіла» (Мінск, 2003), у кнізе «Лябірынты прывіднага замку» (Беласток, 2000), часопісах «Калосьсе», «Крыніца», «Сьвіцязь», «Правінцыя», калектыўных зборніках «Кола», «Верш на свабоду», «Россып» і іншых выданнях.

Творчасць Э. Мазько вылучаецца тэматычна-ідэйнай шматвектарнасцю: яго цікавілі ці не ўсе сферы, у якіх праяўляе сябе чалавек. Не апошнюю ролю тут адыграла, відаць, пазалітаратурнае жыццё, у якім гарадзенскі паэт прафесійна займаўся гісторыяй, сацыялогіяй, культуралогіяй і культурнай антрапалогіяй. У цэнтры ўвагі Э. Мазько быў чалавек, яго імкненне да волі, да творчасці, да жыцця, да Бога. Паэта цікавіў чалавек, які кахае, верыць, марыць, змагаецца, але і ненавідзіць, здраджвае. Яго цікавіў кожны рух унутранага і знешняга шляху чалавека, шляху ад сябе і да сябе. І гэты шлях, гэтую няпростую дарогу чалавечай, а перадусім уласнай экзістэнцыі, Э. Мазько спрабаваў зафіксаваць, выкарыстоўваючы інструментарый куды больш складаны, чым мае на ўзбраенні навука — праз мову паэзіі.

Акрамя хрысціянскай сімволікі, якая з'яўляецца ключом да прачытання многіх вершаў Э. Мазько, паэт, які меў досвед культуролага, умела карыстаўся вобразамі антычнай спадчыны, што таксама вельмі арганічна ўплятаюцца ў сістэму беларускага культурнага коду і эмацыйна ўзмацняюць усе мастацка-эстэтычныя эфекты.

Творчасць Э. Мазько — мала даследаваны феномен у сучасным беларускім вербальным мастацтве. Яго паэзія абапіраецца на лепшыя традыцыі заходнееўрапейскага сюррэалізму і дэкадансу, а таксама на мастацка-эстэтычныя пошукі айчыннага прыгожага пісьменства пачатку XX ст..

Даволі поўна і паслядоўна светапогляд Э. Мазько адлюстраваны ў кнізе «Займеньнікі» (Гародня — Варшава, 2012), якая дае магчымасць наблізіцца да ўспрымання ўсёй творчасці паэта, раскінутай па розных беларускіх і замежных выданнях.

*Анатоль Брусевіч*

---

**Анатоль БРУСЕВІЧ** — паэт, літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў 1977 г. у Гродне. Скончыў філалагічны факультэт ГрДУ імя Янкі Купалы (1999), там жа — магістратуру (2000) і аспірантуру (2003) пры кафедры польскай філалогіі. Аўтар кніг паэзіі «Дуэль» (1992), «Падаю ў неба» (2006), «Апошні дзень» (2013), манаграфіі «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча» (2008). Жыве і працуе ў Гродне.

# Эдзік МАЗЬКО

## Хрысту

Ты вернешся ў тлум учадзелай зямлі,
як сонца з нябыту вяртаецца ўранні,
і цешыцца будуць у жыце палі,
і ў пыл расцярушацца чэзлыя здані.

Ты вернешся. Можа, паверацць Табе
зацятыя кніжнікі і фарысеі,
а імя Тваё на апошняй сцяне
рукою дрыжачай накрэсляць завеі.

* * *

Пане мой, Божа,
блаславёным будзь імя Тваё
і міласць Твая
няхай заўсёды
будзе з намі,
Тваімі дзецьмі.

Пане мой, Божа,
не пакідай мяне
ні ў самоце штодзённай,
ні ў атачэнні ворагаў маіх,
не пакідай мяне і ў час,
калі я Цябе пакіну,
забудуся
альбо
паўстану ў думках сваіх
ці ў словах
супраць волі Тваёй, мой Пане.
Не пакінь мяне
і не адвярні твар Твой
ад мяне,
калі ўчынкам
абражу любоў Тваю.
Пане
мой,
добры
Пане.
Амэн.

*27.10.2003 г.*

* * *

Аточаны соснамі,
узгорак ляжыць крыжом.
Прымі мяне, Госпадзі,
у свой блаславёны дом.

Нагамі я босымі
адмераў жыццёвы шлях,
сталяў смагу роспаччу,
прэч гонячы дзікі страх.

Бясстрашныя, моцныя
зыходзілі назаўжды,
і на белай просціне
губляліся іх сляды.

Я — і слабы, і грэшны —
душу сваю падзяліў
адну палову — вершам,
другую — словам Тваім.

Гадзінаю позняю
ніяк не забыцца сном.
Прымі мяне, Госпадзі,
у свой блаславёны дом.

* * *

У доме Пана майго
чакаюць усіх падарожных,
струджаных і знясіленых,
стомленых доўгім блуканнем.
І апошні там — першы,
і няма між прыйшоўшых
ні першых і ні апошніх,
толькі тыя, хто прыйшоў,
хто праз смугу і смурод,
праз сцены вязніцаў,
праз пышныя фіранкі палацаў
бачыў шлях і Ягоны дом,
хто ў думках сваіх імчаў
шпарчэй чым вецер
над полем пустым,
і няма ў доме Пана майго
тых, хто хацеў і не прыйшоў,
бо ўсе за сталамі Ягонымі
і ў садах Ягоных усе яны.
Пастукаю і я ў дзверы,
і адкрыюць іх мне.

* * *

Ціхай радасцю апантаны,
зноў Твае уцалоўваю раны.
Ты каханнем маім крыжаваны,
я любоўю Тваёй ўратаваны.

**Pater nosterAlbaruthensis**

Ойча наш,
каторы ёсць
і каторы заўсёды з намі,
Ты — у нябёсах
і ў нашых сэрцах.
Святое Імя Тваё
святлом пуцяводным
ззяе нам
там,
дзе дзень мяжуе з ноччу
і прорва небыцця,
ашчэрыўшы пашчу,
чакае ўсіх нас.
Тваё валадарства
хай прыйдзе
і будзе між намі
і ў нас
валадарствам любові,
і воля Твая
хай станецца нашаю воляй
і нашай свабодай,
як у небе,
так і на гэтай распятай зямлі.
А хлеб,
чорны,
кіслы хлеб,
салёны ад нашага поту,
дай нам і сёння,
і заўтра,
і штодня.
Выбач нам нашы грахі,
бо і мы выбачаем,
даруем
усім, хто нас крыўдзіў
і крыўдзіць,
і прагне,
як долі шчаслівай,
нашага скону.
І толькі
не ўводзь нас у спакусу
пустэчы,
нявартага бляску
чужых абяцанняў,
аднак
й сцеражы нас
ад злога,
што
ў нас
і што зводзіць
з Твайго прамяністага шляху.
Амэн.

**Вадохрышча**

Вадохрышча.
Запаланілі сцюжы
ўвесь горад,
ў парку не відно варон,
адно —
гудзе стары саборны звон,
і па ваду
паважна крочаць людзі.

Вадохрышча.
І хоць трашчыць мароз,
ды ў дом
паціху просіцца вясна.
У Нёмане
сягоння хрысціцца Хрыстос,
і ў радасці стаілася зямля —

Вадохрышча.

*2001 г.*

Лідзія Камінская

# У ДАРОЗЕ ДА ПРАЎДЫ

*Да 105-годдзя з дня нараджэння Аляксея Кулакоўскага (1913–1986)*

Вядома ж, каб лепш зразумець пісьменніка (творцу і чалавека), трэба найперш чытаць яго кнігі і, абавязкова, аўтабіяграфію. І вось чытаеш і з горыччу думаеш пра бясконцую драму савецкіх «інжынераў чалавечых душаў», якія на працягу ўсяго жыцця не мелі права поўнага голасу, жылі пад дыктоўку ўладаў у выглядзе яе розных арганізацый — камсамолу, партыі і ўсялякіх (няхай сабе і творчых) саюзаў. Аляксей Кулакоўскі нават аўтабіяграфію, упершыню змешчаную ў кнізе «Пяцьдзясят чатыры дарогі» (1963), не назваў аўтабіяграфіяй: «Некалькі слоў замест аўтабіяграфіі». Ён любіў слова «штрышок», і ўменне зрабіць трапны штрышок дапамагала яму не сфальшывіць, не зманіць, не сказаўшы праўды, якую гаварыць часам забаранялася. Многае ў яго жыцці адпачатку складвалася як бы ад адваротнага (маўляў, вось так, а ты даказвай) — нарадзіўся ў беднай сям'і, а прозвішча меў Кулакоўскі (і вёска яго называлася Кулакі); паступаў у музычнае вучылішча ў Мінску (іграў на скрыпцы і сваімі рукамі змайстраваў некалькі скрыпак), а давялося вучыцца на бондара ў Рагачове (нават быў загадчыкам арцелі бондараў); глыбока паважаючы веру сваёй маці ў Бога, сам мусіў (бо камсамолец, актывіст на вёсцы!) весці «бязбожніцкую работу» і гаварыў пра яе ў аўтабіяграфіі як пра найбольш цяжкае: «*Выступіў супроць папа, значыць і супроць суседа, або нават і супроць каторага дзядзькі ці цёткі па радству*».



Пра тое, як камсамольцам займаўся лікбезам (ліквідатарам непісьменнасці) сярод сялянаў, А. Кулакоўскі напісаў апавяданне «Лікбез», у якім гаварыў, што найбольш складана было знайсці для заняткаў хату без іконаў «*на покуці і на сценах*». Людзі неахвотна знімалі свае іконы: пакідалі ў хаце хоць адну, прыкрываючы саматканым ручніком, і часам партрэт Леніна апынаўся ў рамцы з-пад іконы. «*Першы дзень заняткаў вельмі засмуціў мяне: з моладзі не прыйшоў ніхто. Адна бабулька прынесла і паказала мне зжаўцелы, з чорным крыжам на вокладцы псалтыр.*

*— Якая ж я непісьменная? —* дзівілася яна».

«*Каб зацікавіць моладзь,* — піша А. Кулакоўскі ў аўтабіяграфіі, — *іншы раз прыходзіў на заняткі са сваёй скрыпкаю. Некалькі гадзін займаліся, а потым адсоўвалі ўбок сталы, і пачыналіся танцы*».

Яго маці ўсё жыццё хадзіла ў царкву, і нават калі касманаўты пачалі лятаць па высокіх арбітах і гаварыць, што не бачылі там Бога, Ганна Кулакоўская казала, што проста яны яшчэ не даляцелі да таго месца. Яна з трывогаю назірала за новабудоўлямі, дакладней, за тым, як царква «*ўсё больш і больш меншала ў параўнанні з новымі будынкамі*», і часам дзівілася з таго, што «*каля царквы заўсёды было суха, нават у вясеннюю разводдзе*», а каля новых дамоў ні прайсці, ні праехаць, і «*тыя дамы ўжо засланяюць царкву*».

Гэтую трывогу сваёй маці А. Кулакоўскі апісаў у аповесці «Родныя шыроты». Маці ён вельмі любіў і помніў усе яе трывогі, яе клопаты, яе працу, яе песні, яе звычкі. У «Родных шыротах» ён кранальна напісаў пра тое, як маці, пайшоўшы нядзельным днём у царкву на Спас, даўгавата не вярталася, і ён, занепакоены, рушыў ёй насустрач і ўбачыў яе каля сцежкі ў жыце. Маці нацерабіла сабе ў далонь зярнятаў і сыпанула ў рот, а зубоў у яе ўжо амаль не было, і шкада было высыпаць зярняты на зямлю, бо ўсё ў гэты дзень здавалася ёй свянцоным: «*От надумалася мне разгавецца <...> Новым хлебцам ды яблыкамі... — Падзабала трохі зубамі і дадала, сарамліва гледзячы на мяне: — Свянцонымі. Гэтак пахне ўсё хораша*»...

**Лідзія Камінская** — філолаг. Нарадзілася ў пас. Камсамольскі-на-Волзе Куйбышаўскай вобласці. Вучылася ў Бешанковіцкай СШ № 2 на Віцебшчыне. Закончыла філалагічны факультэт (рускае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978). Працавала ў Чырвонадарскай васьмігадовай школе (Чэрвеньскі р-н; 1978–1980), у Літаратурным музеі Янкі Купалы (1980–1986), Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (1986–1992), у часопісе «Роднае слова» (1992–2004). З 1997 г. супрацоўнічае з часопісамі «Наша вера» і «Ave Maria». Жыве ў Мінску.



Маці пісьменніка
Ганна Кулакоўская.

Незабыўны вобраз маці дапамог Аляксею Мікалаевічу стварыць у сваёй прозе запамінальныя, выразныя вобразы беларускіх жанчын, сярод якіх найбольш адметны вобраз Ларысы з аповесці «Нявестка» (1956), названай вядомым крытыкам С. Андраюком адным «з самых характэрных і самых дасканалых твораў пісьменніка». Ад пачатку ў цэнтры аповесці паказаны стары Даніла, сын якога, ажаніўшыся, прыводзіць у дом яму на радасць маладую ласкавую нявестку, а радасць старога ў тым, што нявестка перад сном грэла для яго ў начоўках ваду, каб меней кашляў і лепей спаў. І хата Данілава нібы пасвятлела, і снедаюць яны ўсмак. «*Ну, за што яму такая павага ад нявесткі, чым ён яе заслужыў? І прыходзіў да думкі, што, мабыць, проста шчасце напаткала чалавека пад старасць, не ўсё ж жыццё быць яму нешчаслівым*».

Адною гэтаю характарыстыкаю (штрышком!) А. Кулакоўскі ўзнімае вобраз Ларысы да ўзору хрысціянскага, прыпавесцевага…

Нідзе не даючы асобна «партрэта» сваёй маці, Аляксей Мікалаевіч штрышкамі, але напоўніцу, з глыбокім псіхалагізмам стварыў яе мілы, цёплы вобраз — маці, жонкі, жанчыны, не гаворачы пра тое, што яна была сапраўднаю хрысціянкаю. У шчымліва-балючым апавяданні «Мятка» (1962) вобраз Ганны Кулакоўскай становіцца ўвасабленнем ахвярнай любові, цярплівасці, пакоры і ўсёдаравання, а між тым гэта апавяданне пра найвялікшую драму іх сям'і (як і многіх сем'яў савецкага часу) — арышт бацькі, вядома ж, ні ў чым не вінаватага вясковага чалавека, які ўсяго толькі сталярыў і бандарыў.

Была ў іх сям'і мілая завядзёнка: бацька ўсюды браў з сабою ў кішэню світкі або за пазуху каліўца мяты, а калі забываўся, маці «*бегла ў агародчык і зрывала там самае прыгожае на той дзень каліўца*». «*Аднаго разу перад вайною прыехалі з раёна і сказалі бацьку збірацца. Маці дрыготкімі рукамі падала, што трэба, а потым, як і заўсёды, пабегла ў агародчык. Была мокрая асенняя ноч. Вільготная ад слоты мята вылузвалася з рук. Маці вобмацкам вырвала адно каліва, а потым стала рваць яшчэ, каб быў цэлы пучок. Рвала і плакала ад роспачы*»...

Бацька дамоў не вярнуўся, а маці кожны дзень рвала пахучыя каліўцы і прыносіла ў хату — так мята стала для яе ўвасабленнем чакання. «*І засохла ў той год на градцы амаль уся гэтая мята... Сямнаццаць пучкоў вісіць на сцяне. З таго часу маці не падвешвае іх больш, але ў гародчыку і цяпер, хоць на каленцах, даглядае мяту*».

Любоў да паху мяты перадалася і Аляксею Мікалаевічу — яе ссохлыя лісцікі ляжалі ў яго кішэнях і зімою, а маці, чакаючы сына, клала каліўца мяты на яго пісьмовы стол (калі ляжалі тры каліўцы — значыць яна чакала яго ўжо тры дні)...

Пра арышты сваіх родных расказвалі многія пісьменнікі, але цяжка назваць больш шчымлівы аповед, у якім так проста, па-чалавечы, па-хрысціянску паяднана лірычнае і драматычнае — і аўтабіяграфія, і мастацкі аповед, і прыпавесць. Гэта адзін з найлепшых твораў не толькі ў прозе Аляксея Кулакоўскага, але і ва ўсёй беларускай літаратуры XX стагоддзя, у якой, на жаль, да гэтага часу не асэнсаваная трагедыя, якая адбілася генетычным страхам (і ў пэўнай ступені бяспамяцтвам) на нашчадках. Мята, «мятка» ў гэтым апавяданні яшчэ і сімвал змятасці, скалечанасці не аднаго пакалення, бо, арыштоўваючы, рэпрэсуючы, бязвінна змінаючы аднаго чалавека з сям'і, па сутнасці зміналі ўсю сям'ю, увесь род.

А потым была вайна, Вялікая Айчынная — адна на ўсіх, але ў кожнага свая, і пра «сваю» расказваць таксама было забаронена, а пісаць — тым больш. У артыкуле «Штрафнікі», змешчаным у «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (т. 6, 2003 г.), сярод іншага напісана: «На кожным фронце было сфарміравана да 3-х штрафных батальёнаў па 800 чал. з афіцэраў сярэдняга і старшага саставу, якія праявілі «баязлівасць і няўстойлівасць», а іх часці без адпаведнага загаду адступілі з займаемых пазіцый <...> Ш. выконвалі асабліва цяжкія задачы: заняцце вышыні, нас. пункта або яго часткі, разведка боем і інш., неслі вялікія страты ў людзях. Пасля выканання баявога задання Ш. раззбройвалі, адводзілі ў тыл для папаўнення і накіроўвалі зноў у бой»...

Чамусьці ў энцыклапедычным даведніку «Беларусь» (1995), куды трапілі далёка не ўсе вядомыя беларусы, у артыкуле пра А. Кулакоўскага — заслужанага работніка культуры Беларусі (1974), лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986) — нават не згадваецца, што ён ваяваў, а сам ён у аўтабіяграфіі напісаў пра гэта два радкі: «*Служыў два гады да вайны і ўсю вайну знаходзіўся на фронце. Камандаваў*

*стралковым узводам, потым ротай*». Мы, працуючы пад яго кіраўніцтвам у Літаратурным музеі Янкі Купалы, амаль усе ведалі, што камандаваў ён менавіта штрафною ротаю, але падрабязнасцяў не ведалі: хутчэй за ўсё, калі камандаваў стралковым узводам, не захацеў «браць пазіцыі любой цаною» — пашкадаваў людзей і як «няўстойлівы баязлівец» быў пакараны камандаваннем штрафною ротаю. Пра яго штрафную вайну я даведалася ад Хрысціны Лялько, з якою ён любіў паразмаўляць (яна працавала ў музеі амаль чатыры гады), а Людміла Сцяпанаўна Давыдоўская, якая працавала ў музеі «ўсё жыццё», гаварыла мне, што за камандаванне штрафною ротаю ён быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі.



Аляксей Кулакоўскі і Ян Скрыган. 1982 г.
Фота Уладзіміра Крука.

Дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы ён быў з 1977-га па 1986 гады — апошнія гады свайго жыцця. Працаваць яму было нялёгка, і часам здавалася, што гэта яго другая «штрафная рота» — зрэшты, і Янка Купала быў (і застаўся) пажыццёвым «штрафнікам» перад уладамі, бо «без адпаведнага загаду» напісаў п'есу «Тутэйшыя», ужо, відаць, навекі рэпрэсаваную для тэатра, які носіць яго імя, а ў музеі, як «аргумент», экспануецца яго «пакаяльны ліст», дзе ён «сам» прызнае свой твор памылковым. На экскурсіях, у лекцыях, у шматлікіх мерапрыемствах і ў самой экспазіцыі музея шмат чаго не дазвалялася, і за ўсё адказваў дырэктар, і менавіта з ім музей прыгожа сустрэў 100-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы ў Мінску, у Вязынцы і ў Ляўках, прымаючы натоўпы экскурсій з розных куткоў Савецкага Саюза.

Адчуваючы сябе не зусім на «сваім месцы», ён неяк сказаў: «Што я тут раблю? Падпісваю гэтыя дурацкія загады, а пра вас жа, пра кожную, можна раман пісаць!» Памятаю, што мы ніколі не хадзілі на суботнікі і не ездзілі «на галінкі», куды ганялі нават Акадэмію навук: ён не лічыў патрэбным для жаночага калектыву «браць гэтыя пазіцыі любой цаною». Я прыйшла на працу ў музей у 1980-м пры яго вялікім спрыянні і праз студэнцкае сяброўства з Хрысцінаю Лялько. На той час у ім, падобным да вясковага пастара, нельга было разгледзець ні адважнага афіцэра, які камандаваў штрафною ротаю, ні адважнага празаіка, які па сутнасці першым у беларускай літаратуры ў аповесці «Дабрасельцы» (1958) сказаў горкую праўду пра вясковае жыццё, за што быў звольнены з пасады галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць», дзе асмеліўся надрукаваць сваю аповесць, і надоўга стаў аб'ектам «прыцэльнага агню» — зноў стаў «штрафніком», і душа яго ўжо была размятаю, расстралянаю. Нават тыя, хто з ім сябраваў і даўно пісаў пра яго творчасць, называлі яго «пісьменнікам няроўным», «бытапісальнікам», высвечваючы недахопы гэтак, што яны пераважвалі вартасці яго твораў, а адзін вельмі паважаны гісторык нават сказаў: «Лепей бы ён застаўся бондарам». Найлепш разумеў, цаніў яго творы, асабліва мову, яго штрышкі, яго натуральнасць, Ян Аляксеевіч Скрыган, і большай адзнакі не трэба, бо ён быў сапраўдным майстрам слова (і таксама «штрафніком»: першы раз яго арыштавалі ў 1936-м, асудзіўшы на 10 гадоў, а другі раз — у 1949-м). Сярод блізкіх сяброў Аляксея Мікалаевіча быў Герой Савецкага Саюза Васіль Іванавіч Казлоў, які займаў пасля вайны высокія дзяржаўныя пасады, пісьменнікі Янка Брыль, Іван Шамякін, Іван Мележ, Андрэй Макаёнак. Яны былі вельмі розныя, але іх яднала вайна, пасля якой Аляксей Мікалаевіч, здаецца, быў найбольш духоўна зраненым і недаацэненым (і званне заслужанага работніка культуры Беларусі, і Дзяржаўная прэмія былі запозненымі), а яшчэ ён перажыў трагічную смерць сына і сваю вельмі цяжкую хваробу...

І вось такі штрышок: упершыню трапіўшы ў яго рабочы кабінет у музеі, дзе ў вялікай вазе стаяў сноп ільну, мы выходзілі ўражана-прыўзнятыя, бо адчувалі, бачылі, што ён успрымае нас з павагаю і далікатнасцю, бо на ўваход жанчыны Аляксей Мікалаевіч заўсёды ўставаў з-за стала, звыклым жэстам папраўляў свой гальштук і, калі пінжак вісеў на спінцы стула, адзяваў яго, а потым прапаноўваў прысесці. У шафе за яго спінаю заўсёды былі

смачныя цукеркі, і ён нас частаваў. У кожнай з нас засталіся кнігі з яго аўтографам, падараваныя ў дзень нараджэння або з нейкай іншай нагоды. Для кожнай з нас, як я зразумела пазней, ён зрабіў нешта добрае (важнае, канкрэтнае), але мы пра гэта адна адной тады не расказвалі, бо часам яму ў просьбах за нас (прапіска, жыллё, дзіцячы садок і г. д.) даводзілася звяртацца да сваіх аўтарытэтных сяброў. «Ёсць у мяне адзін добры хлопец», — казаў ён і тут жа набіраў нумар тэлефона...

Ён сапраўды любіў людзей, і некаторыя з іх, яго аднавяскоўцы, станавіліся героямі яго прозы, як глуханямы Павел з апавядання «Нямко» (1945), які яшчэ ў дзяцінстве ўразіў будучага пісьменніка чуласцю да ўсяго жывога і трагічнасцю свайго лёсу. Мноства землякоў Аляксея Мікалаевіча (салігорцаў, беларускіх шахцёраў) адразу пазнавала сябе ў яго газетна-часопісных публікацыях (напісаных пераважна ў маладосці) і ў прозе, бо часам ён нават не змяняў іх сапраўдных імёнаў. Яго проза адметная найперш праўдзівасцю аўтара, яго абвостраным пачуццём і жаданнем справядлівасці. Яго сябра Іван Мележ у артыкуле «Слова да таварыша, якое я хацеў бы сказаць на юбілейным вечары» (1963), пісаў: «*...твае ўдачы і няўдачы былі заўсёды на адной дарозе — да праўды*».

Сёння, калі ў друку ўсё больш пануе моўная неахайнасць, а ёмкае паняцце «проза», здаецца, увогуле знікае, падмяняецца размытымі, невыразнымі «тэкстамі», мова твораў А. Кулакоўскага ўспрымаецца як шчодрая спелая ніва, багатая на залатое зерне, а сам Аляксей Мікалаевіч паўстае як высакародны, трошкі наіўны вясковы праўдашукальнік, але без яго штрышкоў беларуская літаратура не мела б сваіх поўных, выразных абрысаў.

# «Імёны вашыя запісаны ў нябёсах...»

*Пра новую кніжку Ірыны Жарнасек*

Мы даўно працуем у каталіцкім друку разам (і без гучных фразаў), нешта страчваем (у сабе і каля сябе), нешта набываем (пра гэта ў кожнага свая гісторыя), але супадаем у галоўным — у тым, што трымае нас столькі гадоў на гэтай працы, дзе нашы абавязкі нібы самі сабою (ці Маці Божая пакіравала?) размеркаваліся паводле нашых здольнасцяў і нават нашых характараў. Ірына Жарнасек гадамі, практычна адна, ад першай да апошняй старонкі піша, трымае часопіс для каталіцкіх дзяцей — «Маленькі рыцар Беззаганнай», выдумляючы сабе розныя псеўданімы: Студзеньская, Задарожная, Гаварка́я і інш. І ў гэтых яе псеўданімах ёсць штосьці ад дзіцячай гульні, і менавіта яна, на маю думку, найбольш блізкая сярод нас, старэйшых у друку, да ўвасаблення ў сваёй натуры і ў сваёй працы такога простага і такога складанага евангельскага закліку: «Будзьце як дзеці». Менавіта з публікацый дзіцячага часопіса «Маленькі рыцар Беззаганнай» вырасла, нібы сама сабою склалася кніжачка Ірыны Жарнасек «Незабудкі» («Про Хрысто», 2018), у якой выразна праявілася ўласцівае дзецям уменне аўтаркі ператвараць будзённае, звыклае, простае і няпростае ў раптоўнае адкрыццё — светлае, радаснае, ачышчальнае. І кніжачку сваю яна прысвяціла дарагому яе сэрцу дзіцяці — чатырохгадоваму ўнуку Янку Жарнасеку, якога яна называе сваім сябрам.

Паданне пра незабудкі — найважнейшае ў хрысціянскіх паданнях пра Божыя кветкі. Яго сэнс у тым, што, ствараючы кветкі, Бог даў кожнай з іх імя і наказаў запамятаць яго, але ўжо праз хвіліну маленькая блакітная кветачка, расплакаўшыся, прызналася, што забыла сваё імя, і тады Пан Бог ласкава сказаў ёй пра самае галоўнае: «Не забудзь Мяне!».

У кніжачцы сабраныя 17 гісторый, героямі якіх з'яўляюцца дзеці і дарослыя, але ёсць там і жабкі, і рыбкі, і нябачныя страшныя мядзведзі, і розныя прыгоды, і непамысныя здарэнні, у якіх штохвілінна даводзіцца рабіць выбар паміж правільным і няправільным, добрым і нядобрым. Усім добрым кіруе, як вядома, Святы Дух, а нядобрым... самі ведаеце... хто. Не зрэзаць бярозку за горадам, не лупцаваць котку, нават калі яна нашкодзіла, проста так падарыць маме яе любімыя цюльпаны — гэта ўсё дзеянне Святога Духа, які вее ўсюды, дзе хоча — так сказана ў Святым Пісанні. І калі цяжка зрабіць выбар, трэба звяртацца па дапамогу да Святога Духа ў думках, малітвах і нават у песнях, просячы простымі словамі: «Дай вады жывой, Дух Святы, прыйдзі... сэрцаў дакраніся»...

Большасць з 17-ці апаведаў кніжачкі мае трапныя назвы («Заступніца», «Жывая вада», «Ружанцовае сэрца»), сярод якіх ёсць і назвы-заклікі: «Страх адкінь», «Нельга марудзіць»). Да




кожнага аповеду Ірына Жарнасек падабрала адпаведныя зместу цытаты са Святога Пісання: «Няхай ніхто з вас не церпіць як забойца або злодзей, або як злачынец» (1 П 4, 15); «Апраніцеся ўсе ва ўзаемную пакору, таму што Бог супраціўляецца ганарыстым, а пакорным дае ласку» (1 П 5, 5); «Маліцеся адзін за аднаго, каб быць аздароўленымі» (Як 5, 16); «Будзьце міласэрнымі, як і Айцец ваш міласэрны» (Лк 6, 36). Уражвае амаль не рэальны на сённяшні час аповед «Нельга марудзіць», герой якога, галава сямейства, што ўжо пакуе чамаданы, каб ехаць у доўгачаканае падарожжа на Святую Зямлю, абвяшчае сям'і, што яны нікуды не паедуць, бо ён аддаў грошы на аперацыю незнаёмай дзяўчынкі з Гомельшчыны, пра якую штодня казалі па тэлевізары. Перакананая, што гэта не выдуманы аўтаркаю герой, а нехта з яе рэальных знаёмых, можа, з тых, з кім яна не раз хадзіла ў пілігрымкі, але расказваць пра «подзвігі» сваіх блізкіх і свае Ірына (хоць яна і Арына Гаварка́я) ніколі не будзе — няхай Бог ведае пра ўсе нашы ўчынкі, і, пэўна ж, гэта Ён змяняе наша рэальнае падарожжа ў Бэтлеем на Бэтлеем у нашых сэрцах, абуджаючы ў іх міласэрнасць і ахвярнасць. І таму аповед завяршаецца мудрым пытаннем-развагаю маці сямейства: «І як бы мы цягалі там гэткі цяжар?», і зразумела, што пад цяжарам маюцца на ўвазе не чамаданы, а цяжар няправільнага, нядобрага, не хрысціянскага выбару...

Гэтая кніжачка проста выдатна праілюстраваная: на амаль кожнай старонцы малюнак — як падарунак, што выклікае і захапленне, і замілаванне, і ўсмешку, таму хочацца сказаць дзякуй мастакам В. Гардзіёнак-Кірэевай, Г. Хінцы-Янушкевіч, В. Чарняўскай за іх талент бачыць свет светлымі, добрымі, дзіцячымі вачыма, а яшчэ хочацца пахваліць малюнкі на старонках «Дзённіка пілігрыма»: зробленыя сінім і чырвоным стрыжнямі (сонца, хмарка, домікі, кветачкі, касцёл), яны таксама выклікаюць замілаванне і радасць, бо нашы дзеці таленавітыя, шчырыя, непасрэдныя, добрыя, разумныя, пра што сведчаць і іх запісы ў дзённіку. Мне найбольш запомніўся той Аленчын запіс (чырвоным стрыжнем, бо дзяўчынка), дзе яна нязмушана расказала, як у дарозе менавіта да яе прычапіўся карэспандэнт, які запытаўся: «Чаму ты ідзеш у пілігрымцы?» «Я не ведала, што яму адказаць, — напісала Аленка. — Раззлавалася і крыкнула: „Таму што пілігрымшчыца я!“ І яму чамусьці гэта спадабалася. Ён доўга смяяўся...» А потым дачакаўся пілігрымаў у вёсцы каля крамы і падарыў ім торбу марозіва — на ўсіх...

Як жа добра, правільна, што і Аленка не стала тлумачыць, «чаму?», і журналіст не стаў дамагацца адказу на тое невымоўнае, што ляжыць глыбока ў сэрцы і належыць толькі Богу...

А яшчэ ў гэтай кніжачцы вельмі добрая мова — натуральная, жывая, нязмушаная. Шкада толькі, што «пракраліся» ў яе зладзейкі-памылкі: мяне аж кіпенем абдало (бо і я ж карэктар!), калі на 105-й старонцы ўбачыла, што «не трэба» напісана разам — даруйце, дзеці і дарослыя... Звалім усё на камп'ютар...

...Нядаўна, уключыўшы па тэлевізары канал «Культура», я натрапіла на перадачу «Тем временем. Смыслы», у якой, адштурхоўваючыся ад прыкладу катастрофы сучаснага хрысціянства ў Ірландыі, разважалася пра тое, што сёння становіцца амаль немагчымым гаварыць пра сакральнае, бо... *няма каму*. І я радасна падумала, што ў Беларусі *ёсць каму*, і словы гэтыя па́даюць не на каменні, і гаварыць іх можна ненавязліва, цікава і нават весела, як робіць гэта Ірына Жарнасек, якая ведае, што каталіцкія дзеці ў сваіх дзённіках пра пілігрымкі пішуць не толькі пра пякучыя мазалі на нагах і праблемы пасля кіслага малака з пірагамі, а яшчэ пра тое, што *«Маці Божая ў Будславе так загадкава ўсміхаецца... Радасная. І мы таксама радасныя. Вельмі»*. І гэтыя простыя дзіцячыя словы нібы адгукаюцца, супадаюць з евангельскім заклікам: «Радуйцеся, таму што імёны вашыя запісаны ў нябёсах» (Лк 10, 20). І заклік гэты звернуты да кожнага, бо ўсе мы — адзіная чалавечая тканка (плоцевая, але найперш духоўная), і паводле Божай задумы тканка павінна быць непарыўнаю (усе — як адно!), і пакуль чалавек жывы, у яго ў кожную хвіліну, нават у апошнюю, ёсць шанец падняць сваё сэрца ўгору — да Сэрца свайго Творцы.

Будзьма ж Яго незабудкамі!

*Зося Бараноўская*




Кардынал Юрый Радзівіл.
Невядомы мастак, канец XVI ст.,
Нацыянальны мастацкі музей Беларусі.

Андрэй Шпунт

# Абаронца веры

**Партрэт**

Найяснейшая Рэч Паспалітая ў каштоўных камянях, металах, зброі, футрах, карунках, рыцарскіх даспехах, атрыбутах улады і пануючага саслоўя прадстаўлена ва ўсім сваім бляску ў партрэтнай галерэі Нясвіжскага збору Радзівілаў. Сярод усяго гэтага шматквецця нібыта выпадкова апынуўся прыгожы, падобны да італьянца чалавек з задумлівым позіркам, у кардынальскіх шатах, якія чырвоным агнём вылучаюць яго са стракатага натоўпу. Гэта наш першы кардынал Юрый Радзівіл, якому прысвечаны шэраг значных публікацый у Польшчы і Летуве (да якой ён не мае дачынення). У нас жа, хаця ён і быў літвінам, і нарадзіўся тут і служыў, амаль нічога — пыл забыцця…

**Экспазіцыя**

Калі 31 траўня 1556 г. у Лукішках, пад Вільняй, у сям'і ваяводы віленскага Мікалая Радзівіла Чорнага будучы кардынал убачыў свет, Вялікае Княства Літоўскае было ўжо пратэстанцкай краінай (у сенаце ВКЛ у 1569 г. на 15 сенатараў-пратэстантаў былі 2 каталікі і 5 праваслаўных). Гэта былі часы г.зв. «залатога стагоддзя» — арганічнай часткі ўсеагульнага еўрапейскага руху, шчыльна звязанага з Рэнесансам і Рэфармацыяй.

Мікалай Радзівіл Чорны быў упартым кальвіністам, якога дарэмна спрабавалі вярнуць у лона Касцёла некалькі Апостальскіх нунцыяў. У бацькоўскім доме Юрый увесь час быў сведкам жартаў і здзекаў з Касцёла і ўсяго, што з'яўляецца святым для кожнага каталіка.

Калі ў 1565 г. ваявода віленскі сканаў у страшэнных пакутах, апеку над яго сынамі — Мікалаем Крыштафам Сіроткам, Альбрыхтам, Станіславам і Юрыем — узяў дзядзька Мікалай Радзівіл Руды. Далейшае сталенне нашчадкаў галоўнага рухавіка Рэфармацыі ў ВКЛ павінна было адбывацца ва ўніверсітэтах Ляйпцыга і Вюртэмберга. Але, убачыўшы пратэстантызм зблізу, у самым яго асяродку, сыны Радзівіла Чорнага ўсё больш аддаляліся ад яго. Першым апамятаўся старэйшы — Мікалай Крыштаф, у будучыні прыклад хрысціянскага жыцця і вялікі дабрадзей Касцёла. Калі

**Андрэй ШПУНТ** — гісторык, архівіст. Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989–1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996–1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998–2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.

апека над братамі перайшла да Мікалая Крыштафа, а да яго далучыліся езуіты Станіслаў Варшавіцкі і Пётр Скарга, іх сумесная праца ўвянчалася 11 красавіка 1574 г. набыццём для Касцёла астатніх сыноў. Вяртанне Радзівілаў у лона Касцёла сталася буйной перамогай езуітаў. У хуткім часе да іх пацягнуліся «блудныя авечкі» нават з праваслаўных фамілій — эліта, аздоба краіны: Астрожскія, Валовічы, Збаражскія, Сапегі…

**Каштоўны саюзнік**

Яшчэ да хросту Юрыя Сіротка звярнуўся да Апостальскага нунцыя кардынала Джавані Франчэска Камендоні на прадмет таго, каб пляменнік стаў ні больш ні менш каад'ютарам біскупа Віленскага. Аб гэтым, таксама канфідэнцыйна, ён паведаміў Скаргу. Біскуп Віленскі Валяр'ян Пратасевіч таксама быў не супраць, адзначаючы ў юнага Радзівіла сціпласць, веды і жаданне духоўнай кар'еры. Ужо 17 траўня ён прадставіў капітулу кандыдатуру каад'ютара, і на наступны дзень было накіравана хадайніцтва да папы Грыгорыя XIII. Далей, на працягу чэрвеня-ліпеня, Святы Айцец атрымліваў лісты і хадайніцтвы ад караля і вялікага князя Генрыха Валуа, прымаса Якуба Уханскага, прадстаўнікоў ад Кароны і Княства. Гэткая рэдкая для Рэчы Паспалітай згода тлумачылася тым, што ўсім быў патрэбны прадстаўнік магнацкага роду, бо, па словах Януша Тазбіра: «Якім бы каад'ютарам Юрый ні быў, то і так аказваўся, апрача ўсяго іншага, каштоўным саюзнікам на тэрыторыі Вільні і Літвы». І хаця высілкі Сіроткі падмацоўваліся ўсеагульным адзінадушшам, справа гэта была вельмі клапатлівая. Нарэшце, напрыканцы лістапада, усе неабходныя дакументы былі адпраўлены ў Апостальскую Сталіцу.

Папа Грыгорый XIII асабліва ўважліва падыходзіў да падбору кандыдатаў на біскупскія пасады. Сумненні былі. Галоўным чынам адносна тэалагічнай падрыхтоўкі, дакладней, яе адсутнасці, таму жаданае брэве ад 17 снежня 1574 г. было падпісана з умоваю прыезду Юрыя Радзівіла ў Рым для папаўнення ведаў у галіне філасофіі і тэалогіі.

**Хістанні і сумненні**

За сухой інфармацыяй аб тым, што ў 1575–1577 гг. Юрый Радзівіл вучыўся ў Рыме, а з 1578-га да 1581 г. быў у пілігрымцы ў Іспаніі, Партугаліі і падарожнічаў па Еўропе, крыецца, мабыць, самы адказны перыяд у яго жыцці. Пётр Скарга, які пільна сачыў за сваім выхаванцам, у лістах у Рым з трывогаю адзначаў, што Радзівіл паводзіў сябе хутчэй як малады князь, чым святар, марнуючы час на ўсялякія відовішчы і тэатральныя пастаноўкі. Да Сіроткі таксама сталі даходзіць пагалоскі аб дрэнным ладзе жыцця брата, а потым дайшло і да выдаткаў, празмерных нават для такога магната як Мікалай Крыштаф. Толькі ў 1577 г. ён выслаў у Рым 8 тыс. злотых, але гэта была толькі частка даўгоў, якія паспеў нарабіць малады каад'ютар Віленскага біскупа. Паміж братамі пачалася вострая перапіска, у якой Юрый Радзівіл гаварыў пра тое, што яго пакрыўдзілі яго пры падзеле спадчыны Мікалая Радзівіла Чорнага. Напрыканцы чэрвеня 1577 г. Сіротка звярнуўся да Святога Айца з просьбаю адазваць брата. Папа адмовіў. Усё гэта было тло, на якім Юрый Радзівіл вёў цяжкую душэўную барацьбу ў хістаннях і сумненнях наконт абранага шляху. Захаваўся яго ліст, напісаны ў Празе 4 жніўня 1578 г. да швагра, канцлера кароннага Яна Замойскага, які (дзякуй канцлеру, што не «*zdrapał*» і не спаліў яго адразу пасля прачытання па просьбе адрасата) з'яўляецца каштоўным прыкладам таго, што Богу трэба давяраць болей, чым уласным пачуццям і сумненням. У чаканні пашпарту для далейшага падарожжа ў пілігрыма з Літвы было шмат часу, таму ліст атрымаўся доўгім, але ўсё ж варта згадаць некаторыя месцы з яго. Так, ён піша, што: «на сабе вельмі добра пазнаў, што супраць паклікання і супраць сумлення дарэмна нешта рабіць. <…> я да духоўнага хлеба ніякага жадання ніколі не меў, і сапраўды гэта было заўсёды супраць маёй натуры і сумлення так моцна, што будучы супраць сваёй волі хітрасцямі прыведзены да гэтага тымі, якія ў тым болей сваёй карысці, чым хвалы Божай бачылі, ад вялікага разладу розуму майго і такога смутку, некалькі разоў быў на мяжы адчаю. <…> я ведаю, якая карысная і добрая рэч быць святаром, <…> духоўны хлеб, які ўжо маю, ні для ўбогай славы гэтага свету, ні для карысці маёй зрабіць хацеў, але для шчырай хвалы Божай <…>. Быў <…> спакушаны тым такім славутым і магутным біскупствам <…> хутка потым напаў на мяне такі смутак, што не ведаў, што з сабой рабіць, і так мне здалося, нібыта хтосьці мне казаў, што дрэнна зрабіў, бо вельмі грашыў <…> спакушаны прыемнасцямі <…> і г.д.».

Сумненні пачалі непакоіць нават Скаргу, які таксама быў за тое, каб яго выхаванец пакінуў Рым. Але Папа зноў быў супраць, бо разумеў нешта іншае, тое, што не разгледзелі ні Сіротка, ні Скарга. Святы Айцец дапамог з аплатаю даўгоў і, калі палічыў патрэбным, у кастрычніку 1577 г., даў згоду на вяртанне Юрыя Радзівіла ў Літву, куды ён прыбыў ужо ў снежні і таксама хутка памірыўся з Мікалаем Крыштафам.

Але на галаву Скаргі зваліліся новыя клопаты. Справа ў тым, што канчаткова вызначыцца

са сваёю будучыняй каад'ютар біскупа Віленскага вырашыў пасля пілігрымкі ў Санцьяга-дэ-Кампастэла, а пасля ці ўступіць у Таварыства Езуса, ці вярнуцца ў свецкі стан. Як пісаў біёграф Скаргі Януш Тазбір, найстараннейшая селекцыя, якая праводзілася ў Таварыстве, не магла пазбегнуць памылак, якія ў той час былі асабліва балючыя, бо адбіваліся на ўмовах супрацьстаяння з пратэстантамі. Цяпер Скарга не сумняваўся, што капрызны князь з сярэднімі здольнасцямі, вельмі слабой воляй, нясталы і маладушны толькі павялічыць няўдачы Таварыства. Раздражняла і тое, што родавая салідарнасць Радзівілаў была вышэй за канфесійныя бар'еры. У свайго дзядзькі Мікалая Радзівіла Рудага, «зацятага ерэтыка», перад ад'ездам у Санцьяга-дэ-Кампастэла «надзея Касцёла» ўпіўся віном гэтак, што наступнай раніцай асцерагаліся за яго жыццё...

**Памылка Скаргі**

Напрыканцы лютага 1579 г. пілігрым дасягнуў мэты свайго шляху. Ксёндз (і будучы біскуп) Людвіг Лэнтоўскі ў сваёй апалогіі, прысвечанай кракаўскім біскупам, прэлатам і канонікам, пісаў, што малады князь ішоў «пешшу ў пілігрымскім строі, хаваючы пад капюшонам сваю годнасць, што не магло не ўсцешыць Святога Айца, які шчыра любіў гэтага вельмі добрага маладога чалавека». Наступныя амаль паўгода Юрый Радзівіл прабыў у Партугаліі і Іспаніі, а адтуль морам накіраваўся ў Італію і 4 верасня дасягнуў Турына, ледзьве не стаўшы па дарозе здабычаю турэцкіх карсараў. 10 лютага 1580 г. была атрымана згода Святога Айца аб новай пілігрымцы ў Ерузалем, але ў Апостальскай Сталіцы яшчэ не ведалі пра тое,




Папа Грыгорый XIII.

што ў снежні 1579 г. памёр біскуп Віленскі Валяр'ян Пратасевіч. Скарга пісаў тады пра пераемніка, што ён менш за ўсё марыць аб біскупстве і «ўвогуле не спяшаецца да святарскага стану», аднак і Скарга мог памыляцца. У сакавіку 1580 г., атрымаўшы вызваленне ад абету (пілігрымка ў Ерузалем) і ў адказ на пажаданне Святога Айца Юрый Радзівіл даў згоду ўзначаліць Віленскае біскупства, але з-за хваробы заставаўся ў Італіі яшчэ некалькі месяцаў, а таксама чакаў Сіротку, з якім збіраўся наведаць Венецыю і Падую.

Так, Скарга сапраўды памыляўся, у чым неўзабаве пераканаўся сам. Гэта быў ужо зусім іншы чалавек: ён вёў перапіску і прасіў парадаў у кардынала Карла Барамея, а час прысвячаў не ўсялякім відовішчам і забавам, а руплівому штудзіраванню кніг па тэалогіі.

**Змагар**

Інгрэс адбыўся 2 жніўня 1581 года. Нездарма айцы езуіты віталі новага біскупа з такою пышнасцю — вучань Скаргі і Барамея яшчэ да ўрачыстага ўваходу ў віленскую катэдру выдаў забарону на правядзенне іншаверных пахавальных працэсій каля касцёла св. Яна і біскупскага палаца. У тым складаным для Касцёла і ВКЛ становішчы гэта быў смелы і адказны крок. З 12 жніўня ў Вільні ўступаў ў дзеянне Індэкс забароненых кніг. Кальвінскія кнігарні зачыняліся, а кнігі канфіскоўваліся. Перад касцёлам св. Яна запалаў велізарны стос з прадуктаў «атрутнай» пратэстанцкай жыццядзейнасці. Біскуп Юрый мог ганарыцца — гэта было першае *auto da fé* ў межах Рэчы Паспалітай. Праўда, з адзіным істотным адрозненнем — на гэтых стосах не палілі ерэтыкоў. Яскравай ілюстрацыяй нашых спецыфічных рэаліяў служыць і тое, што гэтыя стосы, асвятляючы ачышчальным агнём нашу сталіцу, толькі часткова складаліся з канфіскаваных кніг, астатнія ж былі выкуплены нібыта ажно за 5 тыс. дукатаў на ахвяраванні біскупа Віленскага.

Каталіцкая моладзь убачыла ў новым пастыры свайго правадыра –маладога і рашучага. Пратэстанты пісалі пазней, што біскуп Радзівіл мабілізаваў тады мясцовы зброд, які зрабаваў і спаліў бібліятэку, рыхтуючы пасля напад на кальвінскую святыню, а Скарга заахвочваў людзей, нібыта граючы на трубе да атакі.

У сваёй бескампраміснай барацьбе біскуп Юрый адкінуў нават родавую салідарнасць, перад якой дагэтуль былі бяссільныя ўсе перашкоды. Цяпер сярод яго праціўнікаў апынуўся стрыечны брат — ваявода віленскі Крыштаф Радзівіл Пярун.

Шум падзеяў данёсся скаргамі і пратэстамі пад Пскоў, абложаны нашымі войскамі. Каралеўскі мандат ад 26 верасня 1581 г. сурова ганьбаваў і біскупа, і студэнтаў, указваючы на тое, што: «Паўсюль там, дзе

веру гвалтам агнём і жалезам замест навучання і добрых прыкладаў распаўсюджвалі, выбухалі хваляванні і грамадзянскія войны». Біскуп Віленскі сам быў добрым прыкладам распаўсюджвання веры, але наконт міжканфесійных адносінаў меў іншую думку.

Адначасова з наступленнем на пратэстантаў ён пачаў актыўна праводзіць рэформы згодна з пастановамі Трыдэнцкага Сабору (1545–1563), скліканага папам Паўлам III для таго, каб аднавіць жыццё Касцёла ва ўмовах жорсткіх рэфармацыйных выклікаў. Барацьба працягвалася ўвесь час яго кіравання Віленскім біскупствам.



Жыгімонт III Ваза.

### Місіянер

Стэфану Баторыю імпанавалі мужнасць і энергія маладога біскупа, таму, калі паўстала пытанне аб прызначэнні намесніка ці губернатара Інфлянтаў, вызваленых ад маскоўцаў, 1 траўня 1582 г. кароль зацвердзіў менавіта яго. Зразумела, на такую адказную і цяжкую пасаду былі іншыя выдатныя кандыдатуры, як, напрыклад, канцлер каронны Ян Замойскі ці ваявода брацлаўскі Януш Збаражскі, але ў тагачасным становішчы Рэчы Паспалітай асоба біскупа Віленскага бачылася ўдалым кампрамісам, каб прымірыць намеры Баторыя, сутыкненне інтарэсаў Кароны і Княства і нарэшце патрабаванні Апостальскай Сталіцы адносна рэкаталізацыі Інфлянтаў, апанаваных пратэстантамі. Да таго ж, біскуп Юрый добра ведаў мовы — асабліва нямецкую (валодаў лацінскаю, грэцкаю, італьянскаю і французскаю), таму кароль спадзяваўся, што хутка паразумеецца з мясцовымі немцамі.

Можна ўявіць, які цяжар адміністрацыйна-гаспадарчых праблемаў лёг на плечы новага намесніка, у тым ліку і рэвізія зямельных уладанняў, і разбурэнне замкаў, і г.д., і ўсё гэта сярод варожага пратэстанцкага насельніцтва, асабліва шляхты, але сваёй найважнейшай задачай, як пастыр Касцёла, біскуп Юрый бачыў пашырэнне і ўмацаванне каталіцтва ў Інфлянтах, што арганічна спалучалася з яго дзейнасцю па абароне мясцовых жыхароў ад свавольства вайсковых аддзелаў і грамадзянскай адміністрацыі. Ён спалучаў суровасць з лагоднасцю і цвёрда прытрымліваўся справядлівасці для ўсіх.

Інфлянты разглядаліся Касцёлам як фарпост для будучых амбіцыйных місіянерскіх планаў на поўначы і ўсходзе — у Швецыі, Фінляндыі, Масковіі. Але гэта быў моцны арэшак, аб які місіянерам давялося абламаць зубы. Праз некаторы час стала зразумела, што распаўсюджванне каталіцтва ў Інфлянтах — справа складаная і доўгая, для вырашэння якой біскуп Юрый рабіў усё як наступнік Апосталаў. Як намеснік, пры ўсёй сваёй асцярожнасці, ён не здолеў пазбегнуць шэрагу канфліктаў, звязаных з увядзеннем Грыгарыянскага календара ці пільтынскім інцыдэнтам, калі для ўціхамірвання мясцовай шляхты, якая вырашыла перайсці на бок караля Даніі, давялося высылаць вайсковыя аддзелы.

Біскуп Юрый заставаўся непахісным у сваіх поглядах на міжканфесійныя адносіны, далёкія ад той талерантнасці, якой прытрымліваўся мудры і разважлівы Стэфан Баторый. Але ці памыляўся біскуп Юрый, а разам з ім тузін такіх светлых галоваў, як Скарга ці Белармін? Ці не азначаў у тых умовах «міжканфесійны мір» (гаворка ідзе аб пратэстантах) удар для Касцёла? На Сойме ў Рызе 4 красавіка 1583 г. біскуп Юрый адмовіўся абвясціць Канстытуцыю Інфлянтаў з прычыны артыкула аб раўнапраўі веравызнанняў каталіцкага і лютэранскага, даручыўшы гэта генеральнаму камісару Станіславу Пенкаслаўскаму. Для біскупа Юрыя гэта была несумненная параза. Стомлены бесперапынным ціскам, ён дабіваўся звальнення з пасады, што і адбылося 11 лістапада 1585 года. Перад ад'ездам ён абвясціў, што калі камусьці павінен, няхай звернецца да яго, і будзе заплачана. Немцам, якія асабліва любяць акуратнасць у рахунках, гэты развітальны жэст вельмі спадабаўся.

З іншага боку, як аптымістычна пісалі кс. Каспер Нясецкі і кс. Людвіг Лэнтоўскі, біскуп Юрый прывёў Інфлянты ў лона Касцёла, і Грыгорый XIII аб'явіў біскупа Юрыя кардыналам.

### Ад пратэстанта да кардынала

Нарэшце мы можам азірнуцца назад і ахапіць розумам тое, як незвычайна адбывалася гэтая бліскучая касцёльная кар'ера — ад кальвініста і заў-

сёдніка пажыўных месцаў да кардынала. Нагадаем, што 2 жніўня 1581 г. адбыўся інгрэс у віленскую катэдру наступніка нябожчыка біскупа Валяр'яна Пратасевіча. 20 кастрычніка таго ж года была атрыманая дыспенса ў сувязі з вельмі маладым узростам (25 гадоў) і згода на кансэкрацыю, аднак, як піша біёграф Юрыя Радзівіла Веслаў Мюллер, з прычыны занятасці інфлянцкімі справамі, гэта адбылося толькі ў 1583 годзе: 10 красавіка біскуп Юрый атрымаў святарскае пасвячэнне ў касцёле св. Якуба ў Рызе з рук суфрагана Віленскага Цыпрыяна, а 26 снежня 1583 г. — біскупскае пасвячэнне ў віленскай катэдры з рук нунцыя Альберта Баланьеці, біскупа Жмудскага Мельхіёра Гедройца і суфрагана Віленскага Цыпрыяна, але яшчэ 14 снежня папскім брэвэ ён быў абвешчаны кардыналам. Гэта быў першы кардынал у нашай гісторыі[1], і яму было ўсяго 27 гадоў. Трэба дадаць, што за воляй Святога Айца стаялі таксама ўплывовыя хадатаі — Стэфан Баторый і Ян Замойскі. 4 красавіка 1584 г. у Вільні адбылося ўручэнне кардынальскіх берэтаў (таксама атрымаў і нунцый Баланьеці), а 26 чэрвеня 1586 г. у Рыме Юрыю Радзівілу быў уручаны кардынальскі капялюш і прызначаны тытулярны касцёл св. Сікста.

**Кароль і кардынал**

Падчас побыту ў Рыме прыйшла вестка аб смерці Стэфана Баторыя, і 11 лютага 1587 г. кардынал Юрый Радзівіл вырушыў на Радзіму, таксама і ў якасці члена спецыяльнай кангрэгацыі па справах Рэчы Паспалітай, задачай якой была падтрымка каталіцкага кандыдата на трон.

На элекцыйным Сойме 1587 г. у Варшаве кардынал Юрый Радзівіл, як і ўвесь яго род, выступіў на баку прадстаўніка Габсбургаў аўстрыйскага эрцгерцага Максіміліяна. Аднак перамог сын караля Швецыі Юхана III Вазы і Кацярыны Ягелонкі (дачкі Жыгімонта I Старога) Жыгімонт Ваза. Прыхільнікі Габсбургаў абвясцілі каралём Максіміліяна, з нагоды чаго кардынал Юрый Радзівіл нават адслужыў падзячную Імшу ў бэрнардынскім касцёле. І толькі калі Жыгімонт III Ваза быў каранаваны ў Кракаве, а Замойскі перамог Максіміліяна пад Бычынай, Літва прысягнула.



Пётр Скарга.
Кракаў. Касцёл св. Апосталаў Пятра і Паўла.

Свае пазіцыі ў Княстве новы кароль замацаваў выданнем прывілея, якім зацвярджаўся Статут ВКЛ 1588 года. Выхаванец езуітаў Жыгімонт III Ваза да пратэстантаў паставіўся жорстка (што каштавала яму шведскай кароны ў 1599 г.), у ВКЛ паплечнікаў было значна болей. Калі дысідэнты задумалі заснаваць у Вільні вышэйшую навучальную ўстанову, у супрацьвагу Віленскай акадэміі, кардынал Юрый Радзівіл забараніў гэта, спасылаючыся на каралеўскае распараджэнне.

У хуткім часе кардынал Радзівіл быў сярод найбліжэйшых дарадцаў караля. Падтрымліваў яго ва ўсіх пачынаннях — планах рэформаў, узмацнення каралеўскай улады, далучэнні Рэчы Паспалітай да антытурэцкай лігі і г.д. Выконваў усялякія дыпламатычныя даручэнні, скіраваныя на збліжэнне з Габсбургамі і Свяшчэннай Рымскай імперыяй. Кароль аддзячыў яму цыстэрцыянскім абацтвам у Ванхоцку, што было зацверджана біскупам Кракава 7 студзеня 1591 года.

Кардынал Юрый Радзівіл удзельнічаў у двух канклавах — 29 кастрычніка 1591 г. і 30 студзеня 1592 г. — пасля непрацяглых Пантыфікатаў Грыгорыя XIV і Інакенція IX. Разглядаўся ў якасці наступніка святога Пятра, але перашкодзіла ці тое, што своечасова яго не падтрымаў Жыгімонт III Ваза, як лічыць кс. Лэнтоўскі, ці яго малады ўзрост, як лічыць Эдвард Катлубай.

**Вучань Барамея і Беларміна**

31 траўня 1592 г. кардынал Юрый Радзівіл прымаў удзел у шлюбных урачыстасцях у Кракаве як папскі легат і біскуп Кракаўскі (інгрэс 25 траўня 1592 г.). Мабыць, Жыгімонт III Ваза быў слабым палітыкам, але добрым каталікам. Усевалад Ігнатоўскі ў сваім «Кароткім нарысе гісторыі Беларусі» пісаў пра яго «ўпартую каталіцкую палітыку» і пра тое, што кароль «больш цікавіўся пашырэннем каталіцтва, чым пашырэннем тэрыторыі гаспадарства». Ён не спыніўся перад тым, каб на пасаду біскупа Кракава быў прызначаны літвін (літвіны не маглі займаць сенатарскія крэслы ў Кароне), пайшоў на канфлікт з Янам Замойскім, паколькі дагэтуль абяцаў выдаць прывілей на біскупства для пляменніка нябожчыка караля кардынала Андрэя Баторыя, біскупа Вар-

мінскага. Самому кардыналу Радзівілу на г.зв. інквізіцыйным Сойме 1592 г. давялося трымаць адказ перад абвінавачваннямі каронных паслоў у тым, што Кракаўскае біскупства займае не па законе, і што менавіта з-за яго кароль парадніўся з Габсбургамі, да якіх большая частка шляхты, мякка кажучы, ніколі не мела сімпатыі. Кардынал Радзівіл годна трымаў удар і за сябе, і за караля. Ён так і застаўся біскупам Кракаўскім. У сваім служэнні раўняўся на ўзоры настаўнікаў — кардыналаў Карла Барамея і Рабэра Беларміна.

Кардынал Юрый Радзівіл быў адным з нешматлікіх каталіцкіх іерархаў, хто цалкам падтрымаў Берасцейскую Унію 1596 года.

### Слёзы Святога Айца

У сваё апошняе падарожжа ў Рым кардынал Юрый Радзівіл адправіўся на пачатку лістапада 1599 г., каб удзельнічаць ва ўрачыстасцях Юбілейнага году. У дарозе ён захварэў на грып ці ангіну з наступствамі вострага рэўматызму і да Рыма дабраўся толькі 20 снежня, але, нягледзячы на пакуты, здолеў прыняць удзел у некаторых урачыстасцях і як пілігрым наведаць святыя месцы. Стан пагаршаўся, і выправіць яго не здолеў нават асабісты лекар Святога Айца. 15 студзеня кардынал прыняў сакрамэнт намашчэння хворых, 20 студзеня паміраючага наведаў Клімэнт VIII, які не мог стрымаць слёз разам з атачэннем кардынала. Папа звярнуўся са словамі падтрымкі да кардынала, удзяліў адпусты і благаславіў. Смерць прыйшла 22 студзеня 1600 г. (ёсць вельмі цікавы, грунтоўны артыкул торуньскага даследчыка Славаміра Цэндроўскага ў часопісе «*Klio*», № 4 за 2014 г., з новымі дадзенымі пра смерць і пахаванне кардынала Радзівіла). Галоўнае жалобнае набажэнства цэлебраваў кардынал Белармін. Паводле апошняй волі, кардынал Юрый Радзівіл быў пахаваны ў Рыме ў езуіцкім касцёле Іль Джэзу.

### След у гісторыі

Не трэба прыгожых фразаў. Дастаткова на заканчэнне пералічыць толькі некаторыя заслугі святой памяці кардынала Юрыя Радзівіла, гэтага непахіснага барацьбіта Контррэфармацыі, перад Касцёлам і Бацькаўшчынай.

Ён спрычыніўся да заснавання Віленскага ўніверсітэта (була Грыгорыя XIII ад 30 кастрычніка 1579 г.) і ў далейшым быў адзіным з яго дабрадзеяў. Быў абвешчаны канцлерам універсітэта, і з таго часу гэты ганаровы тытул быў ва ўсіх біскупаў Віленскіх.

Быў заснавальнікам і фундатарам дыяцэзіяльных семінарыяў у Вільні (12 студзеня 1582 г.) і Кракаве; фундатарам езуіцкага калегіўма ў Любліне; фундатарам парафіяльных касцёлаў у Старынках і Пяршаях; фундатарам рэстаўрацыйных працаў у віленскім касцёле св. Ганны і ў рыжскім касцёле св. Якуба, якія забраў у пратэстантаў і вярнуў езуітам; фундатарам касцёла св. Пятра ў Кракаве; падтрымліваў фундацыі свайго брата Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі.

Захавалася шмат хвалебных сведчанняў яму. Іх цяжка пералічыць, лепш проста разгарнуць «Агульны катэхізіс» у малітоўніку, дзе змешчаны пералік учынкаў міласэрнасці для душы і цела бліжняга, пералік хрысціянскіх цнотаў, дароў і пладоў Святога Духа, якімі быў шчодра надзелены кардынал Юрый Радзівіл.

Нехта, праўда, бачыў і іншае ў яго характары і ў яго паводзінах, не пазбаўленых недахопаў і чалавечых слабасцяў. Але «…па іхніх пладах пазнаеце іх» (Мц 7, 16).

**ЛІТАРАТУРА**


1. Ігнатоўскі У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. — Мінск: Беларусь, 1991.
2. Нарысы гісторыі Беларусі. У 2-х ч. Ч. 1. Касцюк М.П, Ісаенка У.Ф., Штыхаў Г.В. і інш. — Мінск: Беларусь, 1994.
3. Петрус Е., Карповіч Т. Партрэты знакамітых постацяў даўняй Рэчы Паспалітай у мінскіх зборах. Каталог выставы. — Кракаў, 1991.
4. 100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі / Уклад. Саверчанка І., Санько Зм. — Мінск: рэдакцыя газеты «Звязда», 1993.
5. Беллярмин Роберт // Энциклопедический словарь, Брокгауз и Ефрон. Т. 2. — Москва: Большая Российская энциклопедия, 1992. — С. 48–49.
6. Борромео Карло // Энциклопедический словарь, Брокгауз и Ефрон. Т. 2. — Москва: Большая Российская энциклопедия, 1992. — С. 445–446.
7. Исидор // Энциклопедический словарь, Брокгауз и Ефрон. Т. 5. — Москва: Большая Российская энциклопедия, 1994. — С. 355–356.
8. Лозинский С. Г. История папства. — Москва: Политиздат, 1986.
9. Archiwum Jana Zamojskiego. T. I. — Warszawa, 1904.
10. Cendrowski S. Nowe ustalenia w kwestii śmierci i pochówki kardynała Jerzego Radziwiłła (1556–1600) // Klio. T. 31(4), 2014. — S. 19–41.
11. Kotłubaj E. Galeria Nieświeżska portretów Radziwiłłowskich. — Wilno, 1857. — S. 249–256.
12. Kurczewski J. Kościół zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym, ekonomicznym rozwoju. T. I. — Wilno, 1908. — S. 76–95.
13. Kwiatkowska-Frejlich L. Jerzego Radziwiłła kryteria oceny sztuki. Na podstawie jego dziennika podróży do Rzymu w 1575 r. // Czasopismo Naukowe «Kultura i Historia» — [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.kulturaihistoria.umcs.lublin.pl / Час доступу: 25.02.2017.
14. Müller W. Radziwiłł Jerzy // PSB. T. XXX/2 zeszyt 125. — Wrocław – Warszawa – Kraków – Gdańsk – Łódź, 1987. — S. 229–234.
15. Niesiecki K. Herbarz polski. T. VIII. — Lipsk, 1841. — S. 67–69.
16. Polska a Inflanty // Pamiętnik Instytuta Bałtyckiego. XXXIX seria Bałticum, zeszyt 14. — Gdynia, 1939.
17. Przyjałgowski W. Żywoty biskupów wileńskich. T. II. — Petersburg, 1860.
18. Tazbir J. Piotr Skarga szermierz kontrreformacji. — Warszawa, 1987.
19. Tyszkowski K. Polska polityka kościelna w Inflantach (1581 — 1621). — Gdynia, 1939.
20. Łętowski L. Katalog biskupów, prałatów i kanoników krakowskich. T. II. — Kraków, 1852.— S. 145–152.
21. Zalęski S. Jezuici w Polsce. — Kraków, 1908.


[1] Ігар Ганчарук першым кардыналам у Беларусі называе Мітрапаліта Кіеўскага Ісідора (XV ст.) (ЭГБ. Т. 4. С. 114). На нашу думку, гэта спрэчна, паколькі мітрапаліт Ісідор, дзеяч Фларэнційскай уніі, узведзены ў сан кардынала, як папскі легат толькі некаторы час меў дачыненне да Літвы, хутчэй як місіянер, у тым ліку ў Масковіі, Лівоніі і Валыні, дзе ажыццяўляў дзейнасць па аб’яднанні Касцёлаў заходняга і ўсходняга абрадаў.



# НА БОСКАЙ ДАЛОНІ

Мінулае стагоддзе прынесла на Беларусь безліч чалавечых ахвяраў у выніку вялікіх сусветных войнаў і небывалых па сваёй антычалавечнасці сацыяльных дыструкцый. Але ўжо больш за 70 гадоў наша краіна жыве пад мірным небам. На беларускай зямлі поруч з карэнным насельніцтвам знайшлі другую радзіму прадстаўнікі многіх народаў: створана цікавая супольнасць працалюбівых, талерантных, па-еўрапейску культурных і духоўна развітых людзей. І ў развіцці гэтай супольнасці вялікая роля Каталіцкага Касцёла, які ніколі не спыняў сваёй высакароднай місіі нават у часы забаронаў і прыгнёту і цяпер з'яўляецца неад'емнаю часткаю жыцця значнай колькасці нашых суайчыннікаў. Ад Касцёла зыходзяць многія ініцыятывы па захаванні сям'і, узорным маральным выхаванні моладзі, яе падрыхтоўкі да бацькоўскай адказнасці і іншых абавязкаў.

На жаль, у наш мірны час не адышла ў мінулае барацьба за жыццё ненароджаных, якім пагражае наўмыснае перапыненне цяжарнасці іх неразумных, легкадумных бацькоў. Гэта ганебная з'ява стала прыхаванай трагедыяй сучаснага грамадства. Варта толькі параўнаць: у нашых бабуляў было звычайна больш як чацвёра дзетак, і гэта ў часы нястачы і пасляваеннай галечы! А калі дабрабыт вырас і стала значна лягчэй і з дзіцячымі садочкамі, і з медыцынскім даглядам, і з матэрыяльным забеспячэннем па выхаванні самых маленькіх, мы назіраем дэмаграфічныя праблемы! Дзякуючы прынцыповай пазіцыі Касцёла ёсць надзея на пераадоленне і выкараненне такой антыгуманнай злачыннасці, як цынічнае права на забойства маленькага чалавека, які яшчэ не зведаў сонечнага святла, але ўжо адчуў сваё існаванне ў мацярынскім улонні.

З сярэдзіны 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў Беларусі распачалася акцыя «Духоўнага ўсынаўлення» ненароджаных. 25 сакавіка 2009 г. пробашч касцёла святога Юрыя і Маці Божай у вёсцы Пяршаі, што ў Валожынскім раёне Мінскай вобласці, францішканін, айцец Яраслаў Банасяк, таксама пачаў запісваць імёны вернікаў, якія духоўна ўсынаўляюць ненароджаных дзяцей з абяцаннем на працягу дзевяці месяцаў кожны дзень маліцца аб уратаванні жыцця ненароджаных: «Пане Езу, праз заступніцтва Марыі, Маці Тваёй, якая нарадзіла Цябе з любоўю, а таксама праз заступніцтва святога Юзафа, чалавека даверу, які апекаваўся Табою пасля нараджэння, — прашу Цябе ў інтэнцыі гэтага ненароджанага дзіцяці, якое духоўна хачу ўсынавіць і якое знаходзіцца ў небяспецы аборту. Прашу, дай яго бацькам любоў і адвагу, каб яны не забівалі свайго дзіцяці, а пакінулі яму жыццё, якое Ты сам гэтаму дзіцяці прадвызначыў. Амэн».

У 2012 г. іншы пробашч касцёла, францішканін з Івянца, айцец Сяргей Мігуль, увёў у практыку прамаўленне вернікамі гэтай штодзённай малітвы пасля святой Імшы. Кожны год з 25 сакавіка па 25 снежня парафіяне моляцца ў Пяршаях за ўсіх ненароджаных дзяцей, беручы абавязак іх духоўнага ўсынаўлення. Як бачым, многія вернікі не могуць пагадзіцца з думкаю, што сучасны свет усё больш становіцца эгаістычным, а матэрыяльныя даброты і хцівасць ператвараюцца ў пагрозлівы шлях ідавочнай дэградацыі і паступовага самазнішчэння.

На дапамогу светлым памкненням, як заўсёды ў вялікай і павучальнай гісторыі хрысціянскай культуры, прыходзіць мастацтва, якое ў выяўленчых формах мае вялікую моц пазітыўнага ўздзеяння. У 2016 г. пяршайскія вернікі вырашылі паставіць побач з уваходам у касцёл помнік, які будзе нагадваць кожнаму чалавеку аб найважнейшай Божай запаведзі — «Не забівай».

Стварыць помнік было даручана скульптару Валерыю Калясінскаму, які за мінулыя 25 гадоў ужо аздобіў мемарыяльнымі кампазіцыямі многія культавыя пабудовы ў Беларусі і за яе межамі. Сярод іх: бюст і медальён Стэфана Баторыя ў гродзенскім фарным касцёле святога Францішка Ксавэрыя (1994); рэканструкцыя мемарыяльнай шыльды ў памяць першага рэктара Віленскага ўніверсітэта, прапаведніка Пятра Скаргі на касцёле святога Андрэя ў Слоніме (1994); медаль духоўнай семінарыі і фарнага касцёла ў Гродне (1995); скульптура Мак-

сімільяна Кольбэ для капліцы ў Лурдзе (1997); мемарыяльная дошка пісьменніку С. Пясецкаму (1899–1964) у ляхавіцкім касцёле (1999); бюст і мемарыяльная шыльда кс. Курыловічу, пробашчу гродзенскага бэрнардынскага касцёла Адшукання Святога Крыжа (1999); мемарыяльныя знакі ксяндзам — благаслаўлёным Ахілесу і Герману (2001), якія былі расстраляныя фашыстамі ў Баравікоўшчыне (2001); рэлікварыі гэтым благаслаўлёным мучанікам у пяршайскім касцёле, а таксама ў Лодзі і Граеве (2002); скульптура Анёла на старых каталіцкіх могілках ў в. Эйсманты, што на Гродзеншчыне (2012); мемарыяльная шыльда ў гонар Ф. Рушчыца ў касцёле Міхала Арханёла ў Багданаве, на малой радзіме славутага мастака (2010); медальён, прысвечаны Маці Божай Пяршайскай (2016) і інш.

Практычна ўсе творы Валерыя Калясінскага — дабрачынная скульптурная дзейнасць дзеля духоўнага выхавання нашых сучаснікаў. Робіць ён гэта па закліку сэрца і з адчуваннем хрысціянскай адказнасці, бо паходзіць з каталіцкай сям'і, якая не адхіснулася ад сваіх духоўных традыцый дзеля прагматычных разлікаў і заўсёды захоўвала веру, што і дапамагае скульптару, выпускніку Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, вызначыць сваё творчае крэда і быць там, дзе патрабуе яго прафесійны і маральны абавязак. Скульптар, які не раз працаваў з каменем і добра адчувае вобразна-пластычныя магчымасці гэтага вечнага матэрыялу, абраў для сваёй задумы валун з шэра-ружовага граніту памерамі 170х251х185 м. Самі абрысы прыроднай формы падказалі яму выразную, адпаведную абранай тэматыцы кампазіцыю, — гэта вялікая далонь Стварыцеля свету і ўсяго жывога на зямлі, на якой утульна ляжыць, нібы ў гняздзечку, маленькае дзіцятка. Здаецца, што ад судакранання са скульптурна-сімвалічнай Боскай энергіяй немаўлятка насычаецца невычэрпным імпульсам жыццёвай сілы.

Валерый Калясінскі працаваў над сваёю задумаю больш за год. Вобразны кантраст у кампазіцыі быў дасягнуты ім не толькі праз абагуленасць формаў вялікай Божай далоні і маленькай фігуркі немаўляці, якое на ёй даверліва захоўваецца. Асабліва выразнаю атрымалася паліроўка граніту, што надае Далоні ў цэлым і асобным пальцам адчуванне звышнатуральнасці, надзвычайнай Бацькоўскай пяшчоты і лагоднасці.

Адказнасць, шчырасць, сардэчнасць — гэта неабходныя праявы бацькоўскіх адносінаў да сваіх дзетак, якіх яны трымаюць у сваіх руках, выхоўваюць, скіроўваюць на розныя жыццёвыя шляхі, і кожны, хто ўважліва разглядае такі незвычайны мастацкі твор, мабыць, пачынае гэта разумець.

У скульптуры В. Калясінскага няма нічога выпадковага і другаснага. Яе кругавы агляд таксама ўзбагачае ўражанні, падкрэсліваючы значнасць захавання новага жыцця ад самага яго зародку. На адваротным баку скульптурнай Далоні, на сімвалічных скрыжалях, высечаны лацінскія лічбы дзесяці Божых запаведзяў, пятая з якіх, пра захаванне жыцця, выдзелена асабліва рэльефна.

Кампазіцыя была ўрачыста асвечаная 8 красавіка 2018 г., у свята Божай Міласэрнасці, айцом Яраславам Банасекам. Скульптура змешчана ў вёсцы Пяршаі на пляцоўцы побач з двухвежавым парталам касцёла, які знаходзіцца ў цэнтры гэтага старадаўняга паселішча, непадалёк ад вялікай транспартнай магістралі Мінск–Гродна.

Несумненна, што пілігрымы, якія шукаюць падмацавання ў сваіх намерах малітваю і асабістым прыкладам зберагаць жыццё будучых пакаленняў, знойдуць сюды шлях і знойдуць




тут падтрымку. Ужо цяпер каля скульптуры людзі пакідаюць розныя памятныя рэчы, ускладаюць кветкі: твор пачынае выконваць сваю важную ролю як неад'емная частка шчырага духоўнага рытуалу.

За дзесяць гадоў шмат змянілася да лепшага на Валожыншчыне пад уздзеяннем пяршайскай парафіі. Павялічваецца колькасць шматдзетных сем'яў, ідзе актыўны працэс усынаўлення. Вучні з Пяршайскай сярэдняй школы, што знаходзіцца побач, кожны дзень бачаць гэтую скульптурную Боскую далонь і, напэўна, больш сур'ёзна ставяцца да свайго жыцця, хутчэй сталеюць.

Скульптурны твор В. Калясінскага мае выразную змястоўнасць, пераконвае ў духоўных прыярытэтах, якія вызначаюць развіццё грамадства, падтрымліваюць веру ў тое, што кожнае новае жыццё — гэта каштоўны Божы дар, які дае сапраўднае шчасце і сэнс зямному існаванню чалавека.

Выдатна, што сучаснае мастацтва скульптуры таленавіта ўвасобіла гэтую ідэю. Магчыма, што такі прыклад стане ўзорным і будзе пашырацца на іншыя асяродкі духоўнага жыцця нашай краіны і за яе межамі. І няхай Боская далонь падтрымлівае ўсе шчырыя ініцыятывы!

*Яўген Шунейка,*
*мастацтвазнаўца.*

